Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№44 (4639) 4 лістапада 2011 г.

U нумары:



# Беларус з Цюмені

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды шэрагу выбітных дзеячаў прамысловасці, навукі і культуры. Ордэнам Францыска Скарыны ўзнагароджаны Ганаровы консул Рэспублікі Беларусь у Цюмені, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Шугля.**

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота БелТА**



У дзелавых і культурных колах нашай краіны Уладзіміра Фёдаравіча ведаюць як нястомнага працаўніка па наладжванні добрасуседскіх стасункаў з расійскай Цюменню. Прэзідэнт холдынгавай кампаніі "Гандлёвы дом "Мангазея", старшыня каардынацыйнага савета нацыянальна-культурных аб'яднанняў і нацыянальна-культурных аўтаномій Цюменскай вобласці, старшыня Савета Цюменскай абласной грамадскай арганізацыі "Саюз — інтэграцыя братніх народаў", ён беларус і добры сябра беларусаў.

З 2010 года Уладзімір Шугля — член Кансультатыўнага Савета па справах беларусаў замежжа Рэспублікі Беларусь. Яго імя ўнесена ў энцыклапедыю "Хто ёсць хто сярод беларусаў свету".

Бацька Уладзіміра Фёдаравіча быў ваенным, паходзіў з Карэлічаў Гродзенскай вобласці. Мама — з Барысава. Перад самай вайной бацьку накіравалі ў Новасібірск. У Расіі Уладзімір Фёдаравіч і нарадзіўся. "Мама і тата шмат расказвалі пра Беларусь. Калі б не запамінаў, не стварыў бы сваё радаводнае дрэва, — распавядае Ганаровы консул. — Ездзіў у Беларусь часта, знайшоў некалькі сем'яў з такім жа прозвішчам — яно досыць рэдкае і па-беларуску, пэўна, гучыць з націскам на першым складзе".

"Нашы людзі калі памятаюць імя па бацьку свайго дзеда, гэта добра, а я адшукаў братоў ажно восьмага калена, — распавядае пра сябе і вытокі сваёй цікаўнасці да Беларусі Уладзімір Фёдаравіч. — У Карэліцкім раёне знайшоў, здаецца, сем сем'яў з такім рэдкім прозвішчам. Шугалей — гэта, як мне патлумачылі, даўбёнка, напэўна, нехта выраблю чаўны ды плаваў на іх. Ва ўсялякім разе, сувязь з вадою дакладная. А пачынальнік майго роду — Ясь".

Уладзімір Фёдаравіч звязаў свой лёс з многімі беларускімі праектамі, шмат якія распачынаў сам. Першапачаткова, калі сабралася чалавек сем, стварыў у Цюмені беларускае сацыяльна-культурнае таварыства. Шмат беларусаў былі задзейнічаны ў будаўніцтве заходнесібірскага нафтагазавага комплексу. У Цюменскім краі жывуць каля 50 тысяч беларусаў. "Ці застаецца колькасць стабільнаю?" — пытаюся ў Ганаровага консула.

"Часам лічба называецца значна меншая, — адказвае суразмоўца. — Я не веру ў яе: цяпер у перапісе насельніцтва неяк невыразна гучаць іншыя нацыянальнасці. А папросту, народ жа адзіны! Мы вельмі блізкія адно да аднаго. І я вырашыў лепш дазнацца пра свой народ. Так выйшлі на гандлёва-эканамічныя адносіны. Тым больш што сам я прэзідэнт кампаніі "Мангазея". Гэта першы рускі горад у Сібіры, пабудаваны ў 1601 — 1607 гадах, горад-крэпасць. Шмат было там ліцвінаў, беларусаў. Так што "Мангазея" для мяне значыць "першапраходца". Цяпер Цюменская вобласць па таваразвароце з Беларуссю займае ў Расіі першае месца.

У газеце "Тюменская правда" цяпер выходзіць дадатак "Саюз — інтэграцыя братніх народаў", да з'яўлення якога непасрэдна спрычыніўся консул. У ім расказваецца пра здабыткі нашай прамысловасці, пра гістарычную спадчыну Беларусі і ролю яе ў Вялікай Айчыннай вайне, пра магчымасці далейшага супрацоўніцтва. Ёсць рубрыка "Гаворым па-беларуску": дзякуючы пагадненню аб супрацоўніцтве, падпісанаму летась паміж Цюменскім і Беларускім дзяржаўным універсітэтамі ў Цюменскім інстытуце філалогіі і журналістыкі аднавілася вывучэнне беларускай мовы. Цяпер чакаецца падпісанне дамовы аб супрацоўніцтве паміж Цюменскай акадэміяй культуры і Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў.

З высокай трыбуны ўсё часцей адкрыта гаворацца, што развіццё эканомікі і падтрымка нацыянальнай культуры маюць агульную мэту — захаванне самаідэнтыфікацыі кожнай нацыі. "І я галосна заяўляю: не эканоміка рухае наша супрацоўніцтва, а культура. Менавіта ад культуры ідзём да эканомікі". Уладзімір Шугля мае дзве вышэйшыя адукацыі — па эканоміцы і паліталогіі: скончыў Свярдлоўскі інстытут народнай гаспадаркі і Уральскі сацыяльна-палітычны інстытут. А яшчэ ён пры ўсёй сваёй занятасці і дзелавой хватцы — нястомны лірык. Тры яго кнігі пабачылі свет у Беларусі, у РВУ "Літаратура і Мастацтва". Апошняя — "Дарога да дому..." — толькі-толькі выйшла ў свет.

Яго вершы — пераважна грамадзянскага гучання, сустракаецца прыгожая, узнёслая лірыка, дзе аўтар не баіцца быць сентыментальным і здольны спыніцца, захапіўшыся раптам убачаным прыгожым краявідам. "За тры гады я пабываў у трох паломніцтвах. І штораз успамінаю простае выказванне хлопчыка з казкі "Папялушка": "Я не чараўнік, я толькі вучуся". Калі бачыш пячоры, манастыры ў завоблачных высях, забываешся на ўсё на свеце. І важнае толькі малітоўнае стаянне..." Творца мае свой почырк, і яго аўтарскае прызнанне — "не люблю доўгіх вершаў, чалавеку ў неспакойны час няма калі чытаць" — таксама зразумелае. Галоўнае, лічыць аўтар, знайсці штосьці такое, "каб адгукнулася душа". І я прачытваю "Рытмы лёсу" Уладзіміра Шуглі:

*Дзе розум*
*з мудрасцю — сябры*
*І волі дух іх не пакінуў,*
*Са старажытнае пары*
*Славутых спраў*
*ляжыць сцяжына.*

Так гучыць ён у перакладзе на беларускую. Хаця ў гаворцы цюменца не-не ды і праскокваюць беларускія слоўкі ды толькі нашыя інтанацыі... І ён, шукаючы адказу на спрадвечнае пытанне, дае творцам-сучаснікам параду: у чалавека павінны быць два крылы: адно лірычнае, творчае, другое — дзелавое. Тады, варта спадзявацца, усё атрымаецца.

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды і дзяржаўныя прэміі заслужаным людзям краіны. "Гэтыя ўзнагароды сімвалізуюць тую вяршыню, да якой вы ішлі, пераадольваючы цяжкасці і знаходзячы аптымальныя рашэнні, — выказаўся Кіраўнік дзяржавы на цырымоніі ўручэння. — І цяпер вашы поспехі натхняюць калег і моладзь, з'яўляюцца арыенцірам для тых, хто ідзе за вамі". Сярод узнагароджаных — вядомыя дзеячы культуры і мастацтва, а таксама шэраг журналістаў.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Паўла Барадзіна ордэнам Айчыны III ступені за значны асабісты ўнёсак у будаўніцтва Саюзнай дзяржавы і ўмацаванне шматпланавых беларуска-расійскіх стасункаў.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку СССР Галіну Вішнеўскую, народнага артыста Расійскай Федэрацыі Мікалая Баскава і народную артыстку РСФСР Жанну Болатаву з юбілеямі.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ "Аб мерапрыемствах, прысвечаных 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа". Прадугледжана правядзенне ў краіне і па-за яе межамі прысвечаных юбілею святочных мерапрыемстваў, стварэнне тэматычных літаратурна-мастацкіх публіцыстычных праграм на тэлебачанні і радыё, выданне кніг пра іх жыццё і творчасць, правядзенне капітальнага рамонту літаратурных музеяў і іншае.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" начальніка Іванаўскага раённага аддзялення "Брэстаблсаюздрук" Алену Краўчук, аглядальніка рэдакцыі газеты "7 дней" Вячаслава Дутава, намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская думка" Таццяну Шаблыку, рэдактара аддзела палітыкі, эканомікі і навукі часопіса "Беларуская думка" Галіну Махнач.

V Міжнародны фестываль тэатральнага мастацтва "Панарама" пройдзе ў Мінску 20 — 27 лістапада. У гэтым годзе свае пастаноўкі на форуме прадставяць тэатры пяці краін: Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, Венгрыі. Арганізатарамі форуму выступілі Міністэрства культуры Беларусі, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт і Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

Студэнты, педагогі і творчыя калектывы Гомельскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў дадуць тры дабрачынныя канцэрты ў лістападзе. Канцэрты пройдуць у палацы Румянцавых-Паскевічаў пад агульнай назвай "Ступені майстэрства. Да 90-годдзя каледжа мастацтваў". Маладыя артысты і іх настаўнікі прадставяць сусветныя шэдэўры акадэмічнай, эстраднай і джазавай музыкі. Выручаныя грашовыя сродкі будуць накіраваныя на ўзвядзенне новага будынка Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Першая чарга рэстаўрацыі Жыліцкага палацава-паркавага ансамбля адкрыта ў Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці. Аднаўленне гісторыка-культурнага аб'екта XVIII — пачатку XIX стагоддзя было распачата ў 2009 годзе. Другую чаргу рэстаўрацыі плануецца завяршыць да 2015 года. У палацы размесціцца музейная экспазіцыя, міні-гасцініца, сельская бібліятэка і Жыліцкая школа мастацтваў.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# З Турцыі — у Афрыку

**У рамках II з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі адбылася міжнародная сустрэча за "круглым сталом", прысвечаная пытанням глабалізму літаратуры. Сімвалічна, што яна праходзіла ў мемарыяльнай зале Дома літаратара, дзе побач з Дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь і сцягам СПБ змешчаны партрэты больш як двухсот пісьменнікаў — ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.**

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

Адкрываючы сустрэчу, Мікалай Чаргінец падкрэсліў, што сёння ў свеце пануе вострая сацыяльна-палітычная нестабільнасць: военныя, нацыянальныя і міжканфесійныя канфлікты, агрэсіўныя выступленні моладзі, галеча... У сувязі з гэтым узмацняецца роля творчай інтэлігенцыі. Менавіта пісьменнікі павінны знаходзіць адказы на складаныя пытанні, якія дыктуе жыццё і якія хвалююць людзей. І такіх творцаў нямала.

Тэме вайны і міру, абароне духоўных каштоўнасцей прысвечана кніга Харуна Такака "Яны не дачакаліся раніцы" — другая ў серыі "Бібліятэка турэцкай літаратуры", заснаванай беларускім выдавецтвам "Чатыры чвэрці". Серыя — сумесны праект Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў і журналістаў Турцыі. Х. Такак займаў розныя пасады ў Міністэрстве народнай адукацыі і ва ўпраўленні па справах рэлігіі, працаваў кансультантам пры канцылярыі прэм'ер-міністра Турцыі. Ён з'яўляецца сустаршынёй платформы "Дыялог Еўразія". Сустаршыні гэтага грамадскага аб'яднання — старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Ганічаў, прафесар Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзімір Сергайчук, маскоўскі пісьменнік Расціслаў Рыбакоў, а таксама акадэмік НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў, а таксама іншыя ўдзельнікі "круглага стала" падкрэслівалі, што творы, якія ўвайшлі ў кнігу, вызначаюцца вострым сюжэтам, эмацыянальнай насычанасцю, глыбокай драматычнасцю. Яны вымушаюць чытача суперажываць героям — змагарам за шчасце народнае.

Турэцкая пісьменніца Нэваль Сэвіндзі адзначыла, што яе знаёмства з беларускай літаратурай пачалося з рамана "Сыны" Мікалая Чаргінца. На савецка-афганскую вайну яна паглядзела вачыма савецкіх салдат, якія з гонарам выконвалі інтэрнацыянальны абавязак.

Выступоўцы падкрэслівалі, што варта і надалей пашыраць творчыя сувязі не толькі з Турцыяй, але і з іншымі краінамі Азіі і Афрыкі. Ініцыятыва абмену перакладамі карысная для яднання народаў. Харун Такак расказаў пра працу над кнігай, творчыя планы, перспектывы развіцця супрацоўніцтва паміж пісьменнікамі Турцыі і Беларусі.

Удзельнікі "круглага стала" цёпла віталі выступленне члена выканаўчага камітэта Саюза арабскіх пісьменнікаў Ібрагіма Аль-Джарадзі. Па яго ініцыятыве аднагалосна прынята рэзалюцыя ў падтрымку намаганняў сірыйскага народа супраць ваеннай дыктатуры ЗША.

# Вітаем пісьменніка-ветэрана

Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ

**Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны работнік культуры БССР, ганаровы грамадзянін Любанскага раёна, лаўрэат многіх літаратурных прэмій Іван Муравейка сустрэў свой 90-гадовы юбілей.**

У Любанскай школе мастацтваў адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная ўшанаванню вядомага пісьменніка.

Старшыня раённага выканаўчага камітэта Васіль Акуліч зачытаў віншаванне юбіляру ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі. Першы намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Мінскага аблвыканкама Таццяна Хмель уручыла паэту Ганаровую грамату.

Дыпломамі, граматамі, віншавальнымі адрасамі, падарункамі і цёплымі словамі віталі Івана Муравейку намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя" Уладзімір Мазго, начальнік аддзела культуры Любанскага райвыканкама Васіль Каткавец, былы дырэктар Тальскай сярэдняй школы Валянціна Лазоўская, старшыня раённага грамадскага аб'яднання ветэранаў Тамара Хаустовіч, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вясёлка" Анастасія Радзікевіч і іншыя.

Усе выступоўцы былі аднадушныя ў тым, што пісьменнік-ветэран Іван Муравейка, які сваё жыццё і творчасць прысвяціў роднай Любаншчыне, заслугоўвае асаблівай увагі і пашаны.

Школьнікі і самадзейныя артысты чыталі вершы паэта-земляка, выконвалі песні на яго словы. У сваю чаргу, Іван Муравейка падзякаваў выступоўцам за цёплыя і шчырыя словы, выказаў пажаданне, каб усе прысутныя ў зале змаглі прыйсці і на яго 100-гадовы юбілей.

## З нагоды

# Даніна памяці першаму рэктару

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Мемарыяльная дошка акадэміку Уладзіміру Пічэту з'явілася на будынку гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

Ён любіў Беларусь. Серб па бацьку, украінец па маці, акадэмік Уладзімір Іванавіч Пічэта, будучы прызначаным у 1921 годзе першым рэктарам Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта, прыехаў у Мінск не дзеля таго, каб застацца тут чужынцам. Ён захапіўся беларускай гісторыяй і культурай, напісаў 150 навуковых прац, прысвечаных Беларусі, і, бадай, самае галоўнае — стварыў сапраўдны нацыянальны ўніверсітэт, дзе выхоўвалася беларуская інтэлігенцыя.

У. Пічэта зрабіў для Беларусі так шмат, што павінны быў быць ушанаваны значна раней. Але мемарыяльная дошка выдатнаму вучонаму і незвычайнай асобе з'явілася толькі цяпер. Выкананая архітэктарам Юрыем Градавым і скульптарам Сяргеем Логвінам, дошка была адкрыта на будынку гістарычнага факультэта. Менавіта тут з 1921 па 1929 год размяшчаўся кабінет Уладзіміра Пічэты. Сённяшні гістфак месціцца ў сапраўды гістарычным будынку — ён быў першым з шэрагу ўніверсітэцкіх. Пра гэта цяпер сведчыць і ахоўны знак "Дом нумар 1 БДУ".

На цырымоніі адкрыцця мемарыяльнай дошкі і знака прысутнічалі і выступалі з прамовамі цяперашні рэктар БДУ Сяргей Абламейка і дэкан гістарычнага факультэта Сяргей Ходзін.

# З юбілеем, alma mater!

Ірына ТУЛУПАВА

**У дні юбілейных урачыстасцей з нагоды святкавання 90-годдзя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта адбылася сустрэча рэктара Сяргея Абламейкі з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі.**

Вядучая навучальная ўстанова краіны багатая на здабыткі: тут адкрываюцца новыя спецыяльнасці, забяспечваецца цеснае супрацоўніцтва навукі і вытворчасці. Як адзначана ў віншаванні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, "...у сценах БДУ падрыхтаваны дзясяткі тысяч высокапрафесійных спецыялістаў, якія плённа працуюць у сістэме дзяржаўнага кіравання, рэальным сектары эканомікі і сацыяльнай сферы".

БДУ — магутная стабільная арганізацыя, здольная імкліва развівацца. І, паводле слоў рэктара Сяргея Абламейкі, колькасць жадаючых тут вучыцца павялічваецца. Расце і колькасць замежных студэнтаў. Так што ёсць усе падставы гаварыць, што экспарт адукацыйных паслуг, як, між іншым, і навукова-вытворчых, расце. Замацоўваецца міжнародны аўтарытэт ВНУ: сярод больш як 20 тысяч універсітэтаў свету Беларускі дзяржаўны паводле рэйтынгу брытанскага агенцтва QS знаходзіцца ў групе, якая займае 501-ю — 550-ю пазіцыі; паводле сусветнага рэйтынгу Webometrics — 1208-ю пазіцыю.

Пры канцы камернай сустрэчы адбылося ўзнагароджанне граматамі БДУ журналістаў рэспубліканскіх СМІ.

Нечаканым і скіраваным у будучыню стаўся заключны акорд сустрэчы, калі ў Габеленавую залу рэктарата з віншаваннямі ўвайшлі… прадстаўнікі "Раскосмасу". Аэракасмічная адукацыя і даследаванні — адзін з новых кірункаў дзейнасці ўніверсітэта, які ідзе па шляху інавацыйнага развіцця. З нядаўняга часу тут можна набыць спецыяльнасць "аэракасмічныя тэхналогіі і сістэмы". Агулам жа ў вядучай ВНУ краіны 25 факультэтаў і інстытутаў, ліцэй і каледж, у якіх навучаецца 35,5 тысячы грамадзян.

## Новы праект

# Шаснаццаць плюс пяць

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**Упершыню ў нашай краіне па ініцыятыве Міністэрства культуры Беларусі ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў ажыццяўляецца новы конкурсны праект: "Нацыянальная музычная прэмія ў галіне эстраднага мастацтва". З гэтай нагоды ў сімвалічным для айчыннай эстрады месцы — Музеі Уладзіміра Мулявіна, размешчаным у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, — адбылася прэс-канферэнцыя.**

На сустрэчу з журналістамі завіталі першы намеснік міністра культуры Уладзімір Карачэўскі, намеснік генеральнага дырэктара ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" Павел Караневскі, народны артыст Беларусі Аляксандр Ціханович, эстрадныя спевакі Ганна Шаркунова і Аляксей Хлястоў, а таксама дырэктар музея — Святлана Пенкіна-Мулявіна. У размове пра новы праект, арганізатарамі якога з'яўляюцца Міністэрства культуры і Сталічнае тэлебачанне, была звернута ўвага на тыя ініцыятывы міністэрства, што спрыяюць актывізацыі сённяшняга творчага жыцця ў краіне, падтрымцы нацыянальнай культуры. Вось і Нацыянальная музычная прэмія ў галіне эстраднага мастацтва заснаваная з мэтай развіцця адпаведнай сферы, стварэння ўмоў для прасоўвання творчасці таленавітых выканаўцаў, павышэння прэстыжу беларускіх аўтараў, артыстаў, іншых прадстаўнікоў эстраднай музычнай галіны. "Механізм" правядзення гэтага конкурсу — не догма, з гадамі можа мяняцца. Пакуль жа лепшыя з лепшых будуць, на аснове пададзеных заявак, вызначацца экспертным саветам (а таксама праз інтэрактыўнае галасаванне тэлегледачоў — для вызначэння пераможцы сярод прэтэндэнтаў на прыз глядацкіх сімпатый).

У Нацыянальнай музычнай прэміі 16 намінацый ("Лепшая песня года", "Лепшы жаночы вакал", "Адкрыццё года", "Лепшы аўтар слоў", "Лепшая песня на беларускай мове", "Лепшы кліп года", "За ўнёсак у развіццё беларускай эстрады", "Лепшы прадзюсар", "Зорачка года" ды інш.) і 5 спецыяльных прызоў. Скульптар А. Хацяноўскі стварыў арыгінальную статуэтку-прыз для пераможцы, кампазітар Я. Алейнік напісаў музычныя пазыўныя — "голас" праекта... Развязка конкурснай інтрыгі адбудзецца 13 снежня ў Палацы Рэспублікі, калі ва ўрачыстай атмасферы пройдзе ганараванне лаўрэатаў. Іх чакаюць дыпломы, спецыяльныя прызы, грашовыя прэміі — і пачэснае месца ў гісторыі беларускага эстраднага музычнага мастацтва.

Літабсягі

# Упершыню — поўныя тэксты



Алена ЦІТАВЕЦ,
Іна МУРАШОВА,
супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася прэзентацыя найноўшых даследаванняў, якія выйшлі ў Выдавецкім доме "Беларуская навука" ў 2011 г. Гэта тры найцікавейшыя кнігі: "Беларусь: старонкі гісторыі"; "Вялікае Княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV — XV стст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі" і "Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI — XVIII стст."**

Адкрываючы імпрэзу, прымеркаваную да святкавання 75-годдзя Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, акадэмік-сакратар Аляксандр Каваленя адзначыў, што адна з адказных задач навукоўцаў — садзейнічаць захаванню гісторыка-культурнай спадчыны беларускага народа, яго культуры, гісторыі, мовы і літаратуры. Ён перадаў у фонд бібліятэкі зборнікі з серыі "Фальклор і літаратурныя помнікі краін СНД".

З прэзентацыяй названых выданняў выступілі іх аўтары і складальнікі. Кнігу "Беларусь: старонкі гісторыі" прадставіў дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Вячаслаў Даніловіч. Выданне ўяўляе сабой канцэптуальнае гістарычнае даследаванне на аснове найноўшых метадалагічных падыходаў. У ім у сціслай, але інфармацыйна насычанай форме прадстаўлена шырокая панарама гістарычнага шляху Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён, раскрыта роля беларускага народа ў развіцці еўрапейскай цывілізацыі.

У зборнік "Вялікае Княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV — XV стст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі" ўвайшлі пашыраныя варыянты дакладаў, прачытаных на міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 600-годдзю Грунвальдскай бітвы. Выданне прадставілі супрацоўнікі Інстытута гісторыі Аляксандр Жлутка і Аляксандр Шаланда, артыкулы якіх таксама змешчаны ў зборніку. Навукоўцы акрэслілі тэматыку пытанняў, якія закранулі ў сваіх даследаваннях аўтары (Э. Зайкоўскі, А. Дзярновіч, А. Груша і інш.). Сярод іх — этнічная і канфесійная сітуацыі на беларускіх землях на мяжы XIV — XV стагоддзяў, удзел тытулаванай знаці ВКЛ у Грунвальдскай бітве, фарміраванне адносін да бітвы ў асяроддзі старабеларускай эліты.

Кнігу "Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI — XVIII стст." прэзентаваў яе складальнік і перакладчык, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Аляксандр Бразгуноў. У выданні ўпершыню падаюцца поўныя тэксты шэдэўраў айчыннай паэтычнай спадчыны, якія былі створаны на старабеларускай і стапольскай мовах у часы Вялікага Княства Літоўскага ў XVI — XVIII стст. Сярод іх — арыгіналы і пераклады на сучасную беларускую мову твораў такіх пісьменнікаў, як Цыпрыян Базылік, Станіслаў Кулакоўскі, Сімяон Полацкі, Ян Пратасовіч, Удальрык Крыштаф Радзівіл, Францішка Уршуля Радзівіл, Дамінік Рудніцкі, Андрэй Рымша, Мацей Стрыйкоўскі і інш.

*На здымку: дырэктар ЦНБ НАН Беларусі Наталля Бярозкіна і акадэмік-сакратар Аляксандр Каваленя падчас прэзентацыі.*

Артлінія

# Маё юнацтва — Мінск



**Дзяцінства, юнацтва, сталенне і станаўленне многіх мастакоў непарыўна звязана з Мінскам. Нехта тут нарадзіўся, хтосьці прыехаў набываць веды ў мастацкіх вучэльнях, вышэйшых навучальных установах. Так ці інакш, але лёс кожнага з іх знітаваўся з нашай сталіцай. Таму сугучнай падаецца і выстаўка аб'яднання "Традыцыя", якое знаходзіцца ў складзе Беларускага саюза мастакоў, "Мінск — горад майго юнацтва", на якую запрашае Нацыянальны гістарычны музей Беларусі.**

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

Як вынікае з назвы, тэматыка выстаўкі прысвечана сталіцы. Экспазіцыя паўстае своеасаблівай прадмовай мерапрыемстваў, прымеркаваных да 945-годдзя Мінска, якое наш горад адзначыць у наступным годзе. Час бяжыць — Мінск дынамічна мяняе сваё аблічча. У памяці застаецца яго вобраз, які нараджае лёгкае пачуццё настальгіі. Мэта выстаўкі — на прадстаўленых палотнах зафіксаваць метамарфозы, што адбываюцца з тварам Мінска, а таксама выказаць павагу і трапяткія адносіны да горада юнацтва старэйшага і малодшага пакаленняў.

На ўрачыстым адкрыцці выстаўкі "Мінск — горад майго юнацтва" слова бралі дырэктар музея Сяргей Вечар, намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі, першы намеснік старшыні БСМ Рыгор Сітніца, народны мастак нашай краіны Май Данцыг, кіраўнік аб'яднання "Традыцыя" Уладзімір Уродніч. Выступоўцы адзначалі, што якім бы ні было мастацтва яно павінна і мусіць быць розным, але без захавання традыцый нічога людскага ў свеце і грамадстве не можа быць збудавана. Члены аб'яднання беражліва захоўваюць мастацкія традыцыі, прытрымліваюцца рэалістычнай школы мастацтва, робяць усё, каб мастацкія традыцыі ад папярэдніх, сённяшніх пакаленняў перадаваліся заўтрашнім. Экспазіцыя — як бы творчая справаздача перад сваім горадам, а таксама выказванне любові да яго.

На выстаўцы прадстаўлена каля сарака жывапісных работ вядомых майстроў беларускага мастацтва: Георгія Паплаўскага, Мая Данцыга, Барыса Аракчэева, Кіма Шастоўскага, Леаніда Дударэнкі, Мікалая Апіёка, Уладзіміра Уродніча, Аляксея Панцюка-Жукоўскага, Віктара Барабанцава, Мікалая Мішчанкі і іншых творцаў.

Мастакі аб'яднання "Традыцыя" за аснову ўзялі наступныя прынцыпы: мастацкая праўда, рэалістычны метад адлюстравання, сцвярджэнне дабрыні, выяўленне лепшых чалавечых якасцей беларусаў. Яны з павагай ставяцца да пласта жывапісу і іншых плыняў мастацтва. У суполцы, у асноўным, сабраліся аднадумцы, якія дзейнічаюць у межах задач, пастаўленых БСМ. Яны — не замкнёнае кола, да іх ініцыятывы могуць далучацца ўсе, для каго важнымі з'яўляюцца рэалістычнае мастацтва ды грамадзянская пазіцыя.

*На здымку: Май Данцыг "Мой Мінск".*

Повязі

# Дарасці да наміналта

**Пасяджэнне па пытаннях вылучэння кандыдатаў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва і яе прысуджэння прайшло ў форме "круглага стала" — адкрытага дыялогу ўсіх зацікаўленых. Удзел у ім узялі прадстаўнікі Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, Экспертнага савета па прэміях Саюзнай дзяржавы, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, саюзаў пісьменнікаў і мастакоў Беларусі і Расіі, НББ, Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, а таксама іншых устаноў і ведамстваў.**



Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА

Як зазначыў намеснік Дзяржаўнага сакратара — член Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза, вопыт мінулых гадоў паказаў, што ёсць пэўныя недахопы ў вылучэнні кандыдатаў на прэмію. І прысутныя ахвотна выступалі з прапановамі. Некаторыя датычылі прыцягнення як мага большай колькасці ўдзельнікаў, а значыць, і жанраў, якія будуць прадстаўлены ў намінацыях. Дарэчы, калі казаць пра колькасць удзельнікаў, нельга не згадаць і наступнае пытанне: ці варта (і калі так, то якім чынам) уключаць моладзь? Прысутныя пагадзіліся: маладыя творцы таксама павінны ўдзельнічаць у конкурсе. А вось на якіх умовах — будзе для іх асобная намінацыя ці агульны са сталымі творцамі конкурс, — пакуль невядома. Галоўнае, каб гэта не знізіла планку работ, аўтары якіх намініруюцца на прэмію, і, адпаведна, статус самога конкурсу.

Актыўна ў размову ўключыліся прадстаўнікі музеяў і бібліятэк, у межах якіх рэалізуюцца праекты, якія па значнасці і маштабе могуць прэтэндаваць на прэмію Саюзнай дзяржавы.

Уздымалася і праблема асвятлення самога конкурсу: а ці шмат людзей пра яго ведае, ці могуць грамадзяне Беларусі і Расіі назваць лаўрэатаў прэміі? Для вырашэння гэтых пытанняў ужо зроблены пэўныя крокі. Так, у гэтым годзе быў створаны сайт, на якім праходзіла галасаванне за намінантаў. Была падчас пасяджэння выказана прапанова зрабіць уручэнне прэмій больш урачыстым і відовішчным — пра выбітных дзеячаў нашай агульнай культуры павінны ведаць. Тут жа ўзнікла пытанне асвятлення не толькі вынікаў, але і самога працэсу вылучэння кандыдатаў, асабліва на першых этапах.

Зразумела, пасяджэннем "круглага стала" вырашэнне ўзнятых пытанняў не закончыцца, бо для гэтага неабходна ўнесці адпаведныя змены ў Палажэнне па прэміях. Але спярша ўсе прапановы будуць разгледжаны міністэрствамі культуры абедзвюх краін.

*На здымку: падчас пасяджэння "круглага стала".*

З-пад пяра

Прэзентацыя кнігі Міхася Башлакова "Віно адзінокіх", якая выйшла ў РВУ "Літаратура і Мастацтва", адбылася ў бібліятэцы № 14 г. Мінска. У гасцёўні сабраліся бібліятэкары з розных рэгіёнаў Беларусі. Пра новую кнігу шчыра і пранікнёна гаварылі загадчыца бібліятэкі Наталля Стрыгельская, бібліятэкар Валянціна Коршыкава, рэдактар кнігі Мікола Мінзер, паэт Мікола Шабовіч. Песні на вершы беларускіх паэтаў лірычна выконвала Алеся Сівохіна, а паэт Міхась Башлакоў як заўсёды эмацыянальна і ўзнёсла чытаў свае вершы і адказваў на пытанні чытачоў.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

Новая кніга пра Вялікую Айчынную вайну — дакументальнае расследаванне Уладзіміра Тыльца "Граніца 41. Беларуская пагранічная акруга. Малавядомыя старонкі гісторыі" — была прадстаўлена курсантам і афіцэрам-пагранічнікам у Інстытуце пагранічнай службы Рэспублікі Беларусь. Мерапрыемства было падрыхтавана загадчыцай кабінета сацыякультурнай дзейнасці культурна-дасугавага цэнтра Тамарай Лявончанкай пры ўдзеле намесніка дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алы Корбут, якая прадстаўляла выдаўца кнігі. На прэзентацыю былі запрошаны ветэраны Васіль Лобаў і Васіль Клімоўскіх, якія падкрэслілі своечасовасць і патрэбнасць такой кнігі.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Інстытут журналістыкі БДУ зноў збірае маладых і крэатыўных для ўдзелу ў літаратурным конкурсе студэнтаў "Брамамар". Леташні вопыт паказаў: праект карыстаецца надзвычайнай папулярнасцю і выклікае пэўны рэзананс у калялітаратурных колах. "Раскруткай" і арганізацыяй конкурсу традыцыйна займаецца творчая лабараторыя "Крытык" пры кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. На адкрыцці брамамарафону публіку парадавала выступленне Вікі Трэнас. "Брамамар" імкнецца аб'яднаць моладзь, якая толькі ўваходзіць у літаратуру, і прафесійных пісьменнікаў", — адзначаюць арганізатары. Усцешна, што працягваецца супрацоўніцтва з РВУ "Літаратура і Мастацтва" — у гэтым годзе інфармацыйным спонсарам конкурсу з'яўляецца часопіс "Маладосць".

**Ірына КАРЭЛІНА**

У кастрычніку 1931 года выйшаў першы нумар буда-кашалёўскай раённай газеты "Ленінскі шлях", якая з 1962 года стала называцца "Авангард". На ўрачыстым вечары, прысвечаным юбілею выдання, прагучалі цёплыя словы ў адрас супрацоўнікаў газеты і пастаянных яе аўтараў, сярод якіх было нямала літаратараў. Газета заўсёды шмат увагі надавала творам пачынаючых паэтаў і празаікаў, рабіла агляды іх творчасці, пры рэдакцыі працавала літаратурнае аб'яднанне "Зарніцы". "Авангард" шмат у чым прадвызначыў лёс вядомых беларускіх пісьменнікаў, ураджэнцаў раёна Аляксея Кейзарава, Міхася Стрыгалёва, Івана Шальманава, Міколы Чарняўскага, Уладзіміра Дзюбы, Анатоля Зэкава, Таццяны Гарэлікавай. Супрацоўнікамі газеты былі паэты Валерый Калінічэнка, Міхась Болсун, празаік Анатоль Казлоў.

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару "Народнай газеты" Уладзіміру Уладзіміравічу Андрыевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю МАЦІ.

## II з’езд Саюза пісьменнікаў Беларусі

# Постмадэрнізм вычарпаў сябе, а рэалізм невычарпальны

**Таццяна ШАМЯКІНА,**
**загадчыца кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ, доктар філалагічных навук, прафесар**

У апошнія гады крытыка стала больш жаночая, у значнай ступені памаладзела. Маладыя пішуць бадзёра, востра, дасціпна, раскавана. Ім лёгка ўдаецца рэклама таго ці іншага твора.

Але заўсёды хочацца лепшага. Што хвалюе? Можна параіць маладым усё ж пазбаўляцца ад таннага журналізму, залішняй публіцыстычнасці. Нельга не адзначыць і няведанне моладдзю класічнай літаратуры і асабліва літаратуры савецкай, таму часта адкрываецца “амерыка” там, дзе яна ўжо даўно адкрытая. І тады нам, старэйшым, робіцца прыкра і смешна. Усё больш страчваюцца мастацкія крытэрыі, уся багатая слоўная культура, на якой літаратура і крытыка грунтаваліся. Моладзь добра ведае замежную літаратуру і прапаноўвае нам яе ў настаўніцы, вышукваючы то адну, то другую іншаземную традыцыю. Але, відаць, варта пакінуць замежныя традыцыі замежнай літаратуры — гэта яе, а ў нас ёсць і ўласныя эстэтычныя асновы.

Іншая прыкмета часу — літаратура і крытыка ў Інтэрнэце. Бясспрэчна, сфера, вартая сур’ёзнага роздуму, аналізу, вывучэння, выкарыстання. Прычым нельга не заўважыць, што неахайнасць, прымітывізм і непрыстойнасць Сеціва патроху, але няўхільна пераносяцца ў сур’ёзныя выданні, дзе па-ранейшаму і менавіта толькі там і ажыццяўляецца літаратурны працэс.

На парадку дня ўсё яшчэ застаецца пазбаўленне ад міфаў — гістарычных і сацыяльна-палітычных, асабліва ў адукацыі — школах і ВНУ. Можа быць, варта пераглядзець праграмы — так, каб пазбегнуць залішне адвольнай трактоўкі літаратуры ў яе сувязі з гісторыяй непасрэдна ў класах і ўніверсітэцкіх аўдыторыях, а затым, натуральна, у публікацыях.

Нацыянальнай спецыфікай літаратуры, доследам менталітэту беларуса крытыка займаецца ўсё менш — моладзь пад уплывам ідэй глабалізму мысліць сёння інакш, і значыць, размываюцца не толькі крытэрыі ўласна крытыкі як асаблівай галіны літаратуразнаўства, але і крытэрыі спецыфічна беларускай крытыкі з яе, пры ўсіх выдатках, напрацаванымі традыцыямі.

Крытыка на мяжы стагоддзяў прайшла перыяд захаплення постмадэрнізмам, хоць сур’ёзныя даследчыкі сцвярджаюць, што пра яго размову больш, чым заслугоўвае гэты кірунак. Усё ж дзякуючы крытыцы чытацкая аўдыторыя ўпэўнілася, што такі напрамак існуе, з’яўляецца галоўным, а рэалізм аджыў сваё і нікому не патрэбны. На самай справе якраз прыёмаў постмадэрнізму не так і шмат, ён — з яго абмежаванасцю падыходаў — ужо вычарпаў сябе, а рэалізм невычарпальны, як невычарпальна ўласна жыццё.

Чым варта было б заняцца крытыцы — на мой суб’ектыўны погляд? Крытыка павінна пастаянна нагадваць пра каштоўнасць кожнага асобнага чалавека, вучыць і саміх пісьменнікаў, і публіку бачыць у чалавеку непаўторную асобу. Варта сканцэнтраваць увагу на кожным пісьменніку, многія з якіх проста аказаліся абыдзенымі крытыкай, замоўчваліся і адыходзілі ў небыццё, так і не дачакаўшыся больш-менш прыстойнага разбору ўласнай творчасці.

Крытыка павінна паказваць, што літаратура не проста дэтэрмінаваная гісторыяй, а сама заўсёды з’яўлялася часткай гістарычнага працэсу. Можа быць, гэта пераканае публіку ў важнасці і патрэбнасці менавіта літаратуры як летапісу жыцця ў яго непаўторнасці і канкрэтнасці.

Пункт для палемікі. Пачаць усё з пачатку, вярнуўшыся да традыцый В. Бялінскага з яго велізарнымі разборамі-аглядамі, з аналізам творчасці таго ці іншага пісьменніка, калі патрэбна, то і ў дзесяці артыкулах.

Нязвыкла, архаічна, але іншага шляху да адраджэння сапраўднай крытыкі — не адкрыта камерцыйнай — я не бачу.

# ...Як напісаць самы важны твор

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**старшыня Мінскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі, дырэктар РВУ “Літаратура і Мастацтва”**

Асаблівасць сённяшняга дня для нашага творчага саюза так ці інакш вымагае размовы пра літаратурныя творы, напісаныя ў апошнія пяць гадоў. А напісана і выдадзена ў нашай краіне нямала. І тым не менш можна і ў нашы не самыя спрыяльныя ў плане масавага захаплення чытаннем папяровай кнігі часы знайсці такога чытача, які сустрэўся з аднаму класіку айчыннай літаратуры дзесяцігоддзі таму. Прывяду кароткую цытату з даўняга выступлення на пісьменніцкім пленуме: “…неяк на адной канферэнцыі чытачоў у віцебскай глыбінцы да мяне падышоў чалавек, слесар саўгаснай майстэрні, і на мае словы пра тое, што цікавага шмат у нашай літаратуры, сказаў: “Цікавага многа. А вось каб паверылася — нямнога…”

Пэўна ж, такія чытачы неадночы сустракаліся і вам. Дык як жа стварыць той адзіна правільны раман, галоўную аповесць, як напісаць самы важны з пункту духоўнага ўздзеяння на чытача верш, каб можна было спадзявацца на ўзаемнасць з боку грамадства. І разам з тым верыць у важкасць радка, спадзявацца, што напісанае паспрыяе развіццю жыцця, умацаванню сацыяльнай справядлівасці, усталяванню ладу і згоды сярод розных груп насельніцтва, увогуле сярод розных па адукацыі і выхаванні людзей? Пагадзіцеся, пытанне з пытанняў. І наўрад ці большыні з нас хопіць жыцця, каб адказаць на яго. Магчыма, толькі чыясьці геніяльная празорлівасць дазволіць выбудаваць прамую дарогу да ісціны. А чытач тым часам чакае, пакутуе і справядліва крытыкуе пісьменніцкую грамаду.

Як жа нам быць, назваўшыся прафесійнымі пісьменнікамі, дзе шукаць адзіна правільнае выйсце, як дамовіцца са сваім уласным сумленнем, узяўшы на сябе адказнасць за ўсю літаратуру і ўсё мастацтва? Тут мы нечым падобны з дактарамі, калі хочаце, з хірургамі самых складаных спецыяльнасцей. Людзі глядзяць на іх як на апошнюю інстанцыю. І чытач, даведаўшыся пра нашу прафесію, таксама мае поўнае права пакласці галаву на кніжныя старонкі са спадзяваннем на душэўнае і сардэчнае лекаванне словам. І ўявіце сабе, якая крыўда вырастае ў яго свядомасці, калі там, пад вокладкай, не знойдзена патрэбнае чытае слова!

А ў нас жа ёсць трывалы падмурак. Наша беларуская літаратура па праве была пашанотнай у складзе шматнацыянальнай савецкай літаратуры многія дзесяцігоддзі. Фактаў прызнання звышдастаткова. Ёсць і такі. Напрыклад, калі ў Кітаі праграма перакладчыцкай работы ў галіне мастацкай літаратуры ішла пад лозунгам “Вучыцца ў Савецкага Саюза!..”, вучыліся і ў беларусаў. Толькі раманаў і аповесцей народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна ў Пекіне, Шанхаі, іншых гарадах Кітая выдалі асобнымі кнігамі больш як дзесяць разоў. Двойчы — коласаўскую “Дрыгву”, двойчы — купалаўскую “Жалейку”. Да дзесяці разоў кнігамі і ў часопісах — і аповесці Васіля Быкава.

Наша беларуская літаратура і сёння не такая ўжо і бедная. Не, не дарэмна рупіўся і рупіцца кожны з вас за пісьмовым сталом. Магчыма, не ўсе з нашых твораў і кніг заўважаны шырокім і масавым чытачом. Але кожны з вас спрыяў той няпростай і цэласнай атмасферы, якая вылучае таленты, фарміраванню таго асяродка, які нараджае праўдзівую кнігу, тую, якой павераць і ў глыбінцы, і ў вялікім мегаполісе. А калі гаварыць пра пэўную канкрэтыку, то як уважлівы чытач сённяшняй літаратурна-мастацкай перыёдыкі выкажу свае асабістыя, магчыма, суб’ектыўныя сімпатыі да завостранай сацыяльнай прозы Уладзіміра Саламахі, на старонках якой вырашаецца галоўны канфлікт грамадскіх зносін — паміж сумленнем і несправядлівасцю, паміж чалавекам-адзінкаю і калектывам, аповесцей Алены Брава, якая пільна ўглядаецца ў жыццё вачыма саракагадовай жанчыны, якая піша ад імя свайго пакалення, раманаў, аповесцей, апавяданняў Алеся Савіцкага, Уладзіміра Гніламёдава, Андрэя Федарэнкі, Алеся Бадака, вершаў заўчасна пайшоўшага з жыцця Уладзіміра Марука, паэтычных адкрыццяў Міколы Мятліцкага, Генадзя Пашкова. Пішучы на розныя тэмы, яны і шмат яшчэ хто з кагорты сучасных пісьменнікаў і паэтаў імкнуцца з нашых часавых вышынь зазірнуць у вочы Вечнасці, паразумецца з учарашнім і сённяшнім…

Ды разам з тым ніхто і ніколі не з’яўляецца нафтавай вежай, выключна толькі да якой трэба прыглядацца. Літаратуру на сёння і на заўтра ствараюць не адзінкі. Разуменне гэта, сяброўскае асэнсаванне таго, што мы працуем над агульным мастацкім палатном сучаснасці, высокая культура зносін у самім пісьменніцкім асяродку — хіба гэта не шлях да новых вышынь і здабыткаў?! Давайце ж паспрабуем гэтай дарогай пайсці далей, у наступныя блізкія і далёкія гады. Усе падставы на тое ў нашай краіне, дзе культура, асветніцтва, пытанні выхавання моладзі знаходзяцца сярод прыярытэтаў у вызначэнні дзяржаўнай палітыкі, ёсць. А значыць, павінна быць і добрая літаратура. Такая, што будзе і надалей, як і руская літаратура, іншыя славянскія літаратуры свету, адкрываць душу народа. Дзеля гэтага варта і працаваць, шукаць свой адзіна правільны і галоўны твор.

# Ці варта шкадаваць графаманаў?

**Васіль ШЫРКО,**
**старшыня секцыі публіцыстыкі СПБ, галоўны рэдактар часопіса “Белая Вежа”**

На Уздзеншчыне, адкуль я родам, кажуць: у нас з кожнага акна выглядае паэт. Толькі з невялікай вёскі Нізок выйшлі ў вялікі свет літаратуры Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус, Лідзія Арабей.

З гэтага ж Нізка народны артыст Анатоль Трус, шмат дактароў і кандыдатаў навук. На ўраджайнай на літаратараў уздзенскай глебе выраслі яшчэ каля дваццаці паэтаў і празаікаў, у тым ліку Пятро Глебка, Алесь Якімовіч, Антон Бялевіч, Алесь Пальчэўскі, Ілля і Васіль Гурскія, самадзейны паэт і кампазітар Павел Іванавіч Шыдлоўскі.

І дзе яшчэ, калі не на песеннай і паэтычнай Уздзеншчыне, павінен прайсці ў такім разе наступны пасля Глыбокага Дзень беларускага пісьменства?

Мікалай Іванавіч Чаргінец у сваім глыбокім і змястоўным дакладзе правільна заўважыў: нашы нашчадкі будуць судзіць пра наш час праз дакументальныя творы. Праўда — адзіна трывалая кладка. Секцыя публіцыстыкі збіраецца даволі часта. Абмяркоўваем нарысы, артыкулы, аўтараў цікавых кніг прымаем у Саюз пісьменнікаў. Мы можам ганарыцца дакументальнымі і дакументальна-мастацкімі творамі многіх нашых літаратараў.

Каб напісаць добры нарыс, трэба неадноўчы сустрэцца з героем, з’есці з ім, вобразна кажучы, калі не адзін пуд солі, то хоць кілаграм. А грошай на камандзіроўкі кот наплакаў. Так і не працуе ў Саюзе пісьменнікаў бюро прапаганды. Літаратары маглі б прынесці вялікую карысць дзяржаве, умацаванню яе суверэнітэту. Не ўсе, на вялікі жаль, гэта разумеюць.

Нядаўна адзін з нашых вядомых паэтаў паскардзіўся расіянам праз СМІ, што ў Беларусі не даюць ходу рускай мове, заціскаюць яе. О-о, як заціскаюць “великий и могучий русский язык”: амаль дзве трэці членаў нашага Саюза піша па-руску! Справаводства ў краіне вядзецца на рускай мове. На мове карэнных жыхароў навучаюцца толькі дваццаць працэнтаў школьнікаў. Штогод адчыняюцца рускамоўныя школы ў гарадах і зачыняюцца ў вёсках дзясяткі беларускамоўных.

Не сёння гэта пачалося. Калісьці выдатны паэт-франтавік Аляксей Пысін з горыччу пісаў:

*А мова матчына ў знямозе*
*І б’е трывогу на ўвесь свет:*
*Яе паставілі ў парозе*
*І не пускаюць на паркет.*

Які ўжо там паркет?

Французы (ім, здавалася б, чаго баяцца за стан сваёй парлео франсэ!) прымаюць законы, якія аберагаюць французскую мову, а мы нічога не робім ці зусім мала робім, каб зберагчы, захаваць найвялікшы дар сваіх продкаў. Скарачаюцца аб’ёмы часопісаў. Дзе старэйшая беларускамоўная газета “Чырвоная змена”? Я ўжо не кажу пра тэлебачанне. Там, калі папраўдзе, пісьменнікі з’яўляюцца гады ў рады. Вершы з экранаў не гучаць, роднае слова ў занядбанні. Хоць у краіне дзве дзяржаўныя мовы, вядучыя не размаўляюць, “лишь говорят”. Калі я працаваў у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм тэлебачання, экранізаваліся лепшыя набыткі літаратуры, гучалі вершы з экрана, тысячы і тысячы тэлегледачоў збірала “Ліра”, дзе на пытанні чытачоў адказвалі вядучыя пісьменнікі Беларусі. Я ўжо не кажу пра творчыя партрэты, неблагія ганарары аўтарам твораў і артыстам.

Я хацеў бы, каб мову майго народа ў Беларусі заціскалі гэтаксама, як заціскаюць рускую. Тады ёй і праз сотні гадоў жыць. Між іншым, рускамоўных літаратараў у Беларусі шмат, але іх, за рэдкім выключэннем, амаль ніхто не ведае ў Расіі. Яўген Еўтушэнка выдаў у ЗША кнігу, дзе назваў дзесьці 700 лепшых рускамоўных паэтаў. А-у, падыміце рукі, хто трапіў у гэты спіс абраннікаў? Вы, якога “заціскаюць”? Вашы сябры? Ніхто! І гэта ў сем соцень. Дык чым хваліцца? Для чаго задзіраць нос? За перапеў біблейскіх сюжэтаў? Божа, ратуй. Каб пісаць, як Твардоўскі, Ісакоўскі, якія любілі Беларусь, ведалі яе мову, сябравалі з нашымі пісьменнікамі, трэба як мінімум нарадзіцца ў Расіі ці жыць там. Толькі так можна прапусціць праз сябе, як Распуцін, Куняеў, Бялоў, Крупін, Ганічаў, Пераверзін, Рубцоў ды і наш зямляк па калінкавіцкаму дзеду Яўген Еўтушэнка, каларыт самага вялікага славянскага народа.

І апошняе. Калісьці паэт Уладзімір Паўлаў у газеце “Літаратура і мастацтва” надрукаваў артыкул “Асцярожна — графаманы!” Любы старшыня секцыі, кіраўнікі абласных аддзяленняў Саюза засведчаць, што графаманаў з кожным годам не меншае, растуць як грыбы пасля спорнага дажджу. Толькі вось гэтыя грыбы, як кажуць у нас у Беларусі, воўчыя, есці іх нельга. Атакуюць рэдакцыі, секцыі, як правіла, пенсіянеры, сямідзесяцігадовыя, з дазволу сказаць, “паэты”, якія не ведаюць нават правіл вершаскладання, а “празаікі”, і смех, і грэх, выдадуць кнігу за свой кошт ад шасці (я не жартую!) да ста асобнікаў і рвуцца ў Саюз. Чытаеш многіх такіх аўтараў — і разбірае смех. І мы, талерантныя, памяркоўныя беларусы, здараецца, шкадуем няшчасных графаманаў, дапамагаем надрукавацца, даём рэкамендацыі да прыёму ў Саюз пісьменнікаў. Калі так і далей пойдзе, іх будзе больш, чым сапраўдных літаратараў.

Кітай далёкі і блізкі

# Веліч і спакой Пекіна



**З кожным годам усё актыўней развіваюцца палітычныя, эканамічныя і культурныя сувязі паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай. Звычайнай справай стаў і абмен дэлегацыямі літаратараў, мастакоў, дзеячаў тэатра і кіно. Нядаўна з падарожжа па Кітаі вярнуўся дырэктар дырэкцыі міжнароднага вяшчання Беларускага радыё, пісьменнік Навум Гальпяровіч. У сваіх нататках "Кітай далёкі і блізкі" ён расказвае пра памятныя сустрэчы, дзеліцца ўражаннямі пра наведванне гістарычных мясцін Паднябеснай.**

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Першае, што ўражвае ў Пекіне, — гэта дзіўнае спалучэнне велічы і нейкай хатняй утульнасці. Высокія сучасныя дамы, шырокія вуліцы, імклівы паток машын і веласіпеды з калясками, кавярні, дзе наведвальнікі з задавальненнем сядзяць за столікамі, на якіх дымяцца духмяныя гарачыя стравы...

Здзіўленні на кожным кроку. Вось каля станцыі метро старэнькі селянін прадае батат, падобны па знешнім выглядзе на бульбу, печаны тут жа на спецыяльным прыстасаванні. Побач рыкша вязе пад чырвоным балдахінам смяшлівую паненку з сабачкам. У патоку сучасных аўто можна ўбачыць пажылога кітайца на трохколавым веласіпедзе з поліэтыленавай будкай, які нетаропка круціць педалі, слухаючы транзістарны прыёмнік. Або жанчыну з малым дзіцем на ровары з маторчыкам. І гэта дзіўнае спалучэнне ўражвае як сутыкненне эпох.

Увечары насупраць вышынных шматпавярховак дзясяткі пар пад меладычную музыку выпрабоўваюць складаныя па. Не, гэта не аматары бальных танцаў, а звычайныя гараджане — пажылыя і маладыя. Імправізаваная танцпляцоўка прыцягвае прахожых, і яны становяцца ўдзельнікамі своеасаблівага мясцовага балета.

У буйных магазінах, абсталяваных эскалатарамі і бягучымі дарожкамі, поўна дарагіх тавараў з замежнымі брэндамі. Але і кітайцы навучыліся вырабляць моднае адзенне, суперсучасную электроніку. Аўтобусы і электрацягнікі метро — толькі айчыннай вытворчасці.

На тратуарах, выкладзеных пліткай, пазначаны спецыяльныя палосы жоўтага колеру з выступаючай рабрыстай паверхняй. Як мне сказалі, гэта зроблена для сляпых і людзей, якія дрэнна бачаць. Яны нагамі могуць намацаць палосы і перасоўвацца па іх.

Апрануты грамадзяне, асабліва моладзь, зусім па-еўрапейску. Не верце міфам, што ўсе кітайцы ходзяць у паўваенных фрэнчах з накладнымі кішэнямі.

Пекін — агромністы горад. Настолькі, што гэта нават цяжка ўявіць. Плошча — 16 тысяч квадратных кіламетраў, у 16 разоў больш, чым плошча Масквы, а працягласць ліній метро дасягае 600 кіламетраў. Але гэтыя аб'ёмы "не даваць" на вас, а маляўнічыя пейзажы ля Вялікай Кітайскай сцяны, парка Бадачу ўражваюць сваім велічным спакоем і дзівоснай злучанасцю гор і неба, аблокаў, што плывуць над табой. Тут, бадай, як нідзе адчуваеш слушнасць паняцця "Паднябесная".

Да Вялікай Кітайскай сцяны мы дабіраліся больш як дзве з паловай гадзіны, прычым паўтары з іх — не выходзячы з метро. У кітайскай падземцы заўсёды шматлюдна. Але ніхто не прабівае локцямі сабе дарогу, не ўступае ў славесныя перапалкі. На новых лініях электрычкі, светлыя і прасторныя, "упакаваныя" электронікай і відэа, часта вырываюцца з-пад зямлі на паверхню.

Таксі ў Пекіне — вельмі зручны і досыць дэмакратычны від транспарту. Там няма стаянак, і машыну трэба лавіць, як кажуць, на хаду, балазе іх там многа. Усе яны маюць адметнае серыйнае афармленне. Кіроўца, як правіла, у форме, тут жа — касавы апарат, у канцы паездкі ён абавязкова выдае квіток.

Давялося паездзіць і на маршрутным аўтобусе. Пасажыры ўваходзяць праз пярэднія дзверы і прыкладваюць электронныя карткі да спецыяльнага прыстасавання або разлічваюцца непасрэдна з кіроўцам. Яго рабочае месца адгароджана толькі невялікім бар'ерам, і ён свабодна кантактуе з людзьмі. Прыпынкі ж, як і ў нас, аб'яўляюцца праз дынамік, прычым на кітайскай і англійскай мовах. Адна картка дзейнічае на ўсе віды транспарту пры наяўнасці адпаведнай сумы, а рахунак можна папаўняць у любым банкамаце.

Вось, праўда, мінскім дайшнікам на пекінскіх вуліцах работы хапіла б: не надта клапоцяцца мясцовыя вадзіцелі пра выкананне правіл дарожнага руху. Шчыра верачы, што сама наяўнасць аўтатранспартнага сродку дае вялікія перавагі, яны не спяшаюцца саступаць месца прахожым на пешаходным пераходзе, ды і чырвоны сігнал святлафора могуць ліха праскочыць. Таму ўсе нам раілі пры пераходзе вуліц быць пільнымі і асцярожнымі.

Асобная тэма — супермаркеты, ды і ўвогуле гандлёвыя кропкі. Для жанчын яны тоячь вялікую небяспеку, бо там можна затрымацца на шмат гадзін. Мінская "Карона" ў параўнанні з досыць звычайным пекінскім супермаркетам — як аднапакаёвая кватэра побач з шыкоўным асабняком. Не кажучы пра тое, што там прадаецца ўсё — ад цыбуліны да "наварочанага" камп'ютара. Памеры проста ўражваюць! З адной каляскай можна спускацца і падымацца па эскалатарах і бягучых дарожках, спыняцца, разлічвацца, атрымліваць чэкі і рухацца далей, аж да самага выхаду. У харчовых секцыях — безліч зеляніны, садавіны, гароднiны... У рыбным аддзеле я не мог надзівіцца на жывых рыб, малюскаў, іншых марскіх насельнікаў, пра існаванне якіх нават не ведаў і якія маглі проста перакачаваць з акварыумаў у маю спажывецкую карзіну.

Як правіла, такія магазіны прыватныя, таму можна "таргавацца", збіваць цану.

Асабліва ажыўлены гандаль — на вялікім "Жамчужным рынку". Ён так толькі называецца, бо гэта велізарны супермаркет, набіты прамысловымі таварамі. Маладыя, прыгожыя дзяўчаты і хлопцы літаральна не даюць праходу пакупнікам, сярод якіх шмат іншаземцаў. Паўсюль гучаць акрамя кітайскай англійская, нямецкая і руская мовы.

Нам трэба было купіць чамадан, бо наш быў незваротна пашкоджаны пры пералёце. Перамовы з прадаўшчыцай цягнуліся каля гадзіны, у выніку чаго кошт тавара знізіўся практычна ўдвая, прычым кітаянка не выглядала засмучонай ці пакрыўджанай. Магчыма, яны спецыяльна штучна ўздымаюць першапачатковы кошт, каб пакупнік адчуў радасць ад удалай пакупкі.

***На здымку: Н. Гальпяровіч ля Вялікай Кітайскай сцяны.***

З пошты «ЛіМа»

# Музыка ў кожны дом

Па натуры я лірык, рамантык і не ўяўляю сябе без літаратурных і музычных праграм Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і канала "Культура". Хочацца адзначыць Таццяну Песнякевіч, Алега Вінярскага, Рэнату Патаку, Людмілу Латушкіну, Ліку Пташук, Віктара Кісцэня, Таццяну Старчанку, Валерыя Бяляева, Таццяну Аляксандраву, Уладзіміра Трапянка, Яну Хадоску, Наталлю Капусціну, Іну Наркевіч.

Мяне заўсёды ўражвае аўтар і вядучая праграм "Біяграфія шэдэўраў", "Класіка на біс", "Падарунак меламану", "Анталогія рамanса", "Сустрэча з песняй" Таццяна Песнякевіч. Нават не ўяўляю, як Таццяна Пятроўна ўсё паспявае. Мне падаецца, яе можна назваць Каралевай Класікі Беларускага Радыё.

У музычнай радыёпрасторы таксама звяртае на сябе ўвагу Віктар Кісцэнь, каардынатар эксклюзіўнага праекта "Канцэртная зала". З яго дапамогай класічная музыка з усіх куткоў свету ўваходзіць ў кожны дом. Меламаны не заўсёды маюць магчымасць наведваць філармонію, але цяпер яны маюць магчымасць штовечар слухаць класічную музыку, седзячы на канапе. Акрамя гэтага, у рамках праекта слухачы некалькі разоў на год наведваюць студыі Беларускага Радыё, куды Віктар запрашае вядомых музыкаў, з якімі пасля канцэрта, што адбываецца ў студыі, усе ахвотныя могуць пагаварыць.

Але адным праектам "Канцэртная зала" творчасць Віктара не абмяжоўваецца. Ён аўтар і вядучы праграм "Па заяўках меламанаў", "Вінілавы эфір", "Музычная гасцёўня з Віктарам Кісценем", "Запрашальны білет", "Музыка ночы" на канале "Культура". Гэтыя перадачы заўжды прыцягваюць увагу радыёслухачоў. Сваім мастацтвам Віктар Кісцень выхоўвае і прывівае мастацкі густ.

Хачу выказаць сваё захапленне Віктарам як кампазітарам. Адчуваецца, што музыка для яго не проста прафесія, а стан душы. Музыка Кісценя надзвычай тонкая, прыгожая, светлая, аптымістычная, духоўная.

Ад свайго імя і ад імя сваіх сяброў сардэчна дзякую дырэктару канала "Культура" Кацярыне Агеевай і дырэктару Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё Антону Васюкевічу за такіх таленавітых супрацоўнікаў. Думаецца, што Кацярына Іванаўна і Антон Барысавіч ганарацца імі разам з намі, удзячнымі слухачамі.

**Валянціна ФІЛІПЕНКА**

Рэфлексія

# Айда «Вобход»!

**Людміла САЯНКОВА**



Мне б хацелася, напэўна, пачаць так, як калісьці запрашалі на першыя кінасеансы: "Фурор! Спяшайцеся! Сапраўдны цуд! На гэтае адкрыццё звярнуў увагу свет!" Такія эмоцыі мяне захапілі, калі ўпершыню апынулася ў зале Пушкінскай бібліятэкі на чарговым пасяджэнні "изустного журнала Вобход". На самай справе гэта была клубная сустрэча, калі збіраюцца людзі, якіх штосьці аб'ядноўвае: ідэі, інтарэсы, пошукі, звычкі. Але гэты клуб прадстаўляе нешта іншае. Адразу ж заўважылася тое, што не так часта сустракаецца нават у нешматлюдных кампаніях. Там была асаблівая атмасфера, калі адыходзяць на другі план дзённая мітусня, раздражнёнасць, незадаволенасць сабою і ўсімі астатнімі. Так бывае тады, калі людзі робяць альбо адкрываюць для сябе штосьці важнае і прыемнае, што настройвае іх сэрцы на адзін лад, што робіць іх не столькі людзьмі адной думкі, колькі людзьмі адной душы. "Вобход" — сапраўды тая прастора, дзе ёсць душэўнае адзінства і паразуменне.

Атмасфера — рэч амаль што містычная, якая часцей за ўсё не паддаецца нейкаму рацыянальнаму асэнсаванню. Проста адчуваеш, што тут табе добра (ці неяк па-іншаму) — і ўсё! "Вобход", напэўна, не існаваў бы як месца жаданай сустрэчы без аднаго чалавека, які ўсё гэта задумаў, выпесціў і падтрымлівае так упэўнена і пяшчотна, як у далёкія часы дбайныя гаспадыні падтрымлівалі вогнішча. Міхаіл Валодзін — фізік па прафесіі, лірык і рамантык у адносінах да жыцця. У ягоным характары ёсць тое, што цяпер, у эпоху татальнага прагматызму і цынізму, сустракаецца вельмі рэдка — шчырасць і нераўнадушнасць.

Кожны з нас заўважае, што сёння сапраўднай дыялагічнай прасторай з'яўляецца толькі Інтэрнэт. Але ніякі Facebook ці Twitter не можа нам падараваць сапраўдны дыялог, калі не проста бачыш субяседніка, а адчуваеш яго. Акрамя таго, шалёныя рухі цывілізацыі змяняюць наша асяроддзе. Мы ўсё больш і больш нагадваем падарожнікаў, якія ў адзіноце блукаюць па невядомай прасторы, не заўважаючы адно аднаго. Сапраўды, экспрэсіяністычная сутнасць: "Ніколі чалавек не быў такі малы. Ніколі ён не быў такі разгублены. Бяда лямантуе, чалавек заве сваю душу…" Горад як жыватворная прастора знікае. Кожнае асяроддзе становіцца ўсё больш функцыянальным, усё менш камфортным для чалавечай душы. Таму неабходнасць клубных сустрэч, дзе людзі сапраўды аб'ядноўваюцца, — гэта процiпастаўленне цывілізацыйнаму холаду і адзіноце. Менавіта ў гэтым можна вызначыць філасофію "Вобхода".

Міхаіл Валодзін, які знайшоў сябе ў розных відах творчасці — паэзіі, бардаўскай песні, пісьменніцтве, вусных апавяданнях, журналістыцы, — "сфармаціраваў" свой клуб як звычайны друкаваны часопіс. Кожнае пасяджэнне, як і кожны нумар часопіса, прысвечана пэўнай тэме. У тэматычных выхадах ёсць свае рубрыкі, жанры, аўтары. Напрыклад, "падарожжавы нумар" меў свае "старонкі": замежнае падарожжа, прыроднае падарожжа, падарожжа да чалавека, паэтычнае падарожжа і г.д.

Чаму "Вобход"? А таму — так, ва ўсякім разе, лічыць сам Міхаіл, — што ў абыход ісці куды больш цікава, чым напрасткі, можна многа чаго новага спазнаць. А чаму слова пішацца разам? А таму, напэўна, што так больш загадкава, а можа, штосьці іншае. Гэта не важна. Важна, напэўна, тое, пра што калісьці сказаў Андрэй Белы: "Клуб — месца аб'яднання людзей… Прыходзяць стомленыя, адзінокія — і раптам аб'ядноўваюцца ў сузіранні жыцця, бачаць, якое яно разнастайнае, цудоўнае, і выходзяць, абмяняўшыся поглядам, выпадковай, а таму і больш за ўсё значнай салідарнасці: гэта салідарнасць выходзіць не з чаго-небудзь прадузятага, а з сутнасці чалавечай натуры…" Сказана даўно і з іншай нагоды. Але сэнс сучасны і мае прамое дачыненне да сённяшняга клуба. Клуба не па арганізацыйных характарыстыках, а па чалавечых. Такіх, якія і ёсць у "изустного журнала "Вобход".

Маргарыта АЛЯШКЕВІЧ




**Заклапочанасць станам сучаснай літаратурнай крытыкі (ці ледзь не яе адсутнасцю) выказваюць многія. Нямногія, аднак, ідуць далей за нараканні і спачуванні. І ў гэтых варунках тым больш радуе, што знаходзяцца альтруісты, якія робяць сваю справу, якасна і густоўна. Сярод такіх неабыякавых — Ірына Шаўлякова, крытыка якой ніяк не “служка” літаратуры, а сапраўднае мастацтва, гэткая самая творчасць, як эпас, лірыка ці драма. Таму і нядзіўна, што яе новая кніга “Сапраўдныя хронікі Поўні” неўзабаве пасля свайго з’яўлення атрымала зацікаўленыя водгукі. З імі і знаёмім сёння нашых чытачоў.**

# Інтэлігентнасць= вышэйшая зброя, альбо Як гатаваць рызота з каракаціцы

**Крытык, які піша пра крытыка, які піша пра крытыку, — адчуванне падобнае на тое, калі расстаўляеш бясконцы калідор люстэрак і чакаеш, хто з’явіцца. Зрэшты, усе гэтыя магічныя дзеянні вакол літаратуры задумваюцца ёй на карысць.**

### Вытанчанае забойства чытача

“Сапраўдныя хронікі Поўні” — кніга для тых, хто любіць інтэлектуальныя гульні. І хаця ў параўнанні з папярэдняй кнігай І. Шаўляковай (“Рэстаўрацыя шчырасці”, 2003) гэтая выглядае больш, так бы мовіць, чытача-любнай, больш даступнай — памятайце, што гэта ўсё адно той яшчэ кубік-рубік. Так, усе тэрміны будуць неадкладна (ці неўзабаве) патлумачаныя, усе іншамоўныя прымаўкі — перакладзеныя. І нават мэта выдання (і чытання) кнігі крытыкі будзе патлумачана па пунктах (зазірніце на стар. 13). Але калі вы аматар просталінейнага сюжэтнага чытва і немудрагелістых сінтаксічных канструкцый — першы ж артыкул стане вам надмагільным помнікам. Увогуле, мяркую, гэтай кнізе вельмі пасаваў бы надпіс, які ўпрыгожвае пачатак “Хазарскага слоўніка” (з адпаведным сітуацыі ўдакладненнем): “На гэтым месцы ляжыць чытач, які ніколі не разгорне/не дачытае гэтую кнігу. Тут ён спіць вечным сном”.

Тым жа, хто ведае, як падбіраць ключы з выявай трохрогага знака, — вэлкам у *крытычныя сутарэнні* (вобраз не мой — скрадзены з назвы другой кнігі І. Шаўляковай).

### Структура

У структуры кнігі чатыры раздзелы — чаго тут, здавалася б, складанага. Адзін змяшчае артыкулы, праблемныя і канцэптуальныя, другі — бенефісы, як сама крытык называе артыкулы, прысвечаныя асэнсаванню набытку пэўнага пісьменніка ў айчынным літаратурным працэсе (па дакладнае азначэнне — гл. с. 22). У трэцім прасочваецца эвалюцыя літаратараўнеафітаў, у чацвёртым гаворка будзе пра замежных аўтараў, пра дзве кнігі пралітаратурнага характару, два астатнія матэрыялы маглі б вельмі ўтульна пачувацца сярод “бенефісаў”... Ага, заблукалі? А вось вам яшчэ: агляд дэбютаў раптам пачынае разрастацца ледзь не да праблемнага артыкула; кожны тэкст аблытвае вас (сама-)іранічнымі зацемкамі адносна праблем літпрацэсу, адмысловымі канцэпцыямі, арыгінальнымі класіфікацыямі.

### Героі

Паспрабаваўшы палічыць, колькі пакаленняў прысутнічае ў кнізе І. Шаўляковай, я збілася: тут прагаворваюцца праблемы і саракагадовых, і трыццацігадовых, і дваццаці- ці каля таго -гадовых, але ж і прадстаўнікі іншых узроставых катэгорый трапляюць пад крытычны прыцэл. Чым за кожным па біяграфічныя даведкі бегаць, лепш прыслухацца да задумы кнігі. Большасць разгледжаных тут творцаў — ва “ўзросце Карлсана” — “у самым што ні на ёсць поўным росквіце сіл”, як (пералічваю ў парадку з’яўлення) Алесь Бадак, Алесь Наварыч, Анатоль Казлоў, Альгерд Бахарэвіч. Але *сапраўдныя* хронікі прадугледжваюць запіс падзей у храналагічнай паслядоўнасці; у поўні хаваецца і маладзік, і сход, і ветах.

Метафара Поўні, як і належыць метафары, унікае адназначнага тлумачэння. Поўны росквіт літарацкіх сіл — раз, “айчыннае прыгожае пісьменства апошніх дваццаці год” (якое, на думку самаіранічнага “экзальтаванага” крытыка, супадае “з адмысловай эпохай Поўні”) — два, і гэта толькі прамоўленыя, выкінутыя на паверхню варыянты.

То ж свет змяніўся: каля ста гадоў таму чакалі сонца ў наша ваконца. Праўда, стагоддзе та-

*“Метафара Поўні, як і належыць метафары, унікае адназначнага тлумачэння. Поўны росквіт літарацкіх сіл — раз, “айчыннае прыгожае пісьменства апошніх дваццаці год” (якое, на думку самаіранічнага “экзальтаванага” крытыка, супадае “з адмысловай эпохай Поўні”) — два, і гэта толькі прамоўленыя, выкінутыя на паверхню варыянты.*

кое выдалася, што ледзь поўнага зацьмення не прычакалі. Так што Поўня — гэта яшчэ надзіва аптымістычны варыянт.

“А ці здолеюць наогул зразумець прадстаўнікі “суседніх” пакаленняў, што такое быць *трыццацігадовым* у нашым часе і ў родным космасе, калі старэйшыя ўпэўненыя, што вы яшчэ нічога не вартыя, а маладзейшыя перакананыя, што вы ўжо ні на што не здольныя. *Noblesse oblige* (высакароднасць абавязвае): шануй першых, не крыўдзі другіх — і ратуй сябе сам” (с. 79).

### Апалогія крытыкі

У “Сапраўдных хроніках Поўні” літаратурная крытыка — гэткі Таранціна ва ўласных фільмах: каб пацвельваць з самой сябе, можа і ў эпізодах з’явіцца, і нават адну з галоўных роляў сыграць.

Напрыклад, у артыкуле «Партызан — XXI»: стратэгія і перспектывы прафесійнага выжывання” пазабавіцца над паспалітымі ўяўленнямі пра крытыку так: “Айчынная літаратурная крытыка сёння нагадвае адмысловую партызаншчыну… калялітаратурная публіка ўпэўненая, што ў нас крытыкі НЯМА: маўляў, тое, што ёсць, — не крытыка, а так, сурагат, кампот з асабістай непрыязні і некранутай адукаванасцю інтуіцыі” (с. 9). Затым — ніякай літасці да самое сябе — адкрыццё анталагічнай функцыі крытыкі: “Ёй [крытыцы] роўных няма, бадай, толькі ў адным — у справе пераконвання айчыннага пісьменніка і чытача ў тым, што іх няма” (с. 21). Кніжку можна чытаць і ў такім кірунку: збіраць разам выказванні пра крытыку. Тады атрымаецца зусім іншы твор, “Сапраўдная апалогія Крытыкі”.

### Прафесійны кодэкс

Высакароднасць абавязвае — гэтыя словы праступілі б на шчыце І. Шаўляковай падчас літаратурна-крытычных баталій,

*“Высакароднасць абавязвае — гэтыя словы праступілі б на шчыце І. Шаўляковай падчас літаратурна-крытычных баталій, калі б яна ў іх увязалася. Тым, хто прызвычаіўся да блогерскіх атак, будзе нязвычна: замест бананавага лушпіння ў ход ідуць шляхетныя рэверансы, цытаты, імкненне зразумець пазіцыю апанента і тонкі (выверааны, прадуманы) укол рапірай.*

калі б яна ў іх увязалася. Тым, хто прызвычаіўся да блогерскіх атак, будзе нязвычна: замест бананавага лушпіння ў ход ідуць шляхетныя рэверансы, цытаты, імкненне зразумець пазіцыю апанента і тонкі (выверааны, прадуманы) укол рапірай.

Не пагаджаючыся з ацэнкамі калег-крытыкаў, І. Шаўлякова працытуе або добрасумленна (чытай: з пазнакай крыніцы цытавання і без перакручвання сэнсу цытаты) перакажа гэтыя ацэнкі, патлумачыць, чаму лічыць іх няслушнымі і, зазвычай, прапануе тлумачэнне, чаму гэты крытык лічыць (і мае права лічыць) так.

Вось, распавядаючы пра А. Бахарэвіча, І. Шаўлякова ўступае ў дыялог з Л. Галубовічам (знойдзем спасылку на лімаўскі артыкул і пераказ пазіцыі Л. Галубовіча) і тлумачыць, чаму “намаганні міфалагізаваць найноўшую гісторыю” могуць уважацца за “трывіяльнае парадзіраванне”: “Магчыма, уся справа ў памянёнай добрасумленнасці: крытык аналізуе твор як абагулены вобраз сучаснасці, а празаік тую сучаснасць педантычна прэпарыруе”, знаходзіць і зацытоўвае аўтарскую (Бахарэвічаву) пазіцыю і высноўвае так, што нікому не крыўдна: “Спрэчка пра тое, які тып герояў “жывейшы за ўсіх жывых”, ад пачатку асуджаная стацца заганным колам; варта проста не забывацца на тое, што ў *іншым свеце* па сваім распарадку дня доўга не пражывеш” (а вось і рапіра, ага, гл. артыкул “Рай-які-заўсёды-з-табой: місіі і месіі пакалення ХХХ”, с. 76 — 77).

Гэткае шматгалоссе — прысутнасць голасу самога разглядаемага аўтара, іншых крытыкаў, іншых даследчыкаў узнятае праблемы — узбагачае. Прынамсі, можна даведацца, што ў нас *ёсць* розныя літаратурныя крытыкі і даследчыкі літаратуры (і завуць іх так і гэтак, і друкуюцца яны там і там) і *можна* па-рознаму ацэньваць эстэтычны феномен.

На такую шчодрасць здольны хіба сапраўды багаты чалавек. Куды часцей сустракаюцца агульныя шальмаванні нейкіх безыменных апанентаў (каб самой не шальмаваць агулам, прыводзяць прыклад з “Нёмана” (2005. — № 12. — С. 150) — пераказ пазіцыі “вядомага беларускага крытыка” без называння імя крытыка і назвы пераказанага артыкула…), ці — наша ўлюбёнае — ацэнка прафесійнай дзейнасці не па тэкстах, а па нейкіх іншых прыкметах (напрыклад, паводле полавай прыналежнасці — тут згадваецца даўні артыкул М. Южыка “Быць крытыкам — гэта што?”, дзе гаворка сярод іншага дайшла да таго, што “з-за асаблівасцяў псіха-фізіялогіі аб’ектыўным можа быць толькі крытык-мужчына” — гл.: http: //iuzhyk.livejournal.com/17463. html, — і артыкул С. Грышкевіча “Жаночая крытыка” ў “ЛіМе” ад 23 ліпеня 2010 года).

Ідэал з кнігі вымалёўваецца такі: той, хто піша пра літаратуру, мусіць:

1) “прысуседзіць літаратуразнаўчую заглыбленасць — да крытычнага досціпу” (с. 11);

2) захоўваць прафесійную бестароннасць (с. 42), пры гэтым

3) спрыяць таму, каб “генетычна сціплыя” літаратары такі прайшлі ініцыяцыю ў мэтры/слупы, затым у волаты/ідалы, а там і ў класікі/апосталы (с. 33); а яшчэ

4) заставацца чалавекам — мець права на суб’ектыўныя літаратурныя прыхільнасці (с. 43);

5) быць сціплым, бо “сучаснаму інфармацыйнаму грамадству крытык патрэбны, як зайцу... рэкламны агент” (с. 152).

І, напэўна, някепска будзе нам абавезціся якой-кольвечы прафесійнай салідарнасцю, не грызціся міжсобку, а то ж і праўда крытыкі “як літаратурны від хутка павыведуцца”, і ніякая гіпатэтычная “Ліга прафесійных крытыкаў” не дапаможа…

### Катэгорыі

Пры гаворцы нават пра аднаго аўтара крытык разгортвае панараму літаратурнага працэсу. Пры гэтым, каб за дрэвамі не

згубіўся лес, а ў лесе не засцілі адно аднаго асобныя дрэвы, І.Шаўлякова вынаходзіць адмысловыя класіфікацыі, катэгорыі, уводзіць нязвыклую тэрміналогію (літаратуразнаўства як уфалогія, калі штосьці/хтосьці мільгае ў нетрах мастацкай славеснасці, але гэта раяць уважаць не за аб'ектыўную рэальнасць, а за містыфікацыю ці байкі людзей маладасведчаных — а?! Ну здорава ж!).

Тут самы цікавы момант інтэлектуальнай гульні — усачыць за логікай крытыка. Так, напрыклад, гаворачы пра пісьменнікаў сярэдняга ўзросту/поўнявай сталасці, І. Шаўлякова вылучае дзве катэгорыі паводле ведання, якім творцы імкнуцца падзяліцца з чытачом.

1) Жыць не страшна.

2) Жыць страшна:

а) жыць страшна, а будзе яшчэ страшней;

б) жыць страшна, але давядзецца;

в) не жыў добра — не варта і пачынаць;

г) трэба жыць.

І вось пра гэта апошняе пойдзе гаворка ("Правілы адасаблення", с. 53).

### Стыль

І. Шаўлякова будуе фразу, як лабірынт, дзе можна заблукаць і забыцца, што напрыканцы сустрэнеш-такі мінатаўра. Ці Тэзея — гэта ўжо як пашанцуе.

Дадайце сюды графічныя вылучэнні (іх у параўнанні з папярэдняй кнігай стала менш, але — на маю асабістую радасць — не ўсе перавяліся), спасылкі на шырокі і вузейшы кантэкст, цытаты, прымаўкі, захапляльныя загалоўкі і падзагалоўкі, прытоеныя жарты, рэплікі ўбок, азначэнні са слоўнікаў — і зразумееце, чаму за адным замахам такую кніжку не прачытаеш. І чаму, прачытаўшы, можна смела сабой ганарыцца.

"Любое ўварванне ў мастацкі свет, што ўжо займеў больш-менш акрэсленыя межы, тым самым адгарадзіўшыся ад сусвету вонкавага (і ўжо таму *чужога*), нясе непасрэдную пагрозу для Аўтара. …[абагульняльнасць] ператварае літаратурны аналіз у ахвярапрынашэнне" (с. 70).

### Рызота (замест заключэння)

Беларуская літаратура падобная да каракаціцы: у нас пра яе мала хто чуў і яшчэ менш бачылі, так што наогул няпэўна, ці яна напраўду ёсць. Але большасць, пачуўшы "каракаціца" (або "беларуская літаратура"), скажа, што гэта нешта няўклюднае, нязграбнае, схаванае ў воблака атрамантавага туману...

І што з таго, што беларуская літаратура ўпісаная ў гісторыю нацыі, як каракаціца — у гісторыю чалавецтва: абедзве былі за матэрыял, *якім* упісваць.

Дазволю сабе працягнуць рызыкоўныя паралелі яшчэ крыху: літаратурны крытык старанна ловіць каракаціцу і робіць экзатычную страву — прывабную для тутэйшых, як усё нетутэйшае, і, апроч усяго, дужа патрэбную пры эндэмічным недахопе ёду.

Гэткім далікатэсам паўстае кніга артыкулаў і рэцэнзій І.Шаўляковай. Праўда, кошты на тое рызота — ці па нашых дзіравых кішэнях і худых кашалях? Там павінна пазвякваць не абы-якая начытанасць і адукаванасць…

# Прафесійны альтруізм

**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

Якраз Ірыне Шаўляковай належыць трапны выраз "рытуальная злосць крытыка". Пагаджаючыся з мэтазгоднасцю менавіта *крытычнага* падыходу да асэнсавання як літаратурных, так і непасрэдна крытычных экзерсісаў, мушу адразу зазначыць: мая ўласная матывацыя звароту да кнігі артыкулаў і рэцэнзій Ірыны Шаўляковай "Сапраўдныя хронікі Поўні" абумоўленая адваротным: захопленасцю эрудыцыяй, талентам, густам аўтаркі. Артыкулы Ірыны Шаўляковай — заўсёды "знак якасці": выключная навуковая база, абазнанасць у найноўшых тэндэнцыях развіцця не толькі айчыннай, але і сусветнай літаратуры (апеляцыі да М. Павіча, Ц. Фішара, М. Кундэры, П. Карнэля і інш.). Таму вартасць выступленняў Ірыны Шаўляковай, па-першае, палягае ў тым, што нацыянальнае a priori выступае складнікам еўрапейскага. Прычым выступае натуральна.

Па-другое, аргументацыя, логіка крытыка жалезныя. Не паспрачаешся.

І, канечне ж, арыгінальнасць мыслення, трапнасць назіранняў, стыль. Чаго вартыя ўжо назвы раздзелаў і падраздзелаў: "«Насамрэч усё было не гэтак», або Крытык — таксама чалавек", "Нешта = Іншае?", "Жыццё і норавы літпралетараў: ад "канібалізму" — да медытацый", "Як важна не быць «арцюрам рэмбо»", "ЗДЕСЬ вам не ТУТ" і інш.

Выступленні Ірыны Шаўляковай — крыніца досціпу. Яе крытычныя артыкулы чытаюцца як захапляльныя літаратурныя творы. Гумар выключны (а нехта ж пісаў, што жанчынам гумар не ўласцівы): "Але ў нас абышлося без фанатызму — крытыка чытачу з гэтай нагоды, здаецца, не назаляла", "сучаснае беларускае літаратуразнаўства, і асабліва тое яго адгалінаванне, якое па волі нялітасцівага навуковага лёсу мусіць даследаваць бягучы літаратурны працэс, паўстае сапраўднай *уфалогіяй*", "дваццаць год таму празаікі, у адрозненне ад сённяшніх "літнеафітаў", не імкнуліся дэбютаваць раманамі", "быў час (і Алесь Наварыч у ім жыў), калі ў "Выдавецтве ЦК КП Беларусі" выходзілі кнігі пад назвай "Ноч пацалункаў незалежнасці", "насуперак распаўсюджанаму сярод не-крытыкаў пераканання, крытык — таксама чалавек", "калі б раманісты пачалі *насамрэч* прымаць да сэрца сентэнцыі крытыкаў, спачатку здарыўся б масавы суіцыд майстроў "арыгінальнага жанру", а пасля не менш масавая смерць ад голаду штукароў "жанру постарыгінальнага", "ніхто не эвалюцыянуе гэтак традыцыйна, як пераважная большасць сённяшніх нашых авангардыстаў". І гэтыя дасціпныя выказванні можна працягваць і працягваць цытаваць.

Урэшце, пра саму кнігу. Яна прысвечаная аналізу стракатага літаратурнага працэсу першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя. Развіццё сучаснай беларускай літаратуры вызначаецца перасячэннем разнастайных эстэтычных пошукаў, тэндэнцый. Разабрацца ў ім — задача з няпростых. Таму часта можна пачуць нараканні ў адсутнасці ў нас непрадузятай і аргументаванай крытыкі. Ад сябе дадам: і прафесійнай. У асобе Ірыны Шаўляковай усе гэтыя якасці шчасліва спалучаюцца.

Кола праблем, закранутых у "Сапраўдных хроніках Поўні", самае разнастайнае: Ірына Шаўлякова піша пра *архаіку* ў Сучаснасці ("Архаіка і яе "філіялы": утульнасць будучыні"), якая выяўляецца ў "«трафарэтнасці» мысленчага тыпу", "«паўфабрыкатным» характары не толькі масліту, але і сучаснага авангардызму", "уварванні ў найноўшую літаратуру рэмэйкаў". Уважлівае вывучэнне аргументацыі крытыка павінна працверазіць некаторыя гарачыя галовы неафітаў.

Асэнсоўвае крытык праблему *Я-Героя* сучаснай літаратуры, дакладней, яго адсутнасці: "Сённяшняе прыгожае пісьменства абыякавае да Герояў, яно ўшаноўвае дзівакоў" (артыкул "Партрэт без Героя"), адзначае герметычнасць быцця айчыннага прыгожага пісьменства. Даследуе сутнасць і напрамкі жанравых пошукаў сучасных літаратараў ("Крыж піянерскасці: Жанравая стратэгія найноўшага рамана ў фрагментах і зносках" — аналізуюцца раманы В.Гапеевай, В.Гурскай, П.Гаспадыніча.



Фота Аксаны Спрынчан

Прадметам роздумаў Ірыны Шаўляковай з'яўляецца таксама стан сучаснай беларускай крытыкі, у тым ліку прычыны яе нешматлікасці (""Партызан — XXI": стратэгія і перспектывы прафесійнага выжывання").

Пададзены ў "Сапраўдных хроніках Поўні" і літаратурныя партрэты (пашчасціла ж ім!) Алеся Бадака, Алеся Наварыча, Анатоля Казлова. Дарэчы, у артыкуле, прысвечаным Алесю Наварычу, і тлумачыцца Ірынай Шаўляковай сутнасць назвы яе зборніка. Апошнія дваццаць год развіцця айчыннай літаратуры вызначаюцца крытыкам як ***эпоха Поўні***: гэта "сімвалічная метафара" вельмі прыблізна вытлумачвае сутнасць складанага сімбіёзу рашучасці, калектыўных надзей, індывідуальных страхаў і самотна-містычных прадчуванняў (наконт лёсу мастакоўскіх летуценняў у роднай рэчаіснасці), з якім уваходзілі ў айчынную літаратуру прадстаўнікі сённяшняга "сярэдзіннага пакалення" — пакалення "Тутэйшых". Увогуле адчуваецца асаблівы піетэт крытыка ў адносінах да "Тутэйшых", якія здолелі сцвердзіцца, на думку І.Шаўляковай, у якасці "ўнікальнай (прынамсі, "непаўтаральнай") з'явы <…> пасля якой у найноўшай гісторыі роднай літаратуры маецца пэўны прагал — трывожная "чорная дзірка", што ніяк не запаўняецца "жыцця(міфа)творчасцю" чарговага пакалення рупліўцаў айчыннага прыгожага пісьменства".

Трапна сказана пра Альгерда Бахарэвіча ("Ніхто цягам апошняй пяцігодкі не эвалюцыянаваў гэтак імкліва ад *літаратара* да *пісьменніка*").

Гэтыя арыткулы — адначасова і бездакорны навуковы аналіз, і, як заўжды ў Шаўляковай, дасціпна-суб'ектыўнае прачытанне. Чым гэтыя артыкулы і цікавыя, і карысныя (і для навукі, і для крытыкі, і для выкладання літаратуры "ў ВНУ і школе").

Ірына Шаўлякова літаральна адным сказам дакладна акрэслівае сутнасць мастацкіх пошукаў цэлага пакалення літаратараў: "Глабальнае супрацьстаянне двух эстэтык — ушанаванне суб'ектыўнасці ў процівагу страце суб'ектыўнасці — у беларускай літаратуры канца XX — пачатку XXI стст. выяўляецца даволі яскрава падчас супастаўлення эстэтычнага поля "Тутэйшых" — і "Бум-Бам-Літу" ды "Другога фронту мастацтваў". Даследчык адзначае, што, нягледзячы на стракатасць мастацкіх дэкларацый і матывацый, беларускія пісьменнікі і сёння ўскладаюць на сябе місію фарміравання "вобраза Нацыі", "што мог бы стацца архетыпам найноўшай беларускай культуратворчасці і які ў мастацкім тэксце выяўляецца <…> праз персанажаў як носьбітаў *самасці*, ядра асобаснасці".

Аналіз мастацкіх пошукаў сучасных літаратараў гучыць як дыягназ: "Сітуацыя зломнасці пазнаваўчай, эстэтычнай, мастацкай парадыгмаў прыводзіць

> *« Артыкулы Ірыны Шаўляковай — заўсёды "знак якасці": выключная навуковая база, абазнанасць у найноўшых тэндэнцыях развіцця не толькі айчыннай, але і сусветнай літаратуры (апеляцыі да М. Павіча, Ц. Фішара, М. Кундэры, П. Карнэля і інш.).*

нават не да рэвізіі каштоўнаснай сістэмы каардынат. Але ў большасці выпадкаў — да змены яе палюсоў. Адпаведна, пераўтвараецца сацыякультурная "тапаграфія": напрыклад, тыя сэнсы, коды, што дагэтуль усведамляліся стрыжнявымі для таго ці іншага фрагмента агульнакультурнай прасторы, перамяшчаюцца з цэнтра мастацкай свядомасці на перыферыю, і наадварот".

Наступныя сентэнцыі можна акрэсліць як **парады маладому літаратару**: "Гульня ў гульню" ў літаратуры пачатку XXI стагоддзя, натуральна, можа быць плённай — калі перажываецца як *тактыка* ўлазінаў, уваходзінаў у найноўшую мастацкую прастору. Аднак будаваць адно на ёй творчую *стратэгію* сёння, па меншай меры, неабачліва, бо аўтар ад пачатку рызыкуе стацца не чалавекам-аркестрам, але чалавекам-з-натоўпу", "той, хто сёння выдае кнігу паэзіі адно **з намерам напалохаць,** мусіць памятаць, што сённяшні чытач, які паспеў ужо здзіцець у джунглях масліту, сам каго хочаш напалохае. **No pasaran!**"

У раздзеле "Дзённікі паўналецця" Ірына Шаўлякова аналізуе творы пісьменнікаў "апошняй хвалі", "таго літаратурнага пакалення, якое нараджаецца тут і цяпер" (В. Трэнас, А. Кавалеўскага, Р. Малахоўскага, Ус. Гарачкі, В. Гапеевай, В. Гурскай, П. Гаспадыніча, С. Прылуцкага).

У раздзеле "Чытанне для параможцаў" змешчаныя рэцэнзіі на асобныя кнігі.

Няўдзячная справа пераказваць змест гэтых рэцэнзій, адзначым толькі, што Ірына Шаўлякова здольная дакладна і лаканічна вызначыць як "ідэйны пафас" асобнага зборніка, так і спецыфіку мастацкіх пошукаў пісьменніка (крытыка) ўвогуле. Так, трапна заўважана пра творчасць Алеся Пісьмянкова: "Роздумнасць <…> уяўляецца адным з важнейшых прынцыпаў эстэтычнага асваення быцця…" "Вызначальным прынцыпам" адносін з літаратурай і літаратарамі "ці не самага дзейснага сёння змагара з крытычнай самотай" Л. Галубовіча Ірына Шаўлякова вызначае як "новую шчырасць". Ні дадаць ні адняць.

Шэраг артыкулаў прысвечаны рэцэпцыі твораў сучасных замежных пісьменнікаў, перакладзеных на беларускую мову. Артыкулы выконваюць перш за ўсё асветніцка-прапагандысцкія функцыі: заахвоціць чытача (пашырыць эмацыянальны, інтэлектуальны і культурны кругагляд) звярнуцца да актуальных ("патэнцыяльна «хрэстаматыйных»", па словах І. Шаўляковай) замежных аўтараў.

Кажуць, што нашы вартасці — працяг нашых недахопаў (ці наадварот?). Паважаная спадарыня Ірына, ну не ўсе такія разумныя і здольныя адразу зразумець сказанае вамі. Працуючы са студэнтамі, праецырую выступленні крытыкі на студэнцкую аўдыторыю: ёй бывае цяжка ўспрымаць мнагія пасажы, накшталт "...вектар стваральна-мадэлюючай дзейнасці раманіста скіраваны ў рэчыўную рэчаіснасць: груvastка-дэталізаваная "аб'ектыўная рэальнасць" у беларускім традыцыйным рамане ўзору другой паловы XX стагоддзя вельмі часта паглынае спробы панарамнага паказу ўнутранага космасу, асобаснай рэчаіснасці, важкасць якой застаецца дэкларатыўнаю".

І ў заключэнне: Ірына Шаўлякова часта піша пра *альтруізм* сучаснай беларускай крытыкі. Варта падкрэсліць і альтруізм самога крытыка Ірыны Шаўляковай, пра што сведчыць цыкл сёлетніх крытычных лімаўскіх артыкулаў. Хто з сучасных літаратараў ці крытыкаў здолее не тое што асэнсаваць, класіфікаваць, а хаця б перачытаць усе прааналізаваныя Ірынай Шаўляковай творы?

# Паэзія



Іван Муравейка

**“Пі з крыніцы бацькоўскай часцей, і яна будзе чыстай і поўнай”, — так прачула звяртаецца да маладога пакалення старэйшы беларускі паэт Іван Муравейка, які ў кастрычніку адзначыў свой 90-гадовы юбілей.**
**Ён — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, аўтар многіх кніг для дарослых і дзяцей. На вершах паэта, уключаных у навучальныя праграмы, чытанкі і падручнікі, вучылася не адно пакаленне беларускіх школьнікаў. Нездаўга да юбілею пісьменніка ў РВУ “Літаратура і Мастацтва” выйшаў яго зборнік прозы і паэзіі “Я — Іван з Беларусі”, які атрымаў станоўчы рэзананс у друку.**
**Цяпер рыхтуецца да выдання новая кніга Івана Муравейкі “Чые рукі прыгажэйшыя?”, адрасаваная дарослым і дзецям. Некалькі вершаў шаноўнага паэта менавіта з гэтай кнігі прапануем увазе чытачоў “ЛіМа”.**

## Малююць дзеці

*Дзеці малююць — не перашкаджайце! —*
*На ўтоптанай вуліцы і на асфальце,*
*На сценах, на дошчачках і на фанеры,*
*На снезе пушыстым, на белай паперы;*

*Алоўкам і палачкай, крэйдай і фарбай.*
*Малююць і не патрабуюць зарплаты.*
*Малююць: суквецці і сонца ў блакіце,*
*Карову на лузе і жаўранка ў жыце,*

*Дамы-небаскробы, бабрыную хатку,*
*Шырокае поле і вузкую градку,*
*Ракету між зор, папяровага змея*
*І добрага, ласкавага чарадзея…*

*Але на малюнках не ўбачыш, каб людзі*
*Людзей забівалі ў нянавісці лютай,*
*Каб неба чарнела ад дыму пажараў,*
*Каб слёзы цяклі па матуліных тварах.*

*Дзеці малююць — бядовыя, ціхія —*
*У слаў-гарадах, невядомых сялібах.*
*Калі б людзі свет ладкавалі па-іхняму,*
*Ён стаў бы для кожнага*
*домам шчаслівым.*

## Праўнук Перамогі

*Іду я з прадзедам сваім,*
*Іду на свята Перамогі.*
*Дзядуля ў фрэнчы франтавым,*
*Даўно пажухлым,*
*Ды зусім*
*Не пацямнелі ўзнагароды —*

*І ордэны, і медалі*
*Блішчаць, як сонейкі, як зоры,*
*Нібыта іх яму далі*
*Не шмат гадоў таму, а ўчора.*

*Яны расказваюць аб тым,*
*Як ваяваў савецкі воін,*
*Як праз агонь, ваду і дым*
*За родны край хадзіў у бой ён.*

*Іду з дзядулем крок у крок*
*Да Вечнага агню святога.*
*Усе глядзяць на мой сцяжок:*
*Ён — праўнук Сцяга Перамогі.*

## Хлеб

*Хлеб. Ён штодзённа ёсць у нас.*
*Мы нежадны кавалку хлеба.*
*А быў жа час — гаротны час*
*І забываць яго не трэба.*

*Яшчэ галодных ёсць зашмат*
*На нашай сонечнай планеце.*
*Я падзяліцца з імі рад —*
*Хай будзе хлебна ва ўсім свеце.*

## Настаўніца

*Даўно ўжо спяць дзеці*
*і ў сне завіхаюцца:*
*Хто — поле арэ,*
*хто — трымае штурвал…*
*Схілілася нізка над сшыткам*
*настаўніца.*
*Гадзіннік схавала,*
*каб не турбаваў.*

*Праходзяць прад ёю*
*цікаўныя, жвавыя*
*Яе выхаванцы.*
*Што ім пажадаць?*
*Чакае наперадзе*
*добрая слава іх,*
*Але не адну вышыню*
*трэба ўзяць.*

*А можа сустрэнуцца*
*з бурамі, ліўнямі…*
*Няхай не спыняюцца.*
*Трэба ісці.*
*Настаўніца ў сшытках*
*памылкі іх выправіць,*
*Каб меней памылак*
*рабілі ў жыцці.*

## Бярозкі-сястрычкі

*Дзве бярозкі — дзве сястрычкі*
*Абняліся ля крынічкі.*
*Цэлы дзень глядзяць у люстра,*
*Як іх косы ўюцца, льюцца.*

*Хто не пройдзе — павітае,*
*Спыніцца, паразмаўляе.*



Фота Кастуся Дробава



Анатоль Шушко

* * *

*Нарэшце згублены радок!*
*Не ашукае!*
*Імкне ка мне мой саладок,*
*К сабе гукае.*

*Ён перапоўнены сабой,*
*Што пчолка кветам,*
*Неўтаймаванаю журбой*
*Аб неапетым.*

*Такуе марная гурма.*
*Мне ж — не да болю.*
*— Жыву табою нездарма —*
*Жывы табою.*

## Мабыць, Бог пацалаваў

*Зноўку жонка мая — з зухаў зух!*
*І паціху: — Мне нешта няможацца...*
*Накідае пахутку хвартух*
*І на кухні памалу капошыцца.*

*А сама толькі-толькі прыйшла*
*З тлуму школьнага. Твар ейны свеціцца.*
*Быццам скарб незвычайны знайшла.*
*Я ж чмялём,*
*што з пахмелля, прывеціўся.*

*А яна, а яна, а яна*
*Пазірнула ўшчувальна і божыцца,*
*Каб не узнікла між намі вайна,*
*Там, дзе д'ябал*
*хвастаты прымножыцца.*

*З-за тактоўнасці горда маўчыць.*
*Запытанне адзінае ў позірку,*
*Ад каторага сэрца трымчыць,*
*Хоча ўпасці ў халоднае возера.*

*...О, настаўніцкі лёс! Між дзяцей*
*Ашторанку душа яе з вераю.*
*Мо таму (зарабіў, што хацеў):*
*— Старшакласнік, хадзі павячэраем!*

*Школьны вэрхал і наша сям'я —*
*Гэта тое, што доляй асільваю...*
*Недарэмна задумаўся я:*
*— Мабыць, Бог цалаваў маю мілую?*

## Вера

*Паспрабуй згубіць яе, якую*
*Песціць у душы і недарэка.*
*У жыцці яна ўва ўсім святкуе,*
*Нат у тым, што ты пракукарэкаў.*

## Зніч

*У яснай, сонечнай усмешцы*
*Вясновай*
*Душа мая навек належыць*
*Абновам,*

*Што пасярод снягоў срабрыстых*
*Сасніла*
*Жыцця зямнога голас чысты*
*І сілы.*

*Дзе волі, шчаснасці, спрыяння —*
*Даволі,*
*Дзе безумоўнае жаданне —*
*Для долі.*

*Каб смакаванне пчолкі дбайнай*
*У квеце*
*Яшчэ ляпіла лепей любасць —*
*Каханне ў свеце.*

## Ля роднае хаты

**Сястры Ніне**

*Не цень,*
*Гэта сцень*
*Каля родных сцен:*
*Матуля наведала хату.*
*Ёй —*
*Смелай —*
*Спрытней,*
*Ёй —*
*Ціхай —*
*Зручней*
*Пакінуць было*
*Хаты шату.*



Алесь Емяльянаў

# Навек у тваіх абдымках

### *Адзінота*

*Спёка яшчэ не ёсць*
*выпрабаваннем годнасці —*
*сонца праменнем свідруе мяне наскрозь.*
*— Дружа мой, ты са мною,*
*напэўна, пагодзішся,*
*што годнасць — панятак абстрактны,*
*а спёка дакладна ёсць.*

*Ты не спрачаешся й мякка шапочаш на вуха:*
*“Я у тваім існаванні толькі часовы госць.*
*Прыходжу часцей надакучліваю задухаю,*
*стогнамі, уздыхамі, паслядоўнымі рухамі*
*калі мяне клічаш, зажураны ягамосць”.*

### *Яна…*

* * *

*Калі яна прачынаецца ў ложку з любым,*
*устае і глядзіць на сонца —*
*яно заплюшчвае вочы.*
*— З кім ты, мілы, цягаўся заўчора паўночы? —*
*яна, як ніхто, ўмее ставіць пытанне рубам.*

*— Ты што, мне не верыш?*
*— Ды дзеўкі гурмою*
*за табою ўпадаюць — дай табе толькі волю.*
*Ён хапаецца за галаву, лаецца, як яшчэ ніколі*
*не лаяўся, смачна плюецца ў столь*
*і з усмешкаю кажа:*
*— Заўчора я здраджваў табе з табою…*

* * *

*яна ў вёсцы сваёй першая прыгажуня*
*яе рукам пазайздросціла б нават Джуна*
*яе дом атачаюць прылуцкія джунглі*
*і чыгунка струною пяе.*

*вывучаеш упарта расклад электрычак*
*развітанне прыемная ўсё ж акалічнасць.*
*калі заўтра спатканне за шчасце палічыш*
*ты не можаш ужо без яе*

*выглядаеш магчыма крыху апантаным,*
*выдзіраючы з клумбаў усе туліпаны,*
*што ж датычыцца твайго псіхічнага стану*
*вар'яцееш і ў краме вітрыны б'еш.*

*з ёю побач жыве дух раўнівіцы Геры*
*яе атакуюць першыя кавалеры*
*табе меней даводзіцца крэмзаць паперы*
*а яшчэ ты не верыш не верыш не верыш*
*што прачнешся калісь без яе.*

* * *

…я хотел бы, чтоб меня нашли
оставшимся навек в твоих объятьях,
засыпанного новою золой.

**Іосіф Бродскі**

*па вясне пачынаюць усе пакрысе вар'яцець*
*і смерць ужо не ўспрымаецца*
*менавіта як смерць*
*асабліва калі жлукціш*
*пятую пляшку за вечар*
*бо каштуе танней*
*чым пачак звычайнай паперы*
*што тут скажаш яшчэ ну па крайняй меры*
*— auf Wiedersehen*
*мая шматпакутная печань*
*і калі б не ты маё шчасце я б напэўна загінуў*
*менавіта! радасць мая*
*я мушу сказаць табе —*
*ты кахаешся як багіня!*
*заканчэнне святла і тым больш канец свету*
*не палохае — цемру глытаем*
*як дым цыгарэтны*
*а выгнаннік Іосіф дакладна меў рацыю —*
*хай у прорву ляціць і бурыцца цывілізацыя —*
*і ўжо неістотна што паміж намі —*
*далёкасць ці блізкасць*
*я б застацца хацеў у абдоймах тваіх*
*засыпаны новым прыскам*

# Камертон для паэтаў

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Віктара Кавалёва

**У выдавецтве “Мастацкая літаратура” не так даўно пабачыла свет кніга “Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы”. Выданне, прысвечанае аднаму з самых яркіх беларускіх паэтаў, сталася чарговым у серыі “Жыццё знакамітых людзей Беларусі”. Наклад кнігі па сённяшніх часах немалы — паўтары тысячы асобнікаў, але яна мае ўсе шанцы ўжо цяпер увайсці ў спіс рарытэтаў: з моманту выхаду прайшло ўсяго некалькі тыдняў, а вольных асобнікаў у выдавецтве засталіся лічаныя адзінкі.**




Такі поспех праекта, прысвечанага Максіму Багдановічу, цалкам заканамерны і нават прадказальны. Зусім хутка краіна будзе адзначаць 120-годдзе з дня нараджэння класіка, таму кожная новая кніга — ужо падзея, і месца яе ў бібліятэцы ці ў прыватным кнігазборы — амаль справа гонару для аматара беларускай літаратуры. З іншага ж боку, думаецца, адзін са знакаў якасці кнігі — яе з’яўленне менавіта ў межах серыі “ЖЗЛБ”, а таксама старанная і адказная праца ўкладальніка — дырэктара Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяны Шэляговіч.

— Серыя “Жыццё знакамітых людзей Беларусі” заснавана ў “Мастацкай літаратуры” ў 2004 годзе, — распавядае галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп. — У яе межах пабачыла ўжо свет больш як 15 кніг, розных па будове, памеры, канцэпцыі ўкладання. Чаму серыя такая папулярная? Адназначна адказаць складана. Напэўна, таму, што яе героі — яркія асобы ў нашай культуры і літаратуры. Цяпер у цэнтры ўвагі заканамерна апынуўся Максім Багдановіч. Задума гэтай кнігі з’явілася яшчэ год пяць таму, калі пабачыў свет том, прысвечаны Уладзіміру Караткевічу. Тады я адразу ж звярнуўся да Таццяны Эдуардаўны з прапановай падрыхтаваць выданне. Яна пагадзілася.

Выданне “Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы” ўключае тры раздзелы. Успаміны людзей, якія асабіста ведалі паэта і жылі ў той час, аб’яднаныя ў частку “Светлы ж след будзе вечна жывым…”. Кожны аўтар успамінаў — таксама гістарычная асоба, яркая і значная, таму іх творы маюць для нас сёння безумоўную каштоўнасць з пункту гледжання як зместу, так і эмацыянальнай напоўненасці. Раздзел “Госць з высокага неба” склалі творы пра Багдановіча, напісаныя даследчыкамі яго жыцця і творчасці ўжо пазней, у 1970 — 80-я гады. Сярод аўтараў таксама ёсць легендарныя імёны — Ніна Ватацы, Алесь Бачыла, Міхась Стральцоў, Мікола Ермаловіч, Уладзімір Конан… Значную частку кнігі склалі творы-прысвячэнні Багдановічу — яны аб’яднаныя ў раздзел “Усе мы разам ляцім да зор…”. Тут прадстаўлена каля 70 паэтаў. “На жаль, не ўсе артыкулы, прысвечаныя Максіму, трапілі ў кнігу, — зазначае Віктар Шніп. — Але Таццяна Эдуардаўна пры ўкладанні звяртала ўвагу на тое, што ў нас не так даўно ўжо выходзіла кніга пра Багдановіча “Я хацеў бы спаткацца з Вамі…”, таксама падрыхтаваная ў музеі паэта, і адным са значных “пунктаў” было тое, каб гэтыя выданні перагукаліся як мага менш”.

У кнізе пра Багдановіча — шмат здымкаў. І гэта не толькі фота самога паэта (іх можна пералічыць па пальцах), але і згадкі пра мясціны, дзе бываў Максім, здымкі са свят паэзіі ў Ракуцёўшчыне, што вось ужо на працягу многіх год ладзяцца ўлетку. Адметны выгляд выданню надаў мастак Усевалад Свентахоўскі. Раней ён ужо працаваў над кнігамі серыі “ЖЗЛБ” і таму пастараўся зрабіць кнігу пра Багдановіча не падобнай да іншых.

Новых фактаў пра жыццё Максіма Багдановіча вы тут не знойдзеце. Але прадстаўнікі маладога пакалення адкрыюць для сябе шмат невядомых старонак. “Творы, што ўвайшлі ў кнігу, ужо знаёмыя чытачам. Яны друкаваліся ў розных выданнях год 20 — 30 таму, але ж, сабраныя разам, вымалёўваюць больш яскравы партрэт творцы. Для моладзі гэта адкрыццё, а для нас, прадстаўнікоў старэйшага пакалення, — прыемнае паўтарэнне прачытанага”, — зазначае Віктар Шніп.

Можна сцвярджаць, што ў “Мастацкай літаратуры” да юбілею Багдановіча выйшаў цэлы комплекс выданняў, якія дапаўняюць кнігу “Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы”. Гэта факсімільнае выданне “Вянка” (1913) — адзінай кнігі паэта, а таксама твор Алеся Марціновіча “Свяці зорка, свяці: дзецям пра М. Багдановіча”.

Што да выхаду новых кніг, тут усё зразумела — свежыя выданні правакуюць чытацкі інтарэс. Але ж як патлумачыць цікавасць да “Вянка”, здавалася б, усім добра знаёмага. Тым больш што за амаль сто год жыцця кнігі ўжо выходзіла некалькі яе факсімільных узнаўленняў.

— З просьбай падрыхтаваць чарговае факсімільнае выданне “Вянка” да нас звярнуліся супрацоўнікі музея М. Багдановіча, — тлумачыць Віктар Анатольевіч. — Цяпер кніга выйшла накладам у тысячу асобнікаў. І што важна — амаль увесь тыраж разышоўся за месяц! Час праходзіць, дзеці вырастаюць, завітваюць у музей М. Багдановіча… І таму “Вянок” як прадаваўся, так і прадаецца сёння. Гэта запатрабаванае выданне, яно служыць своеасаблівым паэтычным камертонам для маладых творцаў. Вучыць, як трэба складаць першыя кнігі, чым іх напаўняць, як працаваць са словам і цэласнай структурай кнігі паэзіі. Лёс любога паэта можа скласціся так, што ў яго па розных прычынах выйдзе толькі адна кніга, як у Багдановіча. Таму яе варта рабіць няспешна, каб у канцы свайго жыцця паэт мог сказаць: “Я не самотны, я кнігу маю…”

---

*У падтрымку чытання*



## Пісьменнік Анатоль Кім: «У Мінск прывяёў “Шлях Абая”»

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Кастуся Дробава

**— З чаго пачалося для вас уваходжанне ў літаратуру?**

— (*Жартуе.*) Я пражыў такое доўгае жыццё, што ўжо і не памятаю, з чаго пачалося.

Відаць, упэўненасць, што я магу пісаць, знаходзячыся зусім у чужым асяроддзі, у поўнай адзіноце, не бачачы прадстаўнікоў свайго народа, — толькі ад імя Сваёй Вялікасці Асобы, даў мне Андрэй Платонаў. Сваімі творамі даў зразумець, што любы чалавек можа стаць пісьменнікам, не прадстаўляючы ні народ, ні культуру, ні краіну, а толькі самога сябе.

**— Што чытаеце і над чым працуеце апошнім часам?**

— Я даўно не чытаю. З тых часоў, як з’явілася руская постмадэрнісцкая літаратура, Пелевін, Данцова, Акунін і іншыя адыёзныя пісьменнікі. Я спрабаваў іх чытаць, але яны не задавальняюць мяне ў моўных адносінах, з пункту гледжання культуры мовы.

Увогуле, я адышоў ад публічнасці. Знаходжуся ў глухім скіце і пішу апошнюю сваю кнігу. Выключэнне зрабіў для Мінска, дзе праходзіла прэзентацыя важнага для мяне праекта — рамана Мухтара Аўэзава “Шлях Абая”, пераклад якога я прысвяціў некалькі гадоў жыцця.

---

*Клуб бібліяфілаў*

# Аўтографы і рарытэты



**У магазіне “Кніжны салон” адбылося чарговае пасяджэнне клуба бібліяфілаў *Ad-librum*. Гэтым разам у цэнтры ўвагі яго сяброў апынуліся аўтографы — сур’ёзныя і кур’ёзныя — з калекцый рэспубліканскіх бібліятэк.**

Чэслава ПАЛУЯН,
фота Віктара Кавалёва

Як распавяла кіраўнік клуба Ала Зміёва, тэма для пасяджэння абрана не выпадкова. Бо менавіта аўтограф знакамітага чалавека ператварае звычайны асобнік у рарытэт і нароўні са зместам робіць кнігу каштоўнай. Але ж тэма аўтографа — шырокая і захапляльная. Таму напачатку для абмеркавання былі абраны надпісы на кнігах з рэспубліканскіх кнігазбораў. Не менш каштоўнымі і цікавымі з’яўляюцца аўтографы з прыватных бібліятэк (у тым ліку і сяброў клуба), але з імі можна будзе пазнаёміцца на адной з вясновых сустрэч таварыства.

Падчас пасяджэння клуба як сябры-бібліяфілы, так і звычайныя наведвальнікі “Кніжнага салона” мелі магчымасць пабачыць адметныя аўтографы на кнігах з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, а таксама аддзела рэдкіх кніг бібліятэкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

У ліку самых цікавых выступленняў можна адзначыць расповед бібліёграфа Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Таццяны Рошчынай. Яна расказала пра адзіны аўтограф Максіма Багдановіча (дарэчы, “Вянок” з подпісам Максіма належаў Мікалаю Какуеву, сыну Ганны Какуевай), аўтографы Марка Шагала, Томаса Моргана. Таццяна Іванаўна звярнула ўвагу прысутных і на складаныя лёсы гэтых кніг, гісторыі іх шматлікіх падарожжаў, што скончыліся ў фондах НББ.

Не абышлося пасяджэнне і без сюрпрызаў. Не так даўно Ала Барысаўна распавядала, што пры клубе бібліяфілаў плануецца стварэнне ўласнага музея кнігі. Але цяпер планы ператвараюцца ў рэчаіснасць, бо першыя экспанаты ў музеі ўжо ёсць. Гэта выданні, перададзеныя Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь: альбом на беларускай і польскай мовах з фотаздымкамі Зоф’і Хамянтоўскай, а таксама невялічкі альбом, прысвечаны беларуска-нямецкай выстаўцы па Магдэбургскім праве.

***На здымку: Таццяна Рошчына распавядае пра аўтографы на кнігах з фондаў НББ.***

Літаратура і мастацтва № 44 4 лістапада 2011 г.

# У маладой паэзіі — жаночы твар

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Мяркую, ніхто не стане спрачацца, што першая кніжка ў жыцці — гэта значная падзея. Менавіта даверанае паперы слова дазваляе вызначыць творчы патэнцыял аўтара, багацце фарбаў яго вобразнай і моўнай палітры, ацаніць майстэрства перакладу пачуццяў на рытм вершаванага радка, убачыць знаходкі і дапамагчы выправіць заганы. З першай кніжкай можна павіншаваць Ганну Міклашэвіч, Яну Явіч і Вольгу Злотнікаву — паэтак, прозвішчы якіх чытач сустрэне і ў зборніку "Маладая паэзія Беларусі", што, спадзяёмся, хутка з'явіцца ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". А пакуль пагартаем старонкі выданняў маладых.**

## «Дзявочых сноў расквечаная ружа»

Галоўнай тэмай зборніка Ганны Міклашэвіч "**Пялёсткі сняжынак**", зразумела, з'яўляецца каханне — першая прыкмета жаночай паэзіі. Паэтка паскардзіцца, што "*Нехта скажа: "Альбомна", / Нехта скажа: "Банальна"*, але не спыніць даверлівай размовы пра тое, з чаго складаецца жаночая існасць — са здольнасці самаахвярна раствараыцца ў сваім абранніку.

*Не праспяваць*
*пяшчотнае "кахаю" —*
*Усё роўна,*
*што сябе абрабаваць.*

Але яна не замыкаецца ў адной тэме. "Вершы з адкрытай, нібыта ў дзіцяці, душой", — такое азначэнне дае Ганна Міклашэвіч сваёй лірыцы. "*Светлая споведзь*" яе радкоў прывядзе чытача на невялічкі хутарок, дзе прайшло дзяцінства: у бацькоўскім куце цвіла "*дзявочых сноў расквечаная ружа*", "*І бусел, нібы важны чын, / Па полі ходзіць задуменна*". Ганна падзеліцца з чытачом і клопатамі сённяшняга дня, раскрые спадзяванні на дзяцей і трывогу за іх:

*Ты падрастаеш —*
*ты зусім вялікі.*
*Гляджу з незразумелым*
*нейкім страхам.*
*А неба песціць*
*сонечныя блікі...*
*Ты хутка адляціш*
*далёкім птахам.*

У пабудаваным ёю свеце цёпла і ўтульна, думаецца, чытач ахвотна зазірне ў яго яшчэ не адзін раз.



## «Счастье дремлет в горстях земляники»

У серыі "Мінскія маладыя галасы", заснаванай Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі і падтрыманай Мінскім гарвыканкамам, выйшла кніжка **Вольгі Злотнікавай "Зарождение звука"**. Вольга — студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, друкавалася на старонках літаратурных часопісаў Беларусі, пераможца рэспубліканскага конкурсу маладых паэтаў у Брэсце (2010 г.). У вершах Вольгі Злотнікавай дасведчаны чытач адчуе ўплыў інтанацый рускай класікі і адпаведны набор літаратурнай сімволікі: кружыць "судьбы веретено", "душа летит, как мотылёк", дзіця "играет вселенными", на "холодном январском снегу" гараць "восковые церковные свечи", гераіня "внемлет небесной тревоге" і яе рука "прикоснётся к незримой тайне".

*Друга светлого мне не надо,*
*Темноглазый за мной придёт.*
*Невесёлому буду рада*
*В этот злой,*
*невесёлый год.*

Вольга не шкадуе эпітэтаў і параўнанняў у межах аднаго верша, што далёка не заўсёды ідзе яму на карысць:

*Не гробового, грозного покоя*
*Ждала в бреду,*
*как только духи ждут,*
*Но не в слепых*
*скитаниях минут,*
*А в аромате белого левкоя.*
*Дарила губы,*
*красные, как маки,*
*Ответной,*
*не отвергнутой любви.*

Але яе ўважлівы погляд умее вылучыць шчасце ў прыгаршчах суніц, пільны слых — адчуць нараджэнне гуку ва ўсім, што навокал. Таму хочацца верыць, што маладая паэтэса на правільным шляху ў пошуках уласнай паэтычнай мовы.



## «Жыццё ідзе па лініях метро»

Кніга **"Сувязь жыццяў" Яны Явіч** стала першай ластаўкай праекта "Мінскія маладыя галасы", таму ў ёй чытача чакае грунтоўная прадмова Міхася Пазнякова пра працу Мінскага гарадскога аддзялення з літаратарамі-пачаткоўцамі. Сетка літаратурных гасцёўняў і тэматычных творчых конкурсаў, семінары для маладых літаратараў плённа вылучаюць з агульнага шэрагу юных таленавітых паэтаў, празаікаў, публіцыстаў і адчыняюць шлях у літаратурнае жыццё: штогод плануецца выдаваць на конкурснай аснове 5—7 кніг. І кніга Яны, безумоўна, — добры пачатак. Гэта гарадская лірыка — тут няма неабсяжных прастораў, позірк стрыманы натоўпам будынкаў, а "жыццё ідзе па лініях метро".

*Горад лічбаў*
*Кожны адзінкавы лёс*
*Чыстым радком,*
*Недаказанай тэарэмай.*

Таму Яна Явіч часам ідзе на эксперымент — і смела адчувае сябе ў пабудове формы верша.

*Празрыстай постацццю*
*Адбіўся вобраз твой*
*На заінелым шкле.*
*Ты не ў сабе,*
*Бо не твая*
*Цяпер*
*яна.*

Белы верш і верлібр на старонках невялічкай кніжкі суседнічаюць з класічным вершам і ўдала дапаўняюць адзін аднаго стройнай сістэмай вобразаў. *Крычала неба — дарыла крылы. / Крычалі крылы, спаткаўшы неба. / Крычалі зоркі — многагалоссем / Сузор'я Рака (а можа, Льва)… / І толькі месяц не хваляваўся — / Ён быў спакойны, як і заўжды…*

Яе лірычная гераіня блукае па вуліцах, уяўляючы сябе то гімназісткай пачатку дваццатага стагоддзя, то "промнем, маланкаю", што мільгне і губляецца ў гарадскім натоўпе. *Калі сэрца — сусвет, а душа — панарама/ Ілюзорнага свету тэатральных куліс, /Гэта не серыял, а жыццёвая драма —/ Быццам нехта нябачны выклікае на біс.*

Яе талент, як сама паэтка піша ў аднайменным вершы, — "яшчэ зусім дзіця". Пажадаем яму лёгкіх крокаў па шляху Паэзіі.

---

Таццяна СІВЕЦ,
фота аўтара

# Сэнс Слова і музыка Радка

**Са Святланай Гіё, сябрам Асацыяцыі рускіх пісьменнікаў у Парыжы, мы сустрэліся падчас Першай міжнароднай нарады маладых пісьменнікаў у Передзелкіне. Тут, на творчым форуме, дзе кожны суразмоўца — асоба ў літаратурным свеце сваёй краіны, па сутнасці любая гутарка — значная і інфарматыўная. Так сталася і гэтым разам.**

**— Спадарыня Святлана, як вы патрапілі на форум?**

— Наша арганізацыя была ўключана ў склад Саюза пісьменнікаў Расіі, мае работы перамаглі на конкурсе, і з 24 удзельнікаў менавіта мяне дэлегавалі сюды. А наогул я апублікавала два тамы трылогіі "Лісты з Парыжа ва Уладзівасток" на французскай мове — у хуткім часе пабачыць свет і трэці том, таксама рыхтуецца кніга "Пазітыўныя думкі". Пасля буду пісаць творы для дзяцей, таму што гэтага ўжо чакае мой рэдактар!

**— Гэта значыць, вы пішаце "на замову"?**

— Не, проста я чалавек арганізаваны і ўмею планаваць сваю працу *(смяецца)*. Таму кожны год у мяне выходзіць па кнізе.

**— Ці маглі б вы параўнаць літаратурны працэс у Расіі і Францыі?**

— Я пакуль не друкавалася ў Расіі — тут свае цяжкасці. Як і ў Францыі, дарэчы, дзе кожную хвіліну выпускаецца 30 кніг, а чытаюць мала. Кажуць нават, што кніга жыве 15 дзён, калі на вокладцы няма імя вядомага аўтара ці рэдактара. Але пры гэтым у Парыжы мяне апублікавалі бясплатна, а ў Расіі, як мне патлумачылі, трэба за гэта плаціць… Аднак публікавацца трэба ў любым выпадку — гэта ж рэклама, а калі б мяне не выдавалі ў Парыжы, то і на гэтую нараду я б не патрапіла, не пачула столькі карыснага і цікавага, бо там мы ўсё-ткі адасобленыя адно ад аднаго. Хаця французскія калегі-пісьменнікі мне дапамагаюць і захапляюцца тым, што я прыехала і адразу пачала пісаць па-французску. Нават часам параўноўваюць мяне з Эльзай Трыале, жонкай паэта Луі Арагона. А мне сапраўды цікава знайсці кропкі судакранання паміж нашымі народамі. Прыкладам,



удава Валянціна Пікуля дазволіла мне перакласці яго навелу "Парыж быў выратаваны" — там шмат цікавых момантаў: Ганна Ахматава і Мадыльяні — іх каханне ў Парыжы… Французы гэта павінны ведаць, бо часта там друкуюцца кнігі, аўтары якіх негатыўна ставяцца да ўсяго рускага. Але ж нельга забывацца, што пасля Рэвалюцыі толькі ў Парыж прыехалі 20 тысяч эмігрантаў, і па статыстыцы сёння кожны чацвёрты парыжанін мае рускія карані.

**— І вы гэта адчуваеце?**

— Так, я ж нарадзілася ў Расіі.

**— А пераклад сёння дапамагае творцам выходзіць за пэўныя нацыянальныя межы?**

— Мне падаецца, што пераклад павінен быць такім, каб чытач не разумеў, якой моваю першапачаткова быў напісаны твор. Мае пераклады маюць французскі стыль — і мне гэта падабаецца.

**— Чаго, на вашую думку, не хапае маладой літаратуры, як французскай, так і сучаснай расійскай?**

— Я лічу, што дзе б ні працаваў пісьменнік, ён не павінен арыентавацца на "сярэдняга чытача". Трэба імкнуцца, каб твая кніга жыла калі не стагоддзе, то хаця б больш як гэтыя 15 дзён. А праблема сучасных французскіх літаратараў у тым, напэўна, што яны так адпрацоўваюць свой стыль, так імкнуцца да захавання музыкі радка — пры тым, што французская мова сама па сабе спеўная, — што ў рэшце рэшт атрымліваецца: ты слухаеш урывак з прозы і пасля ловіш сябе на думцы: "А што ж я пачула?" — настолькі сэнс згубіўся за музыкай слоў. А ўвогуле французы імкнуцца да прастаты.

**— А вы як мяркуеце, што больш важна: музыка ці сэнс Слова?**

— Я па прафесіі ўрач, у мяне няма літаратурнай адукацыі. Але я ўпэўнена, што галоўнае — данесці тое, што хочаш сказаць, да чытача, але пры тым пажадана, каб мова твая была і зразумелая, і прыгожая. А нейкі занадта разумны стыль прыдатны хіба што для вельмі адукаваных людзей. Прынамсі, калі я цяпер працую над казкамі, імкнуся, каб кожная фраза была працягам папярэдняй, каб мова лілася, як песня.

**— Як пісьменніку знайсці свайго чытача? У Парыжы, у Маскве, у Мінску…**

— Вельмі шмат залежыць ад рэкламы, ад рэдактара.

**— Не ад аўтара?**

— Гэта маё ўласнае меркаванне, але я лічу, што пісаць кнігі і прадаваць іх — зусім розныя прафесіі! Кожны павінен займацца тым, што ў яго лепш атрымліваецца, а не губляць час. Тут можна раўняцца на Амерыку, дзе ў кожнага пісьменніка ёсць свой літаратурны агент. У выніку выйграюць усе! А не так, як у Францыі, дзе ты заходзіш у кнігарню — на першым паверсе ляжыць 20 кніг вядомых аўтараў ці вядомых выдавецтваў, на другім паверсе — тое ж самае! І ў іншых кніжных крамах — тая ж карціна!

**— "Раскручваюць" ужо вядомых? А як жа падтрымка маладых?**

— Яны лічаць, што калі ў цябе няма "акна"-выдавецтва, то і цябе няма. Але гэта не значыць, што не варта спрабаваць: шанц ёсць заўжды! Цябе могуць заўважыць у нейкай тэлепраграме, на пісьменніцкай канферэнцыі, а бывае, што пасля радыёперадачы з тваім удзелам купляюць да сарака тысяч асобнікаў тваёй кнігі!

# Загадка русской философии

Денис МАРТИНОВИЧ

**Существует распространённое мнение о том, что философия является продуктом исключительно западноевропейской цивилизации. Знакомим читателей “Кніжнага свету” с произведениями русских мыслителей и философов, изданными при участии ООО “Харвест”, которые разрушают этот стереотип.**

### Во время золотого и серебряного веков

Период XIX — начала XX столетия, несомненно, можно считать для России уникальным. За короткий промежуток времени русская культура пережила необычайный подъём, который нашёл своё отражение в литературе, живописи, скульптуре, театре и дал повод выделять периоды золотого и серебряного веков.

Не осталась в стороне и философия, развитие которой происходило одновременно в нескольких направлениях: ортодоксально-монархическом, революционно-демократическом, либеральном, религиозном, в философии космизма и ряде других. По мнению знаменитого мыслителя Николая Лосского, все их объединяли общие черты: космизм, софиология (учения о Софии), соборность, метафизичность, религиозность, интуитивизм, позитивизм и реалистичность. Одним из ведущих направлений была религиозная философия, которая и стала темой нашего обзора. Заметим, что в советское время большинство рассматриваемых авторов было забыто. Отрадно, что теперь они возвращены читателю.

### Идеолог западнорусизма

Среди авторов, представленных в этом обзоре, **Михаил Коялович** стоит несколько в стороне. Он, хотя и прожил большую часть жизни в России, был уроженцем белорусской земли. Сборник “Шаги к обретению России” включает в себя лекции по истории Беларуси, России, Украины и Польши; статьи и письма о возникновении, развитии и деятельности православных братств, а также о значении Унии для религиозной деятельности славян; заметки о национальном вопросе в исторической судьбе восточнославянских народов. Как известно, Коялович был представителем западнорусизма и считал, что белорусы являются самобытной частью русского народа. Поэтому история Беларуси для него выступает частью истории России. Однако в качестве историографической базы работы сохраняют ценность до наших дней.




### Свет во тьме атеистического тоннеля

У нашего следующего героя, философа **Семёна Франка** также присутствует связь с Беларусью, правда, куда менее значительная. Его семья происходила из Виленской губернии и переселилась в Москву лишь после восстания 1863 года. Как и Бердяев, Франк увлекался марксизмом, но позднее разочаровался в нём. Его работы посвящены различным аспектам человеческого бытия в рамках религиозной концепции и анализа историко-культурного развития. Произведение **“Свет во тьме”**, давшее название книге, является одним из лучших исследований автора по социальной философии. “В нашей нынешней религиозной нищете нам не остаётся иного пути к спасительной истине христианской веры, как заново учиться ей…” — утверждает Франк и предлагает читателю своё осмысление исторического опыта человеческой цивилизации в духе христианской веры. Также в сборник включена работа “С нами Бог”, которая содержит глубокое и последовательное изложение основ христианства.




### Историк, философ, поэт

Парадокс, но личность **Льва Карсавина** известна не только любителям философии. Историк-медиевист (исследователь Средневековья), поэт, он также являлся родным братом великой балерины Тамары Карсавиной. В книгу автора **“Философия истории”** вошли его одноимённое произведение, а также труды “Проблемы религиозной философии” и “Человек в христианстве”. В “Философии” Лев Карсавин развивает свои идеи в отношении исторического бытия и человеческой цивилизации. Особо философ подчёркивает влияние природы на социальную жизнь, утверждает, что историческая наука должна иметь религиозный характер и быть православной. Церковь и государство должны быть соединены, однако необходимо определить границы их деятельности. Автор также уделяет большое внимание анализу характерных черт русского духа, особенностей религиозности и развитию православия на русской почве.

### Каждая дорога ведёт к храму

Творчество **Константина Леонтьева** приходится на вторую половину XIX века. Выпускник Московского университета, он провёл значительный отрезок жизни на дипломатической службе на Ближнем Востоке. Во время болезни, которую Леонтьев посчитал смертельной, он увидел икону Божьей Матери и дал обет, что в случае выздоровления примет монашество. Впоследствии монахи отговорили его от такого шага. Однако Леонтьев, и раньше являвшийся религиозным человеком, укрепился в вере, что обусловило поворот в его творчестве.




В сборник вошли религиозно-философские произведения Леонтьева **“Храм и церковь”**, давшее заголовок книге, “Византизм и славянство”, “О всемирной любви”, “Записки отшельника”, “Средний европеец как идеал и орудие всемирного разрушения”. Мыслитель скептически относился к европейской цивилизации, которую критиковал за абсолютизацию человека и секуляризацию культуры. Согласно его мнению, европейская мысль поклоняется не личности, достигшей особой степени развития, но просто индивидуальности всякой, и всякого человека желает сделать равноправным и счастливым. Леонтьев считал западный либерализм главной опасностью для России и других православных стран. В качестве выхода из ситуации он проповедовал “византизм”, который основывался на церковности, монархизме и сословной иерархии.

### Ещё один знаменитый Булгаков

При упоминании фамилии Булгаков у читателя скорее всего возникает ассоциация со знаменитым писателем, автором “Мастера и Маргариты”, “Белой гвардии”, “Собачьего сердца”. Впрочем, протоиерей **Сергий Булгаков** пользовался у современников не меньшим признанием. В сборник **“Православие: Очерки учения православной церкви”** включены труды этого известного философа, богослова, общественного деятеля, в которых он предлагает свой взгляд на особенности православного вероисповедания. В работе “Православие. Очерки учения православной церкви” мыслитель рассматривает вопрос о Софии — Божественной мудрости, — а также раскрывает значение церковных таинств в жизни верующего. В статье “Христианская мысль и общество” философ размышляет о религиозных идеалах русской интеллигенции. Сборник завершают автобиографические заметки (“Автобиографическое”), в которых автор рассказывает о собственном трудном и извилистом пути к православной вере и церкви.

### Русский экзистенциалист

**Николай Бердяев** справедливо считается одним из самых значительных русских философов. Между тем его жизнь вовсе не была простой. “Я пережил три войны, из которых две могут быть названы мировыми, — писал мыслитель, — две революции в России, малую и большую, пережил духовный ренессанс начала XX века, потом русский коммунизм, кризис мировой культуры, переворот в Германии, крах Франции и оккупацию её победителями, я пережил изгнание, и изгнанничество мое не кончено”. Бердяев начинал свое творчество как убеждённый марксист, но затем эволюционировал в сторону экзистенциализма.




В книге **“Дух и реальность: основы богочеловеческой духовности”** представлены произведения на религиозную тематику. По мнению составителей, Бердяев как подлинный христианский мыслитель “видел уникальность духа Православия в прошлом, настоящем и будущем, стремился к полноте истины и считал, что обрести эту полноту можно только в православной церкви. Он стремился к воцерковлению жизни, всего подлинного в ней, к тождеству христианства не с высшей Религией, а с высшей Жизнью”. Также в издании представлены произведения “Дух и реальность” и “Царство Духа и царство Кесаря” (последнее было завершено за две недели до смерти).

## Перекличка




Ольга ПОЛОМЦЕВА

*Как конквистадор*
*в панцире железном,*
*Я вышел в путь и весело иду,*
*То отдыхая радостно в саду,*
*То наклоняясь*
*к пропастям и безднам.*

(“Сонет”)

**“Лирика” Николая Гумилёва** — миниатюрное издание, на страницах которого причудливо перекликаются поэзия и изобразительное искусство. Неуловимая природа вдохновения, знакомая и поэтам, и художникам, подобно мозаике, даёт возможность читателю представить портрет эпохи, не строго выверенный документ, а лирический слепок, преломление в слове, на полотне, в скульптуре. Фрески, иконы, работы старинных мастеров и современников Николая Гумилёва, которые он, несомненно, знал и ценил, в сочетании с лирикой обретают новое прочтение. Рельефно и образно звучит рядом с “Небесным боем” Н. Рериха гумилёвское “На море”, а “Портрет неизвестной в розовом платье” кисти Ф. Рокотова вполне мог стать отправной точкой для этих строк.

*От звёзд слетает тишина,*
*Блестит луна — твоё запястье,*
*И мне во сне опять дана*
*Обетованная страна —*
*Давно оплаканное счастье.*

(“Вечер”)

В начале XX века написан “Мартовский снег” И. Грабаря, “Плотина” С. Жуковского, “Супрематизм” А. Родченко, “Композиция № 218” В. Кандинского — и строки Гумилёва, в которых “луг и запах мёда смешался с запахом болот”, и зловеща “ночных видений тетрадь”, и “На полярных морях и на южных, / По изгибам зеленых зыбей, / Меж базальтовых скал и жемчужных / Шелестят паруса кораблей”.

Благодаря страницам этой книги можно окунуться в атмосферу смены XIX века двадцатым и ощутить, как “под скальпелем природы и искусства / Кричит наш дух, изнемогает плоть, / Рождая орган для шестого чувства”.

Літаратура і мастацтва № 44 4 лістапада 2011 г.

# Асацыяцыі энцыклапедыстаў — быць!

**У Мінску адбылася міжнародная сустрэча выдаўцоў энцыклапедычнай літаратуры. Ініцыятарамі яе выступілі супрацоўнікі выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”. Калегі з Украіны, Малдовы і Беларусі распавялі пра сітуацыю на кнігавыдавецкім рынку ў іх краінах, падзяліліся асабістымі поспехамі, абмеркавалі праблемы і абмяняліся карысным вопытам.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА



Фота Кастуся Дробава

Сустрэча праходзіла ў кнігарні “Прэзентацыя” за кубачкам кавы амаль што ў неафіцыйнай абстаноўцы. Аднак пытанні, якія разглядаліся падчас яе, насілі выключна дзелавы характар. Суразмоўцы пачалі з таго, што прадставілі лепшыя свае выданні. Адразу ж прыцягнулі ўвагу ўкраінскіх і малдаўскіх гасцей багата ілюстраваныя кнігі БелЭн з паспяхова распачатай серыі “Энцыклапедыя рарытэтаў”: “Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стагоддзяў”, “Дзмітрый Струкаў. Альбом малюнкаў 1864 — 1867 гадоў”, “Жывая вера — Ветка”. Цікава было ім даведацца пра высокую ўзнагароду беларускіх энцыклапедыстаў — Прэмію Прэзідэнта Беларусі “За духоўнае адраджэнне”, атрыманую за выданне “радзівілаўскага” альбома і фаліянта “Зямля сілы. Белавежская пушча”. Усе пагадзіліся, што гэткія выданні ствараюць імідж краіны і найлепшым чынам прадстаўляюць яе замежнаму чытачу. Высокія адзнакі прагучалі і ў адрас такіх фундаментальных прац беларускіх энцыклапедыстаў, як чатырохтомнік “Вялікае Княства Літоўскае”, “Энцыклапедыя гісторыі Беларусі”, васямнаццацітомная “Ўніверсалка”.

— Між іншым, калі вы збіраецеся яе перавыдаваць? — спытаўся дырэктар Інстытута энцыклапедычных доследаў АН Малдовы Канстанцін Маналаке. — Такая каштоўная праца не павінна ператварацца ў нешта выдадзенае аднойчы і з цягам часу аселае на бібліятэчных паліцах. Універсальныя энцыклапедыі мусяць рэагаваць на палітычныя і грамадскія змяненні і час ад часу перавыдавацца.

Канстанцін Міхайлавіч прыгадаў, якой карыснай аказалася для нашых калег у Малдове васямнаццацітомная “Беларуская энцыклапедыя”:

— Прыкладам для стварэння нашага інстытута тры гады таму, — сказаў ён, — быў Інстытут энцыклапедычных доследаў НАН Украіны, і ўкраінскія калегі шмат дапамаглі ў нашым станаўленні. І яшчэ нам пашчасціла набыць у 2009 годзе ўсе тамы “Беларускай Энцыклапедыі”. Аналізуючы падыход беларускіх навукоўцаў да стварэння такога выдання, трымаючы ў руках ужо гатовую салідную работу, мы змаглі адказаць сабе на шэраг пытанняў пра тое, як рабіць універсальную Энцыклапедыю Малдовы. І сёння наша галоўная задача — падрыхтаваць і выпусціць яе. Мы плануем дзесяцітомнік.

Дырэктар Інстытута энцыклапедычных доследаў НАН Украіны Мікалай Жалязняк прадставіў калегам першыя тамы ўнікальнага выдання “Энцыклапедыі Сучаснай Украіны”. Гэтая праца стала своеасаблівай візітоўкай Інстытута. Сам жа ён быў створаны ў 2004 годзе Пастановай Прэзідэнта Акадэміі навук Украіны шляхам зліцця Каардынацыйнага бюро Энцыклапедыі Сучаснай Украіны НАН Украіны і Украінскага міжнароднага камітэта па пытаннях навукі і культуры. “Энцыклапедыя Сучаснай Украіны” плануецца як дваццаціпяцітомнае выданне. Першы том яе быў выдадзены ў 2001 годзе. Асноўнай ідэяй было стварэнне энцыклапедыі, у якой падзеі і асобы XX стагоддзя былі б прадстаўлены як мага больш поўна, падрабязна і аб'ектыўна.

Адказваючы на пытанне, колькі часу займае падрыхтоўка аднаго такога тома, Мікалай Рыгоравіч адзначыў, што, безумоўна, работа патрабуе значных намаганняў. Хаця стваральнікі энцыклапедыі пастаянна задаюць сабе пытанне: калі ж, урэшце, з'явіцца апошні том?

— Хочацца пабачыць працу завершанай, але спяшацца нельга. Энцыклапедыя — гэта “кніга кніг”. Яна павінна быць скрупулёзна выверaная, навукова бездакорная і варта афармленая.

Украінскі калега паскардзіўся, што ў апошні час імідж энцыклапедычнага выдання знікае. Выпусціць нейкі даведнік і надаць яму статус энцыклапедыі сёння ва Украіне можа хто заўгодна. Прычым выданні такія, бывае, і наогул не адпавядаюць патрабаванням, якія павінны прад'яўляцца да энцыклапедычных: утрымліваюць мноства фактaлагічных недакладнасцей, ужо не кажучы пра стыль напісання артыкулаў.

Калегі-энцыклапедысты ў размове закранулі і такое надзённае пытанне, як падрыхтоўка новых спецыялістаў.

— Безумоўна, кандыдаты навук не стаяць у чарзе, каб стаць рэдактарамі нашых выданняў, — выказаўся Канстанцін Маналаке. — Але ж і наяўнасць навуковай ступені, і філалагічная, і журналісцкая адукацыя яшчэ не сведчаць пра тое, што чалавек зможа паспяхова рэдагаваць энцыклапедычныя артыкулы. Рэдактарскае мысленне — мысленне спецыфічнае. Рэдактарам трэба нарадзіцца. Кожны год да нас прыходзяць на практыку па пяць маладых журналістаў. А замацаваўся пакуль толькі адзін.

— У Кіеўскім політэхнічным інстытуце ёсць факультэт, на якім вучаць выдавецкай справе, — распавёў Мікалай Жалязняк. — Таксама адпаведных спецыялістаў рыхтуюць у Нацыянальным універсітэце імя Т. Шаўчэнкі. Але на практыцы атрымліваецца, што тэарэтычных ведаў для працы выпускнікам не хапае. Каб стаць рэдактарам, трэба доўга рыхтавацца. І некаторыя, нягледзячы на адукацыю, ніколі не змогуць набыць у гэтай справе належны ўзровень.

Пра скрупулёзны падбор кадраў, пераемнасць пакаленняў, шліфоўку навыкаў распавялі і беларускія энцыклапедысты. Імі ж была ўзнята і новая тэма для абмеркавання — тэма электронных энцыклапедый.

— Сёння многія кажуць, што, магчыма, за электроннымі энцыклапедыямі будучыня, — сказала галоўны рэдактар выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” Ларыса Языковіч. — І мы не жадаем выглядаць несучаснымі. Маем свой сайт, звярталіся ў парк высокіх тэхналогій з тым, што мы хацелі б мець электронны варыянт нашых выданняў. Усё гэта магчыма, аднак нам не хацелася б проста так выкладваць інфармацыю для кожнага, хто толькі пажадае скарыстацца ёю. Усё ж нас як выдаўцоў трывожыць пытанне рэалізацыі нашых кніг. А наяўнасць бясплатнага электроннага дубліката перашкодзіць іх продажу.

Суразмоўцы сышліся на тым, што электронныя версіі энцыклапедый павінны быць. Але карыстанне імі трэба зрабіць платнай паслугай. І жо калі гэтак, то дасканальна распрацаваць пошукавую сістэму, прадумаць аўдыё- і відэасуправаджэнне артыкулаў, больш багата іх ілюстраваць.

Адзначыўшы, што і праблемы, і мэты ў энцыклапедыстаў, у прынцыпе, аднолькавыя, напрыканцы сустрэчы вырашылі, што карысным для ўсіх было б стварыць нешта накшталт Асацыяцыі выдаўцоў энцыклапедычнай літаратуры розных краін, каб дапамагаць адзін аднаму інфармацыйна, падрыхтоўваць сумесныя праекты, дзяліцца вопытам і разам змагацца за прэстыж і аўтарытэт сапраўдных энцыклапедычных выданняў. Як аказалася, рыхтуючыся да сустрэчы, кожны з суразмоўцаў у той ці іншай ступені планаваў заклікаць калег да партнёрства. А супрацоўнікі выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” нават склалі праект статута будучай асацыяцыі. Ён быў раздадзены гасцям, каб яны выказалі свае меркаванні і, можа, унеслі карэктывы. Уступіць у асацыяцыю беларускія калегі прапануюць прадстаўнікам усіх краін СНД. Але не выключана, што праектам зацікавяцца энцыклапедысты краін Балтыі і нават далёкага замежжа.

***На здымку: удзельнікі міжнароднай сустрэчы выдаўцоў энцыклапедычнай літаратуры абмяркоўваюць неабходнасць аб'яднання ў асацыяцыю.***

## Юбілеі

Ірына АЛЯКСАНДРАВА

# Той, хто размаўляў з Богам

**Дні памяці паэта Веніяміна Блажэннага прайшлі ў Мінску. У праграму іх былі ўключаны Міжнародныя навукова-літаратурныя чытанні на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, прэзентацыя дакументальнага фільма “Пра мудрасць, сум і радасць” у Палацы мастацтваў, прэзентацыя кнігі паэта “Верлібры” ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна.**

Ён быў дзіўным да немагчымасці, сумным і самотным, як Біблейскі прарок. Сапраўды хворым душэўна. Але хвароба гэтая аказалася нібыта яго асабістай справай. Яна не датычыла яго паэзіі, не накладала на яе цень, не адчувалася ні ў адным радку. Можа, паэт быў адным з сучасных юродзівых, гэтых пакутнікаў за ўсё чалавецтва? Ён востра адчуваў боль любой жывой істоты. І ў сваіх размовах з Богам — пасродкам вершаў — маліў пра літасць да людзей і жывёл, да раслін і камення, да ўсяго, створанага Усявышнім. Ён нарадзіўся 90 гадоў таму, чалавек не ад свету гэтага, рускамоўны яўрэй Веніямін Міхайлавіч Айзенштат — Веніямін Блажэнны, якому было наканавана стаць адным з самых яркіх паэтаў Беларусі. Ён пражыў семдзесят восем гадоў — вуліцы Мінска запомнілі яго крокі. І стаў адной з легенд Мінска — непрызнаны геній з невыдадзенымі кнігамі, вершы якога тым не менш “хадзілі па руках” і завучваліся на памяць не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі.

Ці зрабіў ён вершамі сваімі нас дабрэйшымі, а свет, што нас акаляе, — чысцейшым? Ці мае сэнс наогул такое “гарэнне”, у якое добраахвотна ператвараў ён жыццё сваё? Спасцігнуць феномен жыцця і творчасці паэта паспрабавалі ўдзельнікі Міжнародных навукова-літаратурных чытанняў, прысвечаных 90-годдзю Веніяміна Блажэннага.

Чытанні гэтыя пачаліся нестандартна — дэкламацыяй вершаў у двары дома на вуліцы Караля, дзе калісьці жыў “Расіі другі Авакум” са сваёй вернай спадарожніцай жыцця, франтавічкай Клаўдзіяй Цімафееўнай.

Хаця чытанні былі заяўлены як міжнародныя, іх можна было б ініцыяваць хутчэй як беларуска-расійскія. Дакладчыкі былі пераважна з Масквы і Мінска: Д. Строцаў, Л. Турбіна, Т. Алешка, У. Верына, С. Яфімава, А. Аляксандрава, В. Рудая… Ды гэта і нядзіўна: Мінск быў горадам прароцтваў і маленняў Веніяміна Блажэннага, Масква стала горадам прызнання яго таленту. Пра што ж разважалі ўдзельнікі канферэнцыі? Пра паэтычных папярэднікаў Веніяміна Блажэннага і пра роднасць яго з вялікімі паэтамі “срэбранага стагоддзя”. Пра матывы багаборніцтва і богапакінутасці, вітальнае і сакральнае ў яго творчасці. Пра загадкавую прадказальнасць паэзіі Блажэннага і яго жыццёвы крыж. А тыя, хто ведаў паэта пры жыцці, дзяліліся сваімі ўспамінамі і ўражаннямі пра сустрэчы з геніем.

На наступны дзень на філалагічным факультэце БДУ адбылася дэманстрацыя дакументальнага фільма “Блажэнны Веніямін” мінскага рэжысёра С. Галавецкага і прэзентацыя альманаха “Монолог” — выдання, якое займалася і працягвае займацца папулярызацыяй творчасці паэта.

Чацвёрты дзень распачаўся ўскладаннем кветак да магілы Веніяміна Блажэннага на Усходніх могілках. Пасля адбылося мерапрыемства ў Палацы мастацтваў. І зноў — гучалі вершы Блажэннага і ўспаміны пра яго, дэманстраваўся 37-хвілінны фільм Д. Строцава і І. Палевікова “Пра мудрасць, сум і радасць”, галоўным героем якога стаў Веніямін Міхайлавіч.

Завяршыліся Дні памяці Веніяміна Блажэннага сустрэчай у Пушкінскай бібліятэцы, дзе кожны жадаючы змог набыць кнігу вершаў паэта “Верлібры”, выпушчаную якраз да яго 90-годдзя мінскім выдавецтвам “Новые мехи”, паслухаць выступленні мінскіх паэтаў, паприсутнічаць на “круглым стале”, у якім узялі ўдзел навукоўцы, літаратары і тыя, хто асабіста ведаў паэтычнага генія Веніяміна.



Браніслаў Зубкоўскі

**Як вядома, у найпрыгажэйшых мясцінах Пухавіччыны — Тальцы, Загібельцы, Вусці, Беразянцы і на Балачанцы — любіў адпачываць і пісаць свае творы народны пясняр Беларусі Якуб Колас. У навакольных вёсках да сённяшняга дня жывуць людзі, якія сустракаліся з паэтам, размаўлялі з ім, а то і фатаграфаваліся на ўспамін. Мясцовы краязнаўца і пісьменнік Браніслаў Зубкоўскі захапіўся гэтай тэмай, калі працаваў дырэктарам Светлагорскай сярэдняй школы. У выніку з'явілася цудоўная кніга пра Якуба Коласа "Чаму Загібелька лепш Парыжа..." Трэба сказаць, кніга пра Коласаўскія мясціны на Пухавіччыне займела шчаслівы працяг. Не спыняючы пошуку новых і цікавых фактаў з жыцця і дзейнасці народнага песняра, Браніслаў Зубкоўскі не так даўно закончыў рукапіс кнігі пад назвай "Гуканне птушак у Балачанцы", у якую увайшло 27 апавяданняў пра Якуба Коласа, адрасаваных дзецям. Прапануем некалькі твораў з гэтай кнігі.**

# Дзе зімуюць грамы?..

## Сакрэты без сакрэтаў

У возеры, што каля Загібелькі, зімуюць грамы. У маі грамы прачынаюцца пасля спячкі і пачынаюць таўчы адзін другога пад бакі. Міколка Бранавіцкі перакананы, што менавіта тады ўспеньваецца ў возеры вада, а рыба ад страху разлятаецца, куды вочы глядзяць, прыпірку шукае.

— Дык няма, кажаш, сэнсу ісці на рыбалку на Грымячае, калі ляшчы ў гэты час не ловяцца? — кажа дзядзька Якуб.

— Не ловяцца, — уздыхае Міколка. — Лепш ужо на Тальку. Там печкуроў процьма.

— І ўсё ж паспрабаваць можна. Грамы, магчыма, спяць яшчэ, і нам пашанцуе, — прапанаваў пайсці на возера дзядзька Колас. — Адным словам, збірайся. А то адзін і ў кашы, як кажуць, не спорны.

Ідучы на возера, госць спытаў:

— А ты, Міколка, не прыкмячаў, растуць на возеры жоўтыя касачы?..

Што мог адказаць на гэта пытанне Міколка? Не памятае, не прыглядаўся. Можа, і растуць. Якая, урэшце, розніца, ёсць яны там альбо няма іх. Дзядзька Колас на беразе возера разматаў вудачку насупраць жоўтага касача. Міколка ж сваю закінуў каля трох зялёных гарлачыкаў. Гэту мясціну ён яшчэ летась аблюбаваў.

У дзядзькі Якуба добра клёў пайшоў. Ужо трох падлешчыкаў падсек ён. А ў Міколкі паплавок на вадзе не зварухнецца нават.

— Язёк, язёк, — прыгаворвае хлопчык, — на беразе цябе чакае князёк. Не царэвіч ён, не пан, а вясёлы мальчуган.

Не ловіцца ўсё роўна рыба, хоць плач.

— Там у цябе пад гарлачыкам грамы зімуюць, — жартуе дзядзька Колас. — Давай, — прапануе ён, — месцамі памяняемся. — Я на тваё — ты на маё.

Цяпер у госця не стала клёву. У Міколкі добра ловіцца рыба. "Нейкі сакрэт дзядзька Колас ведае. Не так сабе ён пра жоўтыя гарлачыкі распытваў", — падумаў так Міколка і выцягнуў з вады язя.

— Сакрэту тут няма, — быццам прачытаў думкі хлапчука Канстанцін Міхайлавіч. — Касачы на возеры зацвілі. Рыба і збіраецца каля жоўтых ліхтарыкаў.

Перавёў Міколка позірк на азёрныя гарлачыкі. Самотныя яны, невясёлыя. У якой жа рыбы з'явіцца настрой адпачываць пад такім парасонам? Мусіць, праўду дзядзька Колас кажа. "Прыгожая кветка вабіць да сябе", — разважае Міколка.

— У чэрвені зацвітуць твае гарлачыкі, — супакоіў дзядзька Якуб хлапчука. — Пад шацёр рыба і збярэцца ўся.

Шчаслівыя рыбакі вярталіся дадому праз хвойнік апоўдні. Ішлі, ішлі і натрапілі ў ляску на майскія ландышы. Дзядзька Колас сарваў кветку і лёгенька страсянуў над вухам Міколкі. Белыя званкі ціха зазвінелі. А можа гэта Міколку падалося?

— Давай некалькі каліў сарвём, букецік складзём, маме падорыш, — прапанаваў Канстанцін Міхайлавіч.

Так і прыйшлі дадому. Мама чакала рыбакоў, з уловам павіншавала.

— Дык можа, якая работка для нас знойдзецца, — спытаў Колас. Свярбелі рукі ў госця па працы. Міколкава мама перасмыкнула плячыма: здаецца, пільнай патрэбы няма ні ў чым.

— То калі вы не супраць, Вольга Сцяпанаўна, — сказаў Канстанцін Міхайлавіч,— мы з Міколкам лавачку зробім. А то ліпцы сумнавата адной пад вакном.

— Спору вам у працы, — сказала мужчынкам Міколкава мама, а сама ўзялася чысціць рыбу.

Міколка тым часам прыцягнуў з пуні дошку, а дзядзька Колас схадзіў на дрыботнік і прынёс адтуль два бярозавыя чурбаны. І закіпела работка, люба-дорага глянуць. Дзядзька Якуб ямкі капае, Міколка чурбачкі ставіць "на папа", каменьчыкі падкідвае, прытоптвае зямлю. Каб чурбачкі стаялі трывала — трэба добра папрацаваць.

Паклалі дошку на чурбачкі, прымерку зрабілі.

— Нясі малаток, — кажа дзядзька Колас. — Будзеш цвік забіваць.

Твар Міколкі аж свяціўся ад радасці. Што там ні кажы, а вялікі гонар быць першым у патрэбнай справе.

Лясь-лясь хлопчык па плешцы цвіка, а той нават і не думае слухацца малатка. Дзядзька Колас паспрабаваў. І ў яго нічога не атрымліваецца. Гнецца ўпарты цвік, не загнаць яго ў дошку аніяк.

— Перавернем дошку давай, — параіў дзядзька Колас.

Перавярнулі і здзівіліся. Глядзяць на іх чорныя вочкі.

— Бачыш, — паказаў дзядзька Колас на два чорныя вочкі, — наш цвік на сук трапіў. Не заўважылі мы яго адразу.

Але выйсце знайшлі, давялося тое-сёе, праўда, і памяняць. Адзін чурбанчык перанеслі бліжэй да першага, край дошкі падкарацілі. Тут мужчынкам піла ахвотна дапамагла.

— Без паслуг гэтай памочніцы — што без рук, — заўважыў дзядзька Якуб.

Міколка зноў за малаток узяўся. Трэба ж давесці справу да канца. Як забіваў цвік, дык з плешкі іскрынка зляцела. Маленькая такая і вясёлая.

— Салют табе, — смяецца дзядзька Колас. — Па працы і пашана, бачыш.

Сцяміўся Міколка, прысеў на край лавачкі.

— Усё цяпер. Канец — справе вянец.

Дзядзька Колас паглядзеў на Міколку:

— Што ў нашых руках не пабывала сёння толькі? Успомні.

— Цвікі былі, піла, рыдлёўка, малаток, — закруціўся на лавачцы Міколка, баючыся што-небудзь не назваць з таго, з чым мелі справу. А як прыпомніў Міколка, дык і ўскочыў борздзенька з лавачкі, за штаніну нават рукой схапіўся ніжэй спіны.

— Колецца, мусіць, — паспагадаў дзядзька Колас, усміхаючыся.

— Кусаецца, — збянтэжыўся хлопчык. Зразумеў Міколка, што праца не скончана, што рана ён сеў адпачываць.

— Дык чаго нам не стае? — прыжмурыў адно вока дзядзька Колас.

— Гэблік трэба, — здагадаўся Міколка. — Я зараз прынясу.

Дзядзька Колас узяў у рукі гэблік, пакратаў пальцам лязо, апусціўся на правае калена на зямлю. І пайшла віцца стружка, у залатыя кольцы брацца.

— Вось і ўся, нарэшце, работка, — абвёў вачыма двор Міколка.

— Бадай што, — згадзіўся дзядзька Колас. — Стружкі толькі давай у кошык збяром, а затым жоўценькага пясочку яшчэ дамо сюды.

Вечарам вярнуўся з абходу тата Міколкі. Паселі ўсе на лавачку пад ліпкай. Тата, мама, дзядзька Колас і Міколка. Мама заспявала ціхенька песню пра гнядога коніка. Тата Міколкі з дзядзькам Коласам падхапілі. Міколка ўпершыню пачуў, як хораша і добра спявае яго мама. У слоіку, на падаконніку, стаялі падораныя маме лясныя кветкі. Акно было расчынена насцеж. Водар майскіх ландышаў запаланіў двор лесніčоўкі ў гэты цудоўны цёплы вечар.

## Гуканне птушак у Балачанцы

Была ў народнага пісьменніка любімая мясцінка, куды ён прыязджаў у любую пару года, гасцяваў у старшыні мясцовага калгаса Канстанціна Сцяпанавіча Дзяткі, працаваў у яго хаце над працягам заключнай часткі свайго твора "На ростанях". У дзень прыезду ў Балачанку пісьменніка, які меў патрэбу ў духоўных стасунках з сельскай глыбінкай, хата старшыні калгаса звідна напаўнялася звонкімі галасамі.

Гаспадыня Марыя Міхайлаўна, выдатная кулінарка, ставіла на стол тушаную гражанку з мясам у латушцы, падавала ў металічных кубках кісель з чарніц-галобніў. Іншы раз частавала гасцей блінамі з вінавай мукі, бульбай з манонікамі (салёнымі грыбамі), лянухай (страва з бульбы і свежай капусты, забеленая малаком), духмяным чаем з чомбарам, травяным адварам. Абсмакаваўшыся, балачанкаўская дзятва атрымлівала на дарожку з рук гаспадыні куханкі — здобныя піражкі з начынкай.

— Памажы вам Божа, — казала.

Дзеці любілі цёплы дом старшыні калгаса, партрэт якога ўпрыгожвае ў мінскім літаратурным музеі-мемарыяле Я. Коласа галерэю выдатных людзей, з якімі сябраваў класік.

Зіма-валачобніца паціху адступала. Праўда, з раніцы ціснуў марозік-маладзік, але пад абед падалі ўжо сакавіцкія капяжы. У падстрэшшы хат балачанцаў шчыравалі захмялелыя вераб'і. Хутка збягуцца раўчукі, апырснецца зялёнай бяроза. Яшчэ трохі — і сонца напоіць малачком коцікі вярбы. Якраз у пару звонкіх капяжоў і прыехаў у Балачанку Якуб Колас. Зайшоў у хату Дзяткі, прывітаўся.

— Прачуў я, што ў вас вясна тут з зімой сустракаецца. Вось і заехаў паглядзець, як зімка пазяхаць з уздыхам пачне, — пажартаваў. Прыезд Канстанціна Міхайлавіча гаспадар ухваліў.

— Заўтра Саракі, — сцепануў плячыма старшыня калгаса. — Свята. Добра было б і мясцовую дзятву спрычыніць да свята. Трэба для дзяцей нешта зрабіць карыснае.

— У нашых краях пра птушынае свята так кажуць: "Сорак саракоў усяляких птушак ляціць у двор", — сказала гаспадыня і працягвала: — Мука-траянка ў нас ёсць. Можна печыва зрабіць, — супакоіла.

— А што, калі спячы прысмакі ў выглядзе птушак, што вяртаюцца з выраю? — падаў ідэю Колас.

З раніцы наступнага дня Марыя Міхайлаўна раскатала цеста, выразала кружочкі ў выглядзе жаўрукоў, папраўляючы абрыс фігурак сцізорыкам. Процвіны справадзіла ў печ, каб запякалася цеста. Праз некаторы час пачастункі былі на стале, засланым чырвоным міткалём. Каля кожнай гарушкі пячэння ляжалі цукеркі, прывезеныя Коласам з Мінска.

Пад абед з'явілася ў хату запрошаная загадзя талака дзятвы. Канстанцін Міхайлавіч сядзеў побач з гаспадаром, хваліў печыва гаспадыні.

— Частуйцеся, дзеткі, не збыткуйце, — запрасіла Марыя Міхайлаўна.

Узняўся гаспадар хаты:

— Адыходзіць зіма, самы час нам паклікаць плісак у госці. Ёсць для іх у нас і квас. А для шпачка знойдзем клёцкі і салачка, — адчыніў фортку акна старшыня калгаса. Колас таксама падахвоціўся, пагукаў:

— Ляціце, птушкі, усе да нас. Тут і пячэнне, і гарбата, трункаў розных шмат, багата. Ёсць і сырніца ў нас, смакуткі розныя і квас.

Голасна, гамонам паўтарыла дзятва зварот Коласа. Тым часам Канстанцін Міхайлавіч ужо расказваў пра лебедзяў, якія ратавалі брата і сястру ад Бабы-Ягі.

— А я вам пра чаплю раскажу, — прысела нарэшце Марыя Міхайлаўна на лаўку да гасцей.

— Жылі сабе на канцах балота жораў і чапля. Высокая, прыгожая, зграбная, адным словам, была гэткая валіваха. Стала сумна жыць жораву, уздумаў ён у сваты ісці да чаплі.

Чаплю дзеці дружна асудзілі. Ад варот паварот жораву дала валіваха з доўгай шыяй. Без падарунка да яе, бачыш, з'явіўся гракаваты жораў. "У сваты з пустымі рукамі не ходзяць", — адрэзала суседу.

— А ў нас у двары журавель ёсць, — пахвалілася дзевяцігадовая Анька Жук. — З выцягнутай шыяй.

— Здзівіла, — пакруціў носам Алесь Жаўнерчык. — Студню з вочапам жураўлём называе, — зморшчыўся чацвёртакласнік.

Заступіўся за дзяўчынку Якуб Колас, падхваліў нязмушана:

— А вось маці Анькі мне расказвала ўвосень, як я мінулы раз прыязджаў, што Анька маністы кляновыя сабрала, каб хлеб пячы. Добрую справу зрабіла.

— Так, так, лістаноша ў нас ёсць, — падаў голас старшыня калгаса.

— А я тату дапамог мянташыць касу, — вымкнуўся Алесь Корань.

— Паштарка-лістаносец у нас ёсць, — загнуў палец на руцэ Якуб Колас. — Маецца і касец, — загнуў другі палец.

— А наша кошка застраміла лапку. Дык я стрэмку, тую скапку сама дастала, — сказала Верачка Тумашык.

— Вось вам і дохтарка, — загнуў наступны палец Канстанцін Міхайлавіч. — Будзе каму птушак і хатніх жывёлін лячыць. Зможаш? — падбадзёрыў дзяўчынку.

— Пастараюся, — паабяцала Верачка і зачырванелася з прычыны вялікай увагі да сваёй персоны.

— А вось мой тата кажа, што ёсць птушкі, якія не лятаюць, — сказаў Алесь Корань.

— Ёсць, — згадзіўся Канстанцін Міхайлавіч. — З далёкай Афрыкі пехам шыбуе да нас праз Еўропу драч. Ён узлятае толькі тады, калі трэба пераадолець водную прастору.

— А вось чаплі, сарокі, чыркі імчаць да нас шарэнгамі, совы, качкі, гусі ляцяць ноччу, — нагадаў Канстанцін Сцяпанавіч Дзятка. Гаспадыня падала ў кубках гарбату.

Адпіўшы глыток, Якуб Колас пацікавіўся:

— А ці бачыў хто з вас жар-птушку? Прызнавайцеся.

Нібы на ўроку, узняў руку Антон Ліпніцкі.

— У нашых краях яна не водзіцца. Таму ніхто і не бачыў яе. Можа, і няма такой увогуле, — усумніўся хлопчык.

— Чаму ж няма, — не згадзіўся Канстанцін Міхайлавіч, вярнуўшы дзяцей у свет казкі Яршова, і па памяці прачытаў здзіўлены дзятве ўрывак з твора.

— А праўда, што людзі пісалі даўней пісьмы гусінымі пёрамі? — парушыў цішыню Алесь Жаўнерчык.

— І не толькі пісьмы. Усе казкі Пушкіна пра Балду, пра царэвіча Гвідона напісаны гусінымі пёрамі, — растлумачыў Канстанцін Міхайлавіч.

Нечаканa ўзніклі спрэчкі: хто першы з выраю прылятае да нас.

— Шпак, — цвёрда сказаў Антон.

— Жаўрук, — пераконвала Верачка.

— Ластаўка, — сцвярджаў Алесь.

— А вось і памыляецеся, — усміхнуўся Канстанцін Сцяпанавіч Дзятка. — Першы госць — грак.

Загаварылі і пра шпака. Аказваецца, шпак — сапраўдны артыст. Можа падрабляць галасы галак, ластавак, сарок, нават вераб'я.

— Давайце, аднак, паразважаем, — прапанаваў Дзятка, — да каго першага завітае каралеўскі птах на дворышча.

— Да... Алеся Жаўнерчыка, — запэўніла Аня. — Ён ужо домік зрабіў, на бярозу ўсцягнуў шпакоўню, — дадала дзяўчынка, забыўшы пра крыўду на Алеся. Колас пахваліў падлетка.

— Выпісваю табе білет, — працягнуў хлопчыку блакітны цэтлік. На першы канцэрт саліста.

— Між іншым, трэба, покуль гэты вяшчун вясны бавіць час у лесе, каб вы разам з бацькамі парабілі шпакоўніцы, — прапанаваў старшыня калгаса.

Шмат карыснага даведаліся ў гэты дзень дзеці пра птушак. Уведалі пра лясного санітара дзятла (спіць, аказваецца, у дупле вертыкальна, абапіраючыся на хвост, каб не зваліцца). І пра зборшчыкаў пуху пачулі аповед з вуснаў старшыні калгаса. Галкі, сарокі дзюбамі выбіраюць поўсць, уладкаваўшыся на спінах кароў, спорна нарыхтоўваюць варсінкі для гнёздаў сваіх.

Праз тыдзень пасля ад'езду Якуба Коласа ў Мінск амаль у кожным двары балачанцаў віселі на дрэвах шпакоўні.

Адкрыліся ў вёсцы і сталоўкі для птушак. У падвешаных да вецця дрэў дошчачках клалі дзеці развараныя камячкі бульбы, падсыпалі на днішча зярнятак. І святлелі з кожным днём у Балачанцы злёгку зацярушаныя далі, у якіх знік з вачэй, нібы растварыўся, веснай 1950 года легкавік Якуба Коласа.

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

# Паглядзім на свет шырока

**Заўтра ў сталіцы ўрачыста адкрыецца XVIII Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад". Да яго ўдзельнікаў, гасцей, гледачоў сёлета звернуты лозунг, які нібы заклікае шырока расплюшчыць вочы: мабыць, такім чынам арганізатары фэсту прапануюць прыхільнікам дзясятай музы адкрыта зірнуць на рэальнасць і вочы ў вочы сустрэцца з аўтарскім "я" стваральнікаў сучаснага экраннага свету.**




**Самы буйны** кінафорум краіны, заснаваны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам, Белтэлерадыёкампаніяй, Нацыянальнай кінастудыяй "Беларусьфільм", Белвідэацэнтрам, Беларускім саюзам кінематаграфістаў, інтрыгуе публіку не толькі конкурснымі паказамі, але і разнастайнай афішай пазаконкурсных імпрэз: праграмай лепшых сучасных фільмаў свету, сустрэчамі са здымачнымі групамі, майстар-класамі замежных знакамітасцей, паўгадзіннымі дыскусіямі пасля прагляду — з удзелам аўтараў стужак.

Дык чым будзе адметны "Лістапад-2011", які працягнецца да наступнай суботы?

Прыцягальная для публікі конкурсная праграма, як вядома, складаецца з фільмаў-удзельнікаў і прызёраў міжнародных кінафестываляў ды яркіх наватарскіх работ маладых аўтараў, якія заваявалі сусветнае прызнанне. Прагляды ігравых, дакументальных і дзіцячых фільмаў ладзіцца ў фармаце двух конкурсаў: асноўнага і конкурсу маладога кіно ("Маладосць на маршы"). Як паведаміў журналістам дырэктар праграмы ігравых фільмаў Ігар Сукманаў, фестывальныя паказы разлічаны на самых розных гледачоў — ад прафесійнікаў да аматараў, таму і праграма вызначаецца шматстайнасцю (тут і актуальныя інтэлектуальныя творы, і захапляльныя блокбастары, і вытанчаныя меладрамы, і камедыі). Яе ўкладальнікі імкнуліся прадставіць стужкі, якія не трапляюць у масавы пракат, але з якімі абавязкова трэба пазнаёміцца тым, хто цэніць добрае кіно — такое кіно, што здзіўляе, узрушвае ды яшчэ і прымушае думаць.

**У асноўным конкурсе** ігравых фільмаў прадстаўлена 11 работ: "Паляўнічы" Бакура Бакурадзэ (Расія), "Толькі між намі" Райка Грліча (Харватыя), "І не было лепшага брата" Мурада Ібрагімбекава (Азербайджан — Расія), "Чорны чацвер" Антоні Краўзе (Польшча), "Дзённікі з Пола" Крыса Краўса (Эстонія — Германія), "Erratum" Марэка Лехкі (Польшча), "Дом" Зузана Ліёва (Славакія — Чэхія), "Шапіто-шоу" Сяргея Лобана (Расія), "Маці" Мілча Манчэўскі (Македонія), "Красунчык" Каталін Мітулеску (Румынія), "Белы, белы свет" Алега Ноўкавіча (Сербія). Журы ўзначальвае вядомы ў кінасвеце рэжысёр, акцёр, сцэнарыст Актан Арым Кубат (Кыргызстан). А вось у дзень адкрыцця "Лістапада" ў Палацы Рэспублікі будзе дэманстравацца фільм Андрэя Звягінцава "Алена", міжнародная прэм'ера якога адбылася на 64-м Канскім кінафестывалі. Там стужку расійскага рэжысёра адзначылі спецыяльным прызам журы конкурснай праграмы "Асаблівы погляд".

**Фестывальныя кінапаказы** будуць ладзіцца пераважна ў "Цэнтральным", а таксама ў "Цэнтры-відэа", Доме кіно, Доме Масквы і ў "Піянеры". Дарэчы, у гэтым кінатэатры сёння стартуе XIII фестываль дзіцячых і юнацкіх фільмаў "Лістападзік", які на працягу тыдня прадставіць дзевяць стужак, адрасаваных гледачам ва ўзросце ад 6 да 13 гадоў. Гэта "Паляванне на скарбы Ганібала" (Германія), "Таямнічы ліст" (Нідэрланды), "Веспа" (Венгрыя), "Кока і прывіды" (Харватыя), "Апошняя гульня ў лялькі" (Расія), "Каробка для сняданку" (Індыя), "Рыжык у Залюстэрччы" (Беларусь), "Анёлы з усходняй ускраіны" (Нарвегія), "Нявеста чорта" (Чэхія). Сёлета падчас "Лістападзіка" вядомыя аніматары Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" правядуць майстар-клас для дзятвы, якой цікава зазірнуць у таямніцы стварэння "мульцікаў".

**Імёны кіназорак**, якія наведаюць нашу сталіцу ў гэтыя дні, арганізатары фестывалю стараліся трымаць у сакрэце ці не да яго адкрыцця, але...

Але хіба можна "схаваць" ад увішнай публікі, напрыклад, тое, што ўжо ў бліжэйшую нядзелю на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра адбудзецца музычна-паэтычная імпрэза "Дванаццаць месяцаў танга" з удзелам папулярных расійскіх артыстаў, дачкі ды бацькі, — Алікі ды Веніяміна Смехавых і "Tango Orquesta"! Маляўнічая і дынамічная праграма спалучае ў сабе знакамітыя мелодыі польскіх танга 1930-х, напісаныя да іх тэксты В. Смехава, паэзію "Серебряного века" і сучасны відэаарт... А які ажыятаж вакол французскага кінематаграфічнага спектакля, што праз тыдзень чакаецца ў Малой зале Палаца Рэспублікі! Гэта будзе кіно-канцэрт "Жорж Мельес", прысвечаны легендарнаму аўтару 520 фільмаў, створаных з 1896 па 1913 год, акцёрам, вынаходнікам візуальных эфектаў, прадзюсарам і кінапракатчыкам якіх стаў сам Жорж Мельес. Наша публіка апынулася перад складаным выбарам, бо ў той жа вечар, 11 лістапада, у сталічным Палацы спорту мае адбыцца паказ унікальнага польскага авангарднага шоу-перформансу "Планета Лем", прымеркаванага да юбілею знанага пісьменніка-фантаста і арганізаванага ў межах міжнароднай праграмы "I, CULTURE", якой Польшча адзначае сваё сёлетняе старшынства ў Еўрасаюзе.

**Празорца Станіслаў Лем** прадказаў стварэнне віртуальнай рэальнасці, штучнага інтэлекту, апісаў свет, які жыве паводле законаў новых тэхналогій. І прысвечаны яму спектакль уяўляе сабой высокатэхналагічную дзею, стваральнікі якой спадзяюцца, што яна ўразіць публіку розных узростаў не толькі сваімі спецэфектамі, але і жыццём герояў "Планеты Лем": людзей, гуманоідаў, робатаў, суперкамп'ютараў, якія існуюць побач і намагаюцца зразумець адно аднаго. Каб суіснаваць мірна... Як сугучна гэтая ідэя гуманістычнаму пафасу нашага "Лістапада"!

# Восень з Віктарам Туравым

Лана ІВАНОВА,
фота Аляксандра Дзмітрыева

**Дзесяць гадоў таму ў Магілёве, дзе нарадзіўся народны артыст БССР і СССР кінарэжысёр Віктар Тураў і дзе сёння ёсць вуліца яго імя, распачалася знакавая для самога горада і для культурнага досведу ўсёй краіны высакародная традыцыя: кінатыдзень "Тураўская восень". Штогадовая кастрычніцкая рэтраспектыва фільмаў шырока вядомага беларускага майстра экрана гэтым разам прысвячалася яго юбілею.**

Побач з яго прозвішчам даўно ўжо стаяць дзве даты: 1936 — 1996. Як жа мала, да крыўднага мала пражыў гэты чалавек! Калі б не лютая хвароба, Віктар Цімафеевіч сустракаў бы сваё 75-годдзе ў коле сяброў, родных, калег і вучняў, акрылены прызнаннем гледачоў і крытыкаў, захоплены і ўсхваляваны працай над новым фільмам...

Ён помніцца менавіта такім: заўсёды неспакойным і неабыякавым, адкрытым і зычлівым, праўдзівым і валявым чалавекам з яркім творчым тэмпераментам і выразнай грамадзянскай, патрыятычнай пазіцыяй. Такім успрымаецца Віктар Тураў і ў люстэрку сваіх мастакоўскіх памкненняў і ўвасобленых ідэй. Яго спадчына — дзясяткі фільмаў, у ліку якіх ёсць і знятыя паводле ўласных сцэнарыяў, і адзначаныя прызамі розных фестываляў. Выпускнік рэжысёрскага факультэта Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі В. Тураў здымаў на "Беларусьфільме" і дакументальныя стужкі, і сюжэты для кіначасопіса. А ў памяці гледачоў засталіся назвы яго мастацкіх фільмаў, якія цікава глядзець і сёння. "Я родам з дзяцінства" (В. Тураў не пабаяўся прапасіць на здымкі ў гэтай стужцы "апальнага" У. Высоцкага, даў дарогу на экран яго песням, а потым не толькі супрацоўнічаў з артыстам, а і пасябраваў з ім); "Сыны ідуць у бой" і "Вайна пад стрэхамі" (паводле А. Адамовіча); "Час яе сыноў"; "Жыццё і смерць двараніна Чартапханава" (паводле І. Тургенева); "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы" (паводле І. Мележа); "Нядзельная ноч"; "Высокая кроў"; "Пераправа"; "Чорны бусел"; "Шляхціц Завальня" (паводле Я. Баршчэўскага)... У 1994-м у сувязі са 100-годдзем кінематаграфіі ў свой час вельмі вядомая стужка "Праз могілкі" (паводле аповесці П. Ніліна) рашэннем ЮНЕСКА была ўнесена ў спіс 100 найбольш значных фільмаў свету пра Другую сусветную вайну. А гэта ж была не проста адна з ранніх работ В. Турава, а яго рэжысёрскі дэбют!



"Тураўская восень-2011" запомніцца магілёўчанам сустрэчай з творчымі спадзвіжнікамі Віктара Цімафеевіча, з яго таленавітымі дзецьмі Аленай і Арцёмам, тэматычнай юбілейнай выстаўкай у фае кінатэатра "Радзіма", на фасадзе якога восенню 2003-га была адкрыта мемарыяльная дошка. Ва ўрачыстай атмасферы кінатыдня адбылася і цырымонія памятнага спецыяльнага гашэння адкрытай паштоўкі з арыгінальнай маркай, прысвечанай 75-годдзю з дня нараджэння майстра.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Зноў у Мінску паказвалі рэканструяваныя спектаклі легендарнага Балета Сяргея Дзягілева. Працягваючы сёлетні гастрольны тур, пасля выступленняў у Марока, Францыі, Украіне, Латвіі, Вялікабрытаніі, Італіі, Кітаі, Японіі, ААЭ ды іншых краінах да нас завітаў сусветна вядомы праект "Рускія сезоны ХХІ стагоддзя". Гэтым разам беларускую публіку пазнаёмілі з узноўленымі пастаноўкамі "Тамар" ды "Балеро". У балетны вечар гасцей быў таксама ўключаны эксклюзіўны сольны нумар народнага артыста Расіі, лаўрэата найвышэйшай тэатральнай прэміі Санкт-Пецярбурга "Золотой софит", лаўрэата міжнародных конкурсаў Фаруха Рузіматава "Прысвячэнне Дзягілеву" ў харэаграфіі М. Бежара на музыку Г.Малера. Мастацкі кіраўнік праекта Андрыс Ліепа, ён жа — кіраўнік фонду імя Марыса Ліепы паведаміў журналістам, што ў сталіцы пасля мінскай сцэне мае адбыцца прэм'ера ўзноўленых пастановак "Шахеразада" і "Тамар" ужо з удзелам артыстаў ды аркестра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. У лютым 2012 г. наш госць плануе правесці ў Мінску свой творчы вечар. А яшчэ марыць паказаць спектаклі "Рускіх сезонаў ХХІ стагоддзя" ў іншых гарадах Беларусі.

Сталічны кінатэатр "Цэнтральны" гэтымі днямі прымаў ужо традыцыйны для Мінска Фестываль ізраільскага кіно, які завяршыўся ўчора паказам драмы "Зламаныя крылы" — пранізлівага фільма пра гісторыю адной сям'і, адзначанага Гран-пры на Міжнародным кінафестывалі ў Токіа ў 2002 г. Апроч яго мінская публіка пазнаёмілася з такімі новымі і лепшымі работамі ізраільскіх рэжысёраў, як драма "Сват" (паводле рамана ізраільскага пісьменніка А. Гутфройнда "Дзеля яе героі лятаюць" пра жыццё падлетка, які ўладкаваўся працаваць у шлюбнае агенцтва); захапляльная камедыя "Сальса Тэль-Авіў" (гісторыя кахання настаўніцы сальсы); лірычная меладрама "У пяці гадзінах ад Парыжа" (яе герої — таксіст і настаўніца музыкі) ды іншыя кінакарціны.

Акцыя "Гомель — культурная сталіца Беларусі і Садружнасці 2011 года" працягваецца ў Музеі гісторыі горада Гомеля. Гэтымі днямі тут можна пазнаёміцца з творчасцю сучаснага расійскага фатографа Аляксея Нікіціна (г. Калуга). Яго выставачны праект "Рассея", разгорнуты тут да 6 лістапада, — гэта спроба патлумачыць невытлумачальнае, ахапіць неабдымнае праз суб'ектыўны погляд фотамастака на сваю краіну. Асобным блокам дэманструецца калекцыя фотаапаратаў, якую А. Нікіцін падараваў Музею гісторыі горада Гомеля.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ,**
**сакратар праўлення Беларускага саюза кампазітараў, спецыяльны карэспандэнт Белтэлерадыёкампаніі**

# Крыніца з патэнцыялам ракі

**Надоўга запомняцца дзве сёлетнія фальклорныя вандроўкі. Першая была ў Харватыю на XXXII міжнародны фальклорны фестываль Еўрапейскага вяшчальнага саюза, дзе Беларусь зноў ярка і годна прадставіў ансамбль “Ветах” кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Другая — на Гомельскае Палессе, у часе якой творчая група Першага Нацыянальнага канала Беларускага радыё запісвала аўтэнтычных спевакоў Лельчыцкага раёна для праграмы “Галасы стагоддзяў”. Так атрымалася, што падарожжы гэтыя адбыліся адно за адным і міжволі выклікалі пытанне: які далейшы лёс беларускага традыцыйнага фальклору? Бо ён жа — бадай, як унікальная, выключная з’ява ў Еўропе XXI стагоддзя — існуе ў дзвюх формах: аўтэнтычнай і г. зв. другаснай. Ёсць носьбіты і ёсць пераемнікі. Як далей будуць развівацца іх “узаемаадносіны”? Ці не застанецца наш фальклор толькі аб’ектам кабінетных навуковых даследаванняў?**

XXI стагоддзе — час для традыцыйнай культуры надзвычай складаны. Праўду казаў мудры элін Геракліт: “У адну раку нельга ўвайсці двойчы”. Але ці назаўсёды “абмялела” пад уціскам глабалізацыі рака традыцыйнага мастацтва Беларусі? Ці не знойдуць сабе новае рэчышча ў лабірынтах урбанізму яе ўтваральныя крыніцы? Вельмі хочацца верыць — знойдуць.

Адчуванне “культурнага току” беларускай традыцыі і (выбачайце за пафас) гонару за сваю краіну не пакідала мяне кожны раз, калі даводзілася бачыць, як годна і дыхтоўна прадстаўлялі нашу нацыянальную культуру на міжнародным фестывальным форуме — фальклорным аналагу “Еўрабачання” — Фальклорным фестывалі Еўрапейскага вяшчальнага саюза (у Кёльне, Рудальштаце, у Харватыі) студэнты і маладыя выкладчыкі кафедры этналогіі і фальклору: спявачкі Таццяна Пладунова і Эвеліна Шчадрына, дудары Вячаслаў Калацэй і Вячаслаў Красулін, скрыпач Алесь Масібут, выканаўца на варгане і ўдарных інструментах Паўлюк Ляшок ды Маргарыта Касач, якая сціпла, але ўпэўнена грае на гуслях і заводзіць з хлопцамі беларускія танцы. Гэта заўсёды было “перфект”, і мае знаёмыя еўрапейскія музычныя журналісты са здзіўленнем, павагай і цікавасцю адкрывалі для сябе Беларусь праз мастацтва гэтых маладых і шчырых людзей. Пра шлях да традыцыі кожнага з іх можна казаць асобна, але бясспрэчна, што іх крокі з розных кропак Беларусі невыпадкова “ўкладзіся ў сцяжынку” фальклорнай спецыялізацыі БДУ культуры і мастацтваў.

Крыніца мастацтва вуснай традыцыі, якая спачатку квола, а потым усё мацней “забіла” ў навучальнай установе, даўно вядомай добрымі мастацкімі апрацоўкамі і стылізацыямі фальклору, сілкуецца ад моцных вытокаў — нематэрыяльнай культурнай спадчыны Беларусі. Невычэрпнай спадчыны, з якой на кафедры этналогіі і фальклору, створанай намаганнямі былога рэктара ўніверсітэта, прафесара Ядвігі Грыгаровіч, добра навучыліся працаваць колішнія студэнты, а цяпер — выкладчыкі і навукоўцы, унікальныя спецыялісты ў галіне практычнай фальклрыстыкі. Зберажэнне спадчыны традыцыйнай культуры — складаная фундаментальная задача, якая сёння вымагае аб’яднаных высілкаў людзей, якія працуюць “на скрыжаванні” фальклрыстыкі, мастацтвазнаўства, культуралогіі і сацыяльнай педагогікі. І досвед кафедры этналогіі і фальклору БДУ культуры і мастацтваў, якая паспяхова працуе ў гэтым кірунку, спалучае развіццё тэарэтычнай айчыннай фальк-



ларыстыкі і практычныя захады па ўкараненні яе распрацовак у жыццё. Фактычна, педагагічны калектыў кафедры і яе студэнты — сёння адзіныя спецыялісты ў краіне, якія сістэмна і канцэптуальна працуюць над пераймannем мастацтва вуснай традыцыі ў вышэйшай школе Беларусі. Іх вопыт асаблівы: ён грунтуецца на добра адпрацаванай і апрабаванай методыцы, якая пастаянна апрацоўваецца і ўдасканальваецца ў навукова-аналітычным плане.

За 9 гадоў існавання кафедры сіламі яе калектыву створана сістэма падрыхтоўкі спецыялістаў галіны музычнага мастацтва вуснай традыцыі (этнафоназнаўства); штогод праводзяцца міжнародныя навуковыя канферэнцыі па праблемах аўтэнтычнага фальклору; выконваюцца заданні дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы “Культура” і праект спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва; адладжана сістэма супрацоўніцтва з фестывалем “Берагіня” (яго правядзенне ўключанае ў “План мерапрыемстваў па ажыццяўленні Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь”), у выніку чаго атрымаў вышэйшую адукацыю шэраг маладых носьбітаў фальклору — самародкаў з беларускай глыбінкі; складзены кантэнт па апісаным Т. Кухаронак абрадзе “Калядныя Цары”, які забяспечыў прадстаўніцтва Беларусі ў Urgent Safeguarding List UNESCO — спісе нематэрыяльных культурных каштоўнасцей свету; арганізаваныя 5 маладзёжных фальклорных калектываў аўтэнтычнага кірунку — удзельнікаў 11 міжнародных фальклорных фестываляў у Германіі, Латвіі, Літве, Расіі, Францыі, Харватыі.

А характар дзейнасці кафедры вызначае склад выкладчыкаў і студэнтаў. З 1980-х і дагэтуль ва ўніверсітэце працуе доктар філасофскіх навук, прафесар Э. Дарашэвіч — сацыёлаг культуры, гісторык навукі і адзін з заснавальнікаў беларускай культуралогіі. Ён не толькі буйны, вядомы ў свеце навуковец, але і таленавіты педагог, які падрыхтаваў шэраг спецыялістаў для сацыякультурнай сферы Беларусі, у пэўнай ступені заклаў асновы стварэння ў вышэйшай школе Беларусі навукова-даследчага кірунку практычнай фальклрыстыкі. Яго вучні і аднадумцы: кандыдат культуралогіі, дацэнт В. Калацэй (у 2003 — 2009 гг. дэкан факультэта традыцыйнай беларускай культуры і сучаснага мастацтва, у 2010 — 2011 гг. загадчык кафедры этналогіі і фальклору); два былыя магістранты апошняга — Э. Шчадрына і Н. Петухова, якія ўжо сталі педагогамі кафедры і рыхтуюць да абароны кандыдацкія дысертацыі; старшыя выкладчыкі Т. Пладунова і Н. Матыліцкая — моцны “фальклорны прайм”, які ўпэўнена бароніць інтарэсы каранёвага народнага мастацтва ва ўніверсітэце. Выдатныя тэарэтыкі — бліскучы спецыяліст па этнічным касцюме дацэнт В. Лабачэўская і вядомы даследчык ментальнасці і мастацкага слова беларусаў прафесар А. Рагуля — дапаўняюць да самадастатковага ўсебакова накіраванага навуковага калектыву кафедральны штат. Калі ўлічыць, што са студэнтамі-фальклрыстамі шмат гадоў самаадданна працуюць такія людзі, як этнамузыколаг Т. Варфаламеева, этнахарэограф і рэжысёр міжнародных і рэспубліканскіх фальклорных фестываляў М. Козенка, этнограф А. Боганева, філолаг А. Гулак, навуковыя дасягненні кафедры (лідарства ва ўніверсітэце па аб’ёме навуковых публікацый за два гады, серыя высока ацэненых дыпломных праектаў і работ выпускнікоў, два выпускнікі-аспіранты Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі) — плён больш чым прадказальны.

Амаль 10-гадовы паспяховы вопыт кафедры, бясспрэчна, не мае аналагаў у вышэйшай школе Беларусі. Ён — істотны падмурак для фарміравання ў перспектыве ў БДУ культуры і мастацтваў (у рэчышчы ўжытковай, практычнай культуралогіі) своеадметнай навуковай школы “Тэорыя і гісторыя культуры: народная творчасць” на чале з Э. Дарашэвічам і В. Калацэем. Хоць утварэнне навуковай школы — рэч доўгатэрміновая і складаная, яна ўжо сёння (на стадыі фарміравання) паспяхова вырашае шэраг надзённых праблем практычнай культуралогіі, аховы нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Захаванне апошняй — адна з умоў сустрэчы Беларусі “на роўных” у еўрапейскай супольнасці, якая ўвесь час падкрэслівае гэтую акалічнасць праз свае прадстаўнічыя арганізацыі, у першую чаргу праз ЮНЕСКА. Таму навуковай школе практычнай фальклрыстыкі на кафедры этналогіі і фальклору — быць!

Гэта — спадзеў усіх даследчыкаў беларускага фальклору, якія звязваюць свае мары пра падаўжэнне яго веку з жывым бытаваннем народнай спадчыны, якое забяспечаць толькі спецыялісты-практыкі, чыя доля — не размовы і дыскусіі, а праца, праца і яшчэ раз праца. Праца па вызваленні ад штучнага і наноснага складнікаў — крыніц ракі нашай народнай спадчыны (высокага мастацтва палескіх паліфанічных спеваў, эпічнасці і містыкі падняпроўскіх карагодаў і арнаментаў, містэрыяльнасці падзвінскай “Жаніцьбы Цярэшкі”, спрадвечнага гуку лепельскай дуды), пад шэпт і звон якіх нараджаліся, бралі шлюб і сыходзілі да пагосту шматлікія пакаленні нашых продкаў. Тым, хто чуе шэпт і звон гэтых крыніц, хто працуе так, як самаадданы і паспяховы калектыў выкладчыкаў і студэнтаў кафедры этналогіі і фальклору, падуладнае вырашэнне многіх задач, у тым ліку і стварэнне ўмоў для вырашэння праблемы аховы і ўдасканалення каранёвай культуры і мастацтва нашай краіны як асновы культурнай бяспекі Беларусі як славянскай краіны. Давайце пажадаем разам, каб іх назапашаны патэнцыял стаўся сапраўды дасканалай, шматгадовай і ўплывовай рэалізацыяй — творчымі, педагагічнымі, навуковымі справамі на карысць народа і Радзімы.



***На здымках: сярод носьбітаў традыцыі абрада “Страла” (вёска Неглюбка Веткаўскага раёна), 2009; на свяце ў гонар Максіма Багдановіча (хутар Ракуцёўшчына), 2011.***

# Быў такі Артыст...

**Кіра ШУМСКАЯ**

З дня нараджэння таленавітага беларускага артыста Канстанціна Быліча мінула 105 год. У памяць пра яго ў “Гасцёўні У. Галубка” адкрылася выстаўка, дзе прадстаўленыя дакументальныя фатаграфіі, жывапісныя работы К. Быліча, афіша спектакля з яго удзелам.

У 1924 годзе 18-гадовым юнаком Канстанцін Быліч быў прыняты ў дзяржаўную трупу Уладзіслава Галубка як практыкант, а праз год афіцыйна стаў акцёрам знакамітага тэатра. Талент у пачаткоўца быў яркі, і ў 1935-м К. Былічу надалі званне заслужанага артыста БССР.

Калі глядзіш на фотаздымкі са спектакляў, у якіх іграў К. Быліч, здаецца, што сцэна была галоўным у яго жыцці. Гэта так, але не зусім… Нягледзячы на вялікую занятасць у тэатры, Канстанцін знаходзіў час і на выяўленчае мастацтва. Ад жартоўных замалёвак у карыкатурным стылі да сур’ёзных жывапісных работ — такі дыяпазон яго захаплення.

У тэатры таленавітаму акцёру давяралі вялікія ролі: Мастак, Паромшчык (“Пінская мадонна”, “Ганка” У. Галубка), камуніст Сцяпан Глоба (“Ярасць” Я. Яноўскага), батрак Ігнат Шворын (“У ліпнёвую ноч” Б. Гарчынскага), гадзінных спраў майстар Карфункель (“Гадзіншчык і курыца” І. Качаргі), Кастусь Каліноўскі (аднайменная п’еса Э. Самуйлёнка), Дон Жуан (“Каменны госць” А. Пушкіна). Талент Быліча як мастака спатрэбіўся ў тэатры: ён аформіў спектаклі “Кастусь Каліноўскі” (1928 г.), “Правакатар” М. Ірчана (1931 г.).

З 1937 года Быліч працаваў у БДТ-1. Іграў тут Ендрыхоўскага ў “Партызанах” К. Крапівы, Аляксандра ў “Дурной для іншых — разумнай для сябе” Лопэ дэ Вегі (1940 г.)... Адной з лепшых яго роляў стаў Фердынанд у спектаклі “Каварства і каханне” паводле Ф. Шылера. У Быліча быў дар з першай рэплікі завалодаць увагай гледача. Ён паспяхова выступаў у канцэртах: як канферансье, чытальнік, танцор. Сам складаў для сябе праграмы, рэжысіраваў і афармляў іх.

...Калі ў верасні 1944-га артысты вярталіся дадому, у родны Мінск, адбылася аварыя цягніка. Загінулі акцёры Маргарыта Шашалевіч (жонка скульптара Заіра Азгура), Канстанцін Быліч, Барыс Аляксеенка, а таксама тэхнічныя работнікі і члены сем’яў.

На 39-м годзе абарвалася яго жыццё. Муза да апошняга дня не пакідала яго... На жаль, не вернеш той час, калі можна было трапіць на спектакль з удзелам К. Быліча. Але можна зайсці на выстаўку — і ўбачыць водбліскі мінулага, сабраныя ў фотаархівах, карцінах і простых рэчах, якія належалі акцёру і цяпер нагадваюць пра яго яскравае жыццё.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Слова краязнаўцы



**Настасся Бондарава з Баранавіч распавядае пра лёс роднага горада ў гады Першай сусветнай вайны:**

— У апошні час у падручніках па гісторыі Беларусі выключная ўвага надаецца Вялікай Айчыннай вайне. А ці не задумваліся вы, што не менш вынішчальны характар для нашай Радзімы неслі іншыя войны, у тым ліку і Першая сусветная вайна? Апошняя адыграла выключную ролю ў жыцці Баранавіцкага рэгіёна. Справа ў тым, што з пачаткам ваенных дзеянняў беларускія губерні знаходзіліся на ваенным становішчы. Яшчэ тады ў мястэчку Баранавічы Вярхоўны галоўнакамандуючы размясціў сваю Стаўку — участак чыгуначнага палатна, на якім стаялі вагоны рознага класа. У несамавітых бараках месціліся аддзелы штаба.

Баранавічы мелі ўсе падставы, каб стаць горадам, нават павятовым цэнтрам. Але мястэчку быў наканаваны іншы лёс. У верасні 1915 года Баранавічы занялі немцы. Сотням жыхароў патрэбна было пакінуць свае дамы, маёмасць эвакуіравалася ў глыб Расіі, дзейнічала тактыка выпаленай зямлі. Аднак у гэты час для рускіх войск Баранавічы мелі вельмі важнае значэнне. Справа ў тым, што перавозка войск затрымлівалася недахопам чыгуначных саставаў. Каб забяспечыць своечасовае перамяшчэнне ваеннай сілы з Ліды і Баранавіч, неабходна было прыняць меры для перавозак, але саставаў на фронце не было. Акрамя перамяшчэння карпусоў кожны дзень у Баранавічах патрабавалася да 200 вагонаў, калі не лічыць вагонаў для маёмасці, што вывозілася.

Рыхтуючыся да летняй кампаніі 1916 года, рускае камандаванне значна ўзмацніла часткі Заходняга фронту, на які планавалася нанясенне галоўнага ўдару. Падчас ваенных дзеянняў рускім войскам удалося заняць першую лінію ўмацавання праціўніка. Але ўжо 14 ліпеня немцы адказалі контрнаступленнем. Імі былі захоплены згубленыя пазіцыі. Спробы расійскіх войскаў аднавіць свае пазіцыі 25 — 29 ліпеня скончыліся няўдачай. Страты нямецкіх войскаў складалі 25 тысяч чалавек, рускіх — 80 тысяч. Аперацыя чаканых вынікаў не прынесла. 14 лістапада 1917 года была падпісана дамова пра перамір'е паміж Грэнадзёрскім корпусам і германскай арміяй Войраша, па якой 19 лістапада спыніліся ваенныя дзеянні на ўчастку фронту працягласцю каля 30 кіламетраў у раёне Баранавіч. Пасля падпісання мірнай дамовы 1918 года населены пункт застаўся ва ўладанні праціўніка.

## Музейны ўнікат

**У Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі адкрылася выстаўка "Захаваўшы жыццё", прысвечаная жыццю і дзейнасці святога ХХ стагоддзя (кананізаваны ў 1982 годзе), патрона Гродзенскай дыяцэзіі, айца францысканскага ордэна Максімільяна Марыі Кольбэ. Выстаўка прымеркавана да 70-годдзя з дня яго пакутніцкай смерці ў Асвенцыме (добраахвотна пайшоў на смерць замест польскага сяржанта Францішка Гаеўнічка). Сам факт непасрэднай прыналежнасці да Беларусі высока шануемага каталіцкай царквой святога запісаны ў слаўную старонку айчыннай гісторыі і рэлігійнага жыцця краіны.**



**Настасся ВЕСЯЛУХА,**
**фота Алесі Бяленік**

# Па слядах святога

Пяць гадоў (1922 — 1927 гг.), умацоўваючы ідэі хрысціянства сярод мясцовага насельніцтва, Максімільян Кольбэ правёў у горадзе над Нёманам, а дакладней — на левым беразе ракі, дзе знаходзіўся Гродзенскі кляштар францысканцаў. Менавіта ў францысканскім касцёле Маці Божай Анёльскай захавалася шмат прадметаў і матэрыялаў, звязаных з дзейнасцю святога. Большасць экспанатаў выстаўкі была прадастаўлена цяперашнім пробашчам касцёла ксяндзом Юзафам Макарчыкам.

Як падкрэсліў аўтар канцэпцыі выстаўкі, намеснік дырэктара музея па навуцы Ігар Ганчарук, "сама выстаўка звяртае ўвагу на сапраўды Вялікую Асобу, якая з'яўляецца яскравейшым прыкладам гераізму і чалавекалюбства, якая ў жудасных умовах паказала, што жыццё чалавека чагосьці вартае, што няма большай любові, чым ахвяраваць жыццё за чалавека, як гэта зрабіў і сам Хрыстос".

Паколькі святы Максімільян быў манахам-францысканцам, то ў экспазіцыі крыху расказваецца пра сам ордэн: прадстаўлены рукапісны Статут ордэна францысканцаў, венецыянскія выданні францысканскіх імшалаў, урбанскія канстытуцыі ордэна сярэдзіны XVIII ст., медалі з выявай святога Францыска Асізскага XIX ст. Змешчаны тут і матэрыялы, прысвечаныя гісторыі Гродзенскага францысканскага кляштара: рэестр набажэнстваў касцёла (XVIII ст.), інвентарны вопіс пачатку ХХ ст., кніга перадшлюбных запісаў 1917 — 1923 гг., а таксама элементы святарскіх рызаў пачатку ХХ ст.

Большая частка экспанатаў звязаная непасрэдна з жыццём і дзейнасцю Максімільяна Кольбэ. Вялікую каштоўнасць мае эпісталярная спадчына, якая захавалася ў Гродзенскім францысканскім касцёле: лісты да маці, адпраўленыя ў 1919 годзе з Рыма (неабходна адзначыць, што менавіта маці аказала вялікі ўплыў на фарміраванне асобы святога Максімільяна), лісты да брата (1938 г.). Выстаўка ўтрымлівае і фотаздымкі маці святога, самога Максімільяна з сябрам Мельхіёрам Фрудонам у Гродне, кнігі пачатку ХХ ст. з аўтографамі гэтых святароў.

Значна тое, што Максімільян Кольбэ з'яўляецца і заснавальнікам рыцарства Беззаганнай Марыі, а таксама аднайменнага часопіса. У экспазіцыі прадстаўлены рукапіс Статута рыцарства (1917 г.), тытульны ліст першага нумара часопіса (1922 г.). Акрамя пастырскай і місіянерскай дзейнасці святы займаўся і тэхнічнымі распрацоўкамі, што адлюстравана на выстаўцы ў выглядзе запісаў яго тэхнічных вынаходніцтваў. Вядома, да прыкладу, што Максімільян Кольбэ працаваў над праектам касмічнага карабля. Арганічна ўпісваецца ў агульную канцэпцыю выстаўкі і абраз Маці Божай Беззаганнай (канец XIX ст.), які вісеў на сцяне ў пакоі святога.

***На здымку: фрагмент экспазіцыі, прысвечанай Максімільяну Кольбэ.***

# Як музыка стаў князем

**Вялікі князь Вітаўт, Давыд Гарадзенскі, Соф'я Гальшанская, Барбара Радзівіл, Леў Сапега… Не, гэта не просты пералік асоб, якія адыгралі значную ролю ў станаўленні беларускай гісторыі і культуры. Гэта дзейныя героі, вобразы праекта "Радавод" гомельскага фотамастака Алега Белавусава.**



**Чэслава ПАЛУЯН,**
**фота Алега Белавусава**

Вось як сам майстар распавядае гісторыю ідэі праекта: "Прыкладна 10 год таму да мяне ў студыю завітаў гісторык і музыка Зміцер Сасноўскі. Ён папрасіў зрабіць вокладку для першага альбома гурта "Стары Ольса". Мне складана выконваць заказ музыкаў, не ведаючы іх творчасці, бо трэба бачыць характар, адметнасці стылю. Музычныя творы "Старога Ольсы" я доўга не ўспрымаў, іх музыка з-за сваёй гістарычнай напоўненасці была для мяне чужой. Пазней, у працэсе падрыхтоўкі відэа да кампазіцый, я пазнаёміўся з прадстаўнікамі рыцарскіх клубаў, зацікавіўся тым, што яны робяць, а менавіта — формамі і спосабамі апрацоўкі металу. Так пазтупова ўсё больш і больш заглыбляўся ў гісторыю і настолькі захапіўся мінуўшчынай, што прыйшоў да разумення: гэта важна для майго жыцця. У гісторыі я знайшоў і месца сваёй сям'і, адчуў сябе часткай вялікай краіны, што мела назву Вялікае Княства Літоўскае. Не беларус паводле сваёй этнічнай прыналежнасці, я напачатку адчуваў сябе тут чужым".

Цяпер ужо і сам Алег не можа дакладна назваць колькасць здымкаў, зробленых у межах праекта "Радавод". Ён доўжыцца з 2006 года. Але мастак дакладна адзначае адно: яму хацелася б па магчымасці поўна паказаць прадстаўнікоў усіх народнасцей, што калісьці пражывалі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага і чые нашчадкі жывуць у Беларусі цяпер. Алег ужо мае здымкі татар (пакуль не прадстаўлены публіцы шырока), яшчэ не адлюстраваны ў праекце палякі і казакі, вельмі хоча знайсці рэканструяваныя вобразы сярэднявечных іудзеяў.

Што да мадэляў праекта, то многія асобы, якія пазіруюць для здымкаў, безумоўна знаёмыя аматарам сярэднявечнай культуры. У вобразе князя Вітаўта можна пазнаць Фёдара Міхеева, кіраўніка клуба "Княжы Гуф", у вобразе князя Андрэя Полацкага — музыку Андрэя Апановіча, бубнача "Старога Ольсы" і саліста гурта *LitvinTroll*, фактычна самі сябе — то бок сярэднявечных музыкаў — прадстаўляюць Зміцер Сасноўскі, Алесь Чумакоў (гурт "Стары Ольса"), а таксама Юрась Панкевіч (гурт *Testamentum Terrae*). У цэлым жа, мадэлі праекта — людзі, якія маюць непасрэдныя адносіны да гісторыі: сябры клубаў гістарычнай рэканструкцыі, даследчыкі, гісторыкі. Таму прадстаўленне гістарычных вобразаў для іх — не чужы, а натуральны стан. Тым больш што на здымках яны апранутыя ў свае ж касцюмы.

З аднаго боку, фотаздымкі Алега Белавусава паўтараюць кампазіцыю, нібыта імітуюць сярэднявечныя карціны з выявамі рыцараў і гараджан ВКЛ, паказваюць іх побыт, моду. З іншага ж, яны дэманструюць і чалавечыя пачуцці герояў (то бок гістарычных асоб), а значыць, не проста дазваляюць безасабовым постацям набыць новы твар, але і даюць гледачу магчымасць суперажываць. У планах аўтара праекта — выданне фотаальбома. Думаецца, кніга, якая змяшчае канцэптуальна цэласны візуальны шэраг, а таксама суправаджальныя тэксты (на некалькіх мовах!), што праз асоб распавядаюць пра нашу гісторыю, стане добрым дапаможнікам для настаўнікаў гісторыі, выдатным падарункам для турыстаў, дапаможа многім прыйсці да ВКЛ так, як калісьці прыйшоў сам Алег Белавусаў.

***Здымак з праекта "Радавод": музыка Андрэй Апановіч у вобразе князя Андрэя Альгердавіча (XIV ст.).***

## Музей рэальны і віртуальны

**Юзэфа ВОЎК**

На афіцыйным сайце Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь створана асобная старонка, прысвечаная Беларускаму гісторыка-этнаграфічнаму музею імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Яна складаецца з раздзелаў: "Жыццё і дзейнасць Івана і Антона Луцкевічаў", "Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя І. Луцкевіча" (1921 — 1945). На этапе распрацоўкі знаходзіцца вялікі раздзел старонкі, у якім плануецца размясціць спіс прадметаў з калекцыі былога Беларускага музея ў Вільні, якія сёння захоўваюцца ў розных установах Беларусі і Літвы.

Марына ВЕСЯЛУХА

**Дому, што месціцца ў сталіцы па адрасе вуліца Сухая, 25, ужо амаль сто год. Ён мае сваю гісторыю. Побач з ім у гады вайны праходзіла мяжа Мінскага гета, таму і будынак разам са сваімі насельнікамі перажыў халакост, вайну. Затым тут быў ЗАГС, потым швейны цэх, склад… Падчас стварэння новай забудовы горада неадназова прымалася рашэнне знішчыць гэты дом, каб на яго месцы вырас элітны жыллёвы комплекс — сугучны па стылістыцы з цэнтрам сталіцы. Але ж дом стаіць і да гэтага часу. Тут, у куточку старога Мінска, размясцілася Гістарычная майстэрня — установа, створаная сумеснымі сіламі Міжнароднага адукацыйнага цэнтра Дортмунд, Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханеса Раў, а таксама Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын.**



# Тут жыве памяць

### З гісторыі майстэрні

— Мне падаецца, што Гістарычная майстэрня — самае лепшае, што маглі разам зрабіць беларусы і немцы. Яна адкрыта ў 2003 годзе ў дні памяці спаленай Хатыні, — распавёў дырэктар майстэрні Кузьма Козак. — Гэта ўжо новы падыход, новая памяць, новыя намеры. Спачатку ў Гістарычную майстэрню прыйшлі былыя вязні Мінскага гета, затым былыя вязні канцлагераў. Мы гаворым, што ў Беларусі існавала 260 лагераў смерці, але калі канкрэтызаваць пытанне, што мы ведаем пра кожнага з вязняў? Адказ будзе просты: нічога. Мы не здолелі захаваць гэтую старонку нашай гісторыі.

Цяпер сітуацыя змянілася: былыя вязні гета самі выходзяць да шырокай грамадскасці, тут пачалі ладзіцца сустрэчы з гісторыкамі. Для гэтага арганізаваны клубы: суполкі ваенных гісторыкаў, маладых гісторыкаў, клуб гісторыкаў-германістаў і краязнаўчая школа. Ідэя апошняй, падаецца, узнікла зусім выпадкова, але сам факт яе з'яўлення быў нібыта прадвызначаны. Так, у складзе навучэнцаў — школьнікі з Мар'інай Горкі, якія завіталі ў майстэрню, каб сустрэцца з былымі вязнямі Мінскага гета. А вязняў у свой час выратавалі жыхары вёскі Парэчча, што на Пухавіччыне. "Калі яны сустрэліся тут, прадстаўнікі розных пакаленняў, мне падалося, што гэта быў мой самы лепшы ўрок: дзеці размаўлялі як дарослыя, а дарослыя нібыта адчулі сябе дзецьмі, такімі яны былі ў далёкія ваенныя гады", — прыгадвае Кузьма Іванавіч. Гэты крок паспрыяў таму, што на базе мар'інагорскай школы № 1 арганізавалі краязнаўчую школу, кіраўніком якой стаў выдатны настаўнік гісторыі Барыс Муха.

У самой майстэрні паступова пачалі арганізоўвацца выстаўкі. Яны прысвечаны ў большасці Мінскаму гета і лагеру смерці Трасцянец. Гэтыя старонкі нашай гісторыі пакуль не распрацаваныя і не вядомыя шырокай грамадскасці. "Мы маем мемарыяльны комплекс у Хатыні, які ведаюць ва ўсім свеце, але ж не валодаем ніякімі звесткамі пра Трасцянец. На месцы знаходжання лагера няма і мемарыяльнага знака, — разважае дырэктар Гістарычнай майстэрні. — Але для нас пераломным стаў 2008 год, калі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падчас аднаго з выступленняў падкрэсліў значнасць вывучэння гэтай тэмы і распавёў, што ў хуткім часе на месцы знішчэння людзей у Трасцянцы з'явіцца мемарыяльны комплекс агульнаеўрапейскага значэння".

### Дзённік эпохі

Калі маладыя людзі вядуць дыялог са сведкамі страшных падзей мінулага, яны запісваюць іх успаміны, фіксуюць памяць, і тут, на базе Гістарычнай майстэрні, з'яўляюцца кнігі новага фармату. Серыя выданняў, выхад якіх працягваецца і цяпер, мае назву "Жывыя сведчанні Беларусі". Кожная споведзь выратаванага чалавека — зварот да людзей, якіх мы ўжо страцілі, вяртанне памяці пра іх — праз згадванне імёнаў, прозвішчаў, праз успаміны падзей іх жыцця. Сустрэча з кожнай жывой асобай дазваляе дакрануцца да памяці пра 30 — 40 беларусаў, якіх, на жаль, ужо няма з намі.

— Знакавая магчымасць дзейнасці Гістарычнай майстэрні — занатаваць і захаваць споведзі былых прымусовых рабочых, вязняў канцлагераў, гета. Напэўна, таму мы пачалі выдаваць дзённікі. Іх вельмі складана знайсці, аднак у майстэрню прыходзіць шмат людзей, як з нямецкага, так і з беларускага бакоў. У іх сем'ях ужо на працягу доўгіх год захоўваюцца дзённікі, лісты бацькоў, некаторыя з іх былі салдатамі Вермахта, ваявалі на тэрыторыі Беларусі. І ўжо самі нашчадкі прымаюць рашэнне перадаць дакументы з сямейных архіваў у майстэрню. Тут распачынаецца праца. На базе нашай установы праходзяць практыку студэнты Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, яны ў якасці заліковых работ выконваюць пераклады з рускай на нямецкую ці з нямецкай на рускую мову. Мы рыхтуем кнігі ў двухмоўным фармаце — каб яны былі патэнцыяльна карыснымі і беларускаму, і нямецкаму боку. Так, у гэтым годзе пабачыў свет ваенны дзённік нямецкага салдата Эберхарда фон Ханкследэна. Салдат пачынае запісы 2 чэрвеня 1941 года перад Брэстам і заканчвае занатоўваць падзеі 22 чэрвеня 1942-га. У яго дзённіку — дакладныя апісанні рэалій ваеннага часу, іх бачанне вачыма простага салдата, для якога важна, каб вайна хутчэй скончылася і ён меў магчымасць зноў пабачыць жонку і сына. У планах працы майстэрні — выданне яшчэ аднаго дзённіка. Гэта запісы ваеннапалоннага нямецкага салдата, які быў у Мінску з 1945 па 1950 год. Ён фіксаваў усё, што бачыў, адчуваў страты, што прынесла вайна, — распавёў Кузьма Козак.

Прычым варта падкрэсліць, што для майстэрні кнігі не з'яўляюцца самамэтай. Важна, каб выданні сталі пачаткам дыялогу розных пакаленняў — дзядоў, бацькоў і дзяцей, каб агульначалавечыя каштоўнасці сталі значнымі і для прадстаўнікоў новых генерацый. Таму можна сцвярджаць, што дзейнасць Гістарычнай майстэрні — пэўнага кшталту спроба актывізаваць грамадства, звярнуць увагу на людзей, якіх раней называлі "негераічнымі". Яны не ваявалі, бо былі ў палоне, у турмах, былі вывезены на прымусовую працу. І пасля вайны да іх ставіліся не вельмі станоўча. Існавала меркаванне, што сваёй працай яны дапамагалі Вермахту, маглі пайсці ў партызаны, але не зрабілі гэтага, а, наадварот, дазволілі, каб іх схапілі. Сёння, праз столькі год, жыццё ахвяр часу ўжо бачыцца па-іншаму, цяпер патрэбна расказаць праўду.

### Перарванае маўчанне

Сустрэчы ў Гістарычнай майстэрні, ды і сам факт існавання такой установы, даюць магчымасць былым вязням распавесці пра тое, пра што доўгі час маўчалі… Шмат у каго з-за гэтага не склалася жыццё. Маладых дзяўчат, прыгожых і разумных, пасля вяртання з Германіі не бралі замуж. Многія перанеслі такія пакуты і жыццёвыя трагедыі, што так і не знайшлі сілы стварыць сям'ю. Нават распавядаць пра гэта ім цяжка, тым больш у прысутнасці старонніх людзей.

— Гэтыя асобы, жывыя сведкі нашай гісторыі, ужо сыходзяць з жыцця, — падкрэслівае Кузьма Козак. — У нас застаецца ўсё менш і менш магчымасцей зафіксаваць іх успаміны, захаваць іх і для гістарычнай навукі, і для сістэмы адукацыі, і для наступных пакаленняў. Застаюцца апошнія крокі, высілы, нам трэба спяшацца. І якраз Гістарычная майстэрня праз свой архіў, фіксаванне ўспамінаў, памяці заклікана дапамагчы грамадству пазбавіцца ад думкі, што мы былі абыякавымі да мінулага.

І сапраўды, сама праца гэтай установы сведчыць пра неабыякавасць. Так, Гістарычная майстэрня ўжо вярнула ў нашу сістэму адукацыі такі важны бок, як гісторыя Халакоста: выдадзены першы дапаможнік для выкладчыкаў, на базе майстэрні павышаюць кваліфікацыю настаўнікі гісторыі. Не спыняецца праца па выданні кніг і арганізацыі сустрэч. Так, у лістападзе адбудзецца прэзентацыя кнігі Анны Мачыз "Трагедыі і барацьба ў Мінскім гета". Гэта ўспаміны, напісаныя ў 1943 годзе. Сама аўтар выратавалася ў Мінскім гета, а потым у час вайны была падпольшчыцай, партызанкай. Увядзенне гэтага тэксту ў сучасны дыскурс надзвычай важнае для нашай гісторыі.

***На здымку: сустрэча пакаленняў падчас адной з выставак у Гістарычнай майстэрні.***

---

Марына ЯЎСЕЙЧЫК

# Праведнікам міру прысвячаецца

**"Мы ездзем па гэтай дарозе на аўтобусе, а тады, у ваенныя саракавыя гады, я і больш як дваццаць дзяцей ішлі пешкі з Мінска ў вёску Парэчча Пухавіцкага раёна. Мы збеглі з гета і атрымалі прытулак у вяскоўцаў. Гэта быў нялёгкі шлях да свабоды. Чатыры дні, удзень і ўначы, мы няспынным крокам ішлі побач з нямецкімі калонамі, ведалі, што ў любы момант акупанты могуць заўважыць нас. Сілы пакідалі. Хлопцы па чарзе неслі мяне на руках. Тады мне было дзевяць год…"**

Такую шчымлівую гісторыю пачала распавядаць Мая Крапіна, былы вязень мінскага гета. Штогод сябры Мінскага дабрачыннага грамадскага аб'яднання "Гілф", у склад якога ўваходзяць былыя вязні гета і нацысцкіх канцлагераў горада Мінска, арганізоўваюць выезд да помніка Праведнікам міру ў вёсцы Парэчча, каб успомніць пра жыхароў вёскі, якія выратавалі 40 дзяцей-яўрэяў ад гібелі.



Фота Браніслава Яблонскага

"Ніхто з вяскоўцаў не выдаў нас фашыстам. Кожны з сарака дзяцей жыў у сям'і. Спачатку партызаны хацелі арганізаваць дзіцячы дом. Але дзе там! І без таго было цяжка пракарміцца. Партызаны папярэджвалі, калі немцы планавалі разбуральны "марафон" на вёску, тады ўсе жыхары вымушаны былі хавацца ў балотах. Тых, хто не паспеў уцячы з вёскі да прыходу немцаў, расстрэльвалі. Не шкадавалі нікога…", — працягвае расповед Мая Ісакаўна. Менавіта на сродкі гэтай жанчыны і Фрыды Рэйзман, якая з'яўляецца кіраўніком арганізацыі "Гілф" (створана гарадскім сходам яўрэяў-ахвяр фашызму горада Мінска), выраблены помнік "Праведнікам міру". Яго ўсталявалі ў вёсцы адзінаццаць год таму. Ф. Рэйзман і М. Крапіна — жывуць у Мінску, астатнія выратаваныя, былыя малалетнія вязні, пераехалі ў ЗША, Ізраіль, Германію.

"Вёска была вельмі бедная. Памятаю, чым нас кармілі. На стол паставілі вялікае драўлянае карыта, з такіх свіней кормяць. У ім была зацірка. І мы, галодныя, накінуліся на гэтую страву лыжкамі", — прыгадала Мая Ісакаўна.

"Год таму арганізацыя "Гілф" стала адной з 14 пераможцаў конкурсу, які быў абвешчаны ў межах Гуманітарнай праграмы падтрымкі для Беларусі "Месца сустрэчы — дыялог" і нямецкім федэратыўным фондам "Памяць. Адказнасць. Будучыня" ў супрацоўніцтве з арганізацыяй "Узаемаразуменне" (Беларусь). Дзякуючы таму, што мы загадзя спланавалі выезд у вёску Парэчча, з'явілася магчымасць запрасіць болей удзельнікаў. Фінансавую падтрымку аказаў АОЕРК "Джойнт" у Рэспубліцы Беларусь. У арганізацыйных момантах дапамог выкладчык гісторыі Мар'інагорскай школы № 1, кіраўнік пухавіцкага філіяла Гістарычнай майстэрні Барыс Муха, з якім мы супрацоўнічаем ужо 8 год", — расказала вядучая мітынгу і каардынатар праекта Тамара Курдадзэ.

На мітынгу ў вёсцы Парэчча было шмат выступоўцаў. Кожнаму хацелася выказаць свае перажыванні, свае хвалюючыя думкі. Выступілі Часовы Павераны ў справах Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь спадар Цві Коэн-Літант, першы Сакратар і Консул Пасольства Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь Генадзь Палішчук, Пасол ФРГ у Рэспубліцы Беларусь спадар Крыстаф Вайль, дарадца па культуры Саюза беларускіх яўрэйскіх арганізацый і супольнасцей, архітэктар Галіна Левіна, старшыня дырэкцыі Мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханеса Раў Віктар Балакіраў, былая малалетняя вязніца Мінскага гета Мая Крапіна, праведніца міру Раіса Сямашка, старшыня выканаўчага савета аб'яднання "Гілф" Фрыда Рэйзман і іншыя.

***На здымку: Пасол ФРГ у Беларусі Крыстаф Вайль і ўдзельніца сустрэчы.***

Ірына КАРЭЛІНА,
фота Кастуся Дробава

# Дзве радзімы, дзве зары



Выдатна памятаю свой першы насцярожаны візіт у рэдакцыю "Віцебскага рабочага", у якой Алег Салтук працаваў загадчыкам аддзела культуры і нацыянальнага адраджэння. Успамінаюцца яго нязменнае "вітаю, зямлячка", добрыя, крыху стомленыя вочы і маршчынкі вакол іх. Сустрэцца ды пагутарыць са сваім першым настаўнікам у журналістыцы з'явілася падвойная нагода: надоечы паэт адзначыў сваё 65-годдзе і выхад чарговай кнігі вершаў "Дзве зары".

**— Алег Уладзіміравіч, віншую вас з юбілеем і выхадам у свет ужо дзясятага зборніка паэзіі. Пра што кніга? Чаму менавіта такая назва?**

— Па-першае, я вельмі люблю світанне і заход сонца. Напэўна, гэта самае прыгожае і непрадказальнае відовішча — столькі агню, таямнічасці. Па-другое, гэтую назву можна звязаць з узростам. У кнізе ёсць вершы, напісаныя як быццам бы 20-гадовым юнаком, а ёсць тыя, якія відавочна належаць руцэ больш сталага чалавека. "Усходняя — прыгожая зара, / заходняя, напэўна, прыгажэйшая, / не ведаю, ды адказаць пара, / якая з іх мне самая мілейшая…" У зборніку — вершы грамадзянскага гучання, лірычныя, вельмі асабістыя радкі, роздумы… Тэмы? Тэмы, якія хвалявалі, хвалююць і будуць хваляваць чалавечую душу: дабро, справядлівасць, любоў да маці, да жанчыны, да зямлі, да бліжняга, развагі пра Бога... Урэшце, тыя, хто цікавяцца паэзіяй, знойдуць у гэтай кнізе што-небудзь для сябе.

**— Зніттаванасць з роднай зямлёй прасочваецца ва ўсёй вашай творчасці. Раскажыце пра сваю малую радзіму.**

— Так атрымалася, што ў мяне дзве малыя радзімы. Чаму? Таму, што нарадзіўся я ў вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна, там жа скончыў дзесяцігодку. Але бацьку пацягнула туды, дзе карані: на Ушаччыну, у вёску Якаўкі. Ён перавёз туды хату. Я не ведаю, як падзяліць гэтыя мясціны. У вершы "І пачынаецца Радзіма…" у мяне ёсць такія радкі: "маленькая, вялікая — адна". Дзе б я ні быў, праз тыдзень заўсёды цягне дадому. Ты маеш рацыю, вясковая тэма — галоўная, стрыжнёвая ў маёй творчасці. Там мая пупавіна, там маё ўсё. Я люблю паўтараць словы французскага пісьменніка Жуль Рэнара: "Мая Радзіма — там, дзе плывуць самыя прыгожыя аблокі". Я наогул ганаруся Ушаччынай, якая дала свету столькі талентаў. Толькі ўявi: тры народныя пісьменнікі — Васіль Быкаў, Пятрусь Броўка, Рыгор Барадулін!

**— Дзіўна, вы скончылі аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта пединстытута, а вершы пішаце выключна па-беларуску. Гэта прыйшло з цягам часу?**

— Вершы на беларускай мове з'яўляліся ўжо падчас вучобы ў інстытуце: мова заўсёды была часткай мяне самога. Менавіта ў гады студэнцтва адбыўся мой літаратурны дэбют: вершы надрукавалі "Чырвоная змена" і часопіс "Маладосць". Ёсць некалькі вершаў на рускай мове — пра іх не ведае ніхто, апрача хіба што тых дзяўчат, каму яны былі прысвечаныя. Так, я вывучыў рускую мову, і гэта ніколі мне не шкодзіла. Наадварот, гэтыя веды спатрэбіліся, калі перакладаў на беларускую мову вершы Забалоцкага, Гарбоўскага, Кастрова, Мішына.

**— Што дала вам праца ў рэдакцыі ўшацкай раённай газеты "Патрыёт"?**

— Пачаў працаваць там літработнікам сельскагаспадарчага аддзела. Раёнка мяне многаму навучыла. Гэта само жыццё — не кніжнае, а такое, якое ёсць: калгас, саўгас, невялічкае прадпрыемства, школа, дзіцячы садок, бальніца… Я ведаю вёску сапраўднай, роднай да болю: у поце, у клопаце і ў працы — ад цямна да цямна.

Менавіта ў рэдакцыі мяне заўважыў Рыгор Барадулін і зрабіў падборку вершаў для майго першага паэтычнага зборніка.

**— Наогул, ці не перашкаджае прафесія журналіста паэтычнаму мысленню?**

— Калі гэта ёсць у цябе — яно нікуды не дзенецца. Напішаш нататку, артыкул, карэспандэнцыю, але паэзія прыйдзе, нягледзячы ні на што. Канечне, журналістыка займае шмат часу, сапсуе нервы — але гэта іншая справа. У мяне ёсць мноства знаёмых журналістаў, якія пісалі і пішуць выдатныя вершы, — Віктар Гардзей, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, выдатны беларускі паэт, на жаль, ужо нябожчык, Аляксей Пысін, які доўгі час працаваў у "Магілёўскай праўдзе". Гэта не шкодзіць, адназначна. Канечне, адбірае шмат сіл, здароўя, але, што і казаць, паэзія, проза адбіраюць не менш.

**— Як вы ставіцеся да дэвізу "Ні дня без радка"? Зразумела, у дачыненні да паэзіі.**

— Калі можаш не пісаць — не пішы. Не пераломвай сябе. Усё гэта прыйдзе. Марная справа: я б мог пісаць — і нават не па радку ў дзень, але з гэтага нічога добрага не атрымаецца. Дастаткова аднаго вобраза, каб нарадзіўся цэлы верш. Памятаеце, "Когда б вы знали, из какого сора растут стихи, не ведая стыда…"

**— Алег Уладзіміравіч, што вы можаце сказаць пра стан сучаснай беларускай літаратуры?**

— Сучасная беларуская літаратура ёсць, і яна развіваецца. Ёсць цікавыя імёны ва ўсіх яе жанрах. Але ідзём мы крыху не ў тым напрамку. Гэта мая асабістая думка, я ўжо выказваў яе на старонках "ЛіМа" ды іншых газет. Нашыя маладыя сталі глядзець у рот чужым класікам: Муракамі, Маркесу, Борхесу, Басё — і адрываюцца ад роднай глебы. Што атрымліваецца? Марныя патугі формы выдаюць за вершы, у якіх няма ніводнай каштоўнай, цікавай думкі. Чытаць трэба! Калі ты любіш Борхеса — чытай Борхеса, але не падладжвайся пад яго. Мы ж беларусы — у нас свая культура, свой менталітэт.

**— Якіх маладых аўтараў лічыце годнымі?**

— На ўскідку — гэта Рагнед Малахоўскі, Алена Крыклівец, Янка Лайкоў, Кацярына Хадасевіч-Лісавая, Андрэй Цяўлоўскі… Упэўнены, што гэты спіс будзе доўжыцца.

**Візітка:**
**Алег Салтук — паэт, перакладчык, журналіст.**
**У 1967 г. скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут.**
**Першыя вершы былі надрукаваны ў "Магілёўскай праўдзе" з блаславення паэта Аляксея Пысіна. Пасля службы ў Савецкай Арміі працаваў у раённай газеце "Патрыёт", "Віцебскім рабочым". Выдаў кнігі вершаў: "Пачатак дня", "Працяг", "Святло зямлі", "Святло зямлі (выбранае)", "Вялікі звычай" (у перакладзе на рускую мову), "На далонях жыцця", "Трывога лёсу", "Не разлюбі", "На вейцы веку", "Дзве зары". Друкаваўся ў калектыўных зборніках "Маладыя паэты Беларусі", "Вытокі", "Слова па кругу", "Беларусь моя"; у часопісах "Наш современник", "Звезда Востока", "Дружба народов", "Польша", "Огонек", "Сузор'е", "Литературной газете". Творы паэта перакладаліся таксама на ўкраінскую, польскую, балгарскую, нямецкую, асецінскую мовы. І сам ён займаецца перакладамі на беларускую мову. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Уладзіміра Караткевіча, часопісаў "Маладосць", "Сузор'е муз".**

ПростаЯ мова

## Валерый Гапееў:

# «Мне шкада цяперашніх падлеткаў»



Дар'я ШОЦІК

**Валерый Гапееў жыве ў Брэсце і піша кнігі для падлеткаў. Зборнік яго аповесцей "Урокі першага кахання" вытрываў жорсткую крытыку з-за гіперрэальнасці тэкстаў і два выданні агульным тыражом 3200 экзэмпляраў . Валерый Гапееў мае два погляды на жыццё: аптымістычны і песімістычны — але адказнасці за іх на сябе не бярэ, бо пісьменнік, на яго думку, толькі канцэнтратар з'яў рэчаіснасці, а не правадыр і настаўнік.**

**Хочаце пачуць ад мяне аптымістычна-упэўненае: "Вядома, ёсць!" пра будучыню беларускай літаратуры?** Не, не буду казаць так. Літаратура жыве, пакуль жыве мова, на якой яна ствараецца. Але ж мова можа памерці, знікнуць. Рэальна знікае ірландская мова — катастрафічная сітуацыя, калі і дзяржава не можа кардынальна нешта змяніць. Падлічана, што кожны тыдзень на зямлі знікае адна мова. Не буду, што называецца, каркаць, але прыхарошваць становішча не лічу за геразім.

**Наконт таго, ці здольная літаратура звязваць мінулае і сучаснае…** А яна павінна гэта рабіць? Задача літаратуры як часткі агульнай культуры — быць, існаваць. Больш літаратура нікому нічога не павінна.

**У грамадстве часта ўзнікаюць дыскусіі пра тое, як кніга ўздзейнічае на чытача** альбо пра тое, як чытач сваімі развагамі пра жыццё, сваёй філасофіяй уплывае на развіццё літаратуры... Я рашуча супраць таго, каб на пісьменніка навешвалі адказнасць за тое, што яго кнігі нечаму там вучаць і гэтак далей. Пісьменнік *так* бачыць свет вакол сябе. Пісьменнік — з гэтага грамадства, плоць ад плоці і дух ад духу. Ён проста ўмее сканцэнтраваць нешта асаблівае з таго, што бачна ўсім, і паказаць з іншага боку.

**Кніга ўздзейнічае?** Значыць, яна мастацтва. Кніга і павінна ўздзейнічаць: абуджаць душу і дух, прымушаць іх працаваць. Гэта задача літаратуры — не даваць спаць душы. Але прама не вучыць, не весці за сабой, не натхняць. Дайце ідэолагам адрабляць свой хлеб. Калі літаратура пачынае гэтым займацца, гэта кан'юнктурщчына палітычная. Калі пачынае залежаць ад патрабаванняў чытача, яна становіцца таварам па запатрабаванні, чытвом.

**Перад дзецьмі ўсіх пакаленняў, як перад любым чалавекам, які расце, развіваецца, паўстаюць зазвычай адны і тыя ж праблемы,** якія ўзнікаюць ад атрыманага першы раз у жыцці нейкага адмоўнага ці станоўчага вопыту. Той жа выбар паміж тваім сумленнем і набыццём нечага матэрыяльнага. Вопыт няспраўджанага кахання. Іншая атрыбутыка, афармленне, а сутнасць не мяняецца. Адкуль мне вядомая атрыбутыка? Дапамагае Інтэрнэт, дапамагаюць самі падлеткі. Кожны з іх у рэальным жыцці гатовы падзяліцца сваімі праблемамі, важна толькі чуць іх, слухаць і зразумець, наколькі для іх гэта важна. Ну, і не кідаць з вышыні свайго вопыту: "Гэта дробязь, зажыве…" Для нас было гэта дробяззю? Не. Дык чаму для іх іначай?

**Мне шмат у чым шкада цяперашніх падлеткаў.** Я бачыў па сыне, бачу па дачцэ, што ў іх дзяцінства куды больш кароткае, чым было ў нас. Сённяшнія падлеткі імкліва, проста лавінай нейкай, ляцяць у дарослае жыццё. І не яны ў гэтым вінаватыя. Дзяцінства — гэта час без клопатаў. Той час, калі дарослыя засцерагалі нас ад сапраўдных праблем. Сёння нішто не можа схаваць падлетка ад вонкавага жыцця, ад яго жорсткасцей. Сутыкненне з рэчаіснасцю адбываецца вельмі рана.

**Трэба прыкласці ўсе намаганні для таго, каб захаваць друкаваную кнігу.** Бо кніга — гэта не толькі твор аўтара, гэта работа мастака, выдаўца. Кніга — мастацкая адзінка. І гэтым яна адрозніваецца сёння і будзе адрозніваецца надалей ад кнігі электроннай.

**Усё беларускае страціла значнасць.** Сёння пісьменнік для грамадства не каштоўнасць: яго праца над творамі аплачваецца ніжэй за ўсякія магчымыя сумы. Працаваць над раманам, напрыклад, тры гады і атрымаць ганарар у выглядзе двухмесячнага заробку дворніка — гэта павага да літаратуры? Літаратура развіваецца, яна не ў заняпадзе, няхай і развіваецца не дзякуючы, а насуперак. У заняпадзе работа над маральнымі, этычнымі і духоўнымі каштоўнасцямі...



**Фёдар Дастаеўскі, задумваючыся над рэалістычным метадам у літаратуры, адзначаў, што неад'емнай якасцю гэтага метаду з'яўляецца псіхалагізм, бо без псіхалагізму немагчыма дасягнуць адлюстравання праўды жыцця, праўды характараў. Ён сцвярджаў: “Мяне называюць псіхолагам; няпраўда, я толькі рэаліст у вышэйшым сэнсе, г.зн. паказваю ўсе глыбіні душы чалавечай”. У гэтыя глыбіні зазіралі і знакамітыя беларускія празаікі, у шэрагу якіх і Мікола Лобан. Пра яго, праўда, сённяшні чытач ведае куды меней, чым, скажам, пра Васіля Быкава, Івана Мележа, Івана Шамякіна, дый пра некаторых іншых пісьменнікаў, а між тым унёсак М. Лобана ў развіццё беларускай літаратуры вельмі значны, хоць і напісана ім не так шмат. Па сутнасці, М. Лобан — аўтар аднаго твора, калі мець на ўвазе тое, што яго знакамітыя раманы “На парозе будучыні”, “Гарадок Устронь”, “Шэметы” склалі трылогію, назву якой і даў апошні. Затое дзякуючы гэтай трылогіі назаўсёды ў нашай літаратуры прапісаўся куточак беларускай зямлі, дзе і размясціліся Некрашы, гарадок Устронь, а гэта родная Міколу Паўлавічу Случчына.**

# Усе глыбіні душы чалавечай

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Нарадзіўся будучы пісьменнік 27 кастрычніка 1911 года ў вёсцы Чаплічы ў сялянскай сям'і. На той час гэта быў Слуцкі павет, а цяпер аднайменны раён. Сялянамі былі і яго продкі. Аднак прозвішча мелі не Лобан, а Лабановіч. Першым з іхняга роду Лобанам стаў яго дзед. Паводле ўспамінаў Міколы Паўлавіча, гэта адбылося, калі Васіль Лабановіч прыйшоў у школу вучыцца: “Настаўнік спытаў прозвішча і здзівіўся: “Як? Як? Мужык і шляхецкае прозвішча носіш? Лобан ты. Запомні!” Так і запісаў. Ад таго дзеда і пайшоў род Лобанаў”.

У семігадовым узросце М. Лобан паступіў у падрыхтоўчы клас мясцовай пачатковай школы. У 1926 годзе скончыў сямігодку ў Слуцку, пасля тры гады жыў у бацькоўскай хаце: быў паштальёнам, бібліятэкарам у Чапліцкай хаце-чытальні. Сюды па кнігі і часопісы наведваўся з вёскі Еўлічы, што непадалёку, яшчэ адзін будучы пісьменнік — Васіль Вітка, а тады Цімох Крысько. Скончыўшы ж двухгадовыя настаўніцкія курсы, М. Лобан настаўнічаў, у тым ліку і ў Тальскай школе калгаснай моладзі, дзе прыкмеціў яшчэ аднаго будучага пісьменніка Івана, а тады вучня чацвёртага класа Ваню, Муравейку.

Паводле прызнання Міколы Паўлавіча, сам ён “літаратураю захварэў у раннім дзяцінстве... Гадоў у 10 напісаў некалькі апавяданняў і выдаў зборнік, перапісаны ад рукі друкарскімі літарамі”. Не кідаў пісаць і падчас настаўніцтва. Не толькі апавяданні, а і вершы дасылаў у газету “Беларуская вёска” і літаратурны дадатак да яе — часопіс “Чырвоны сейбіт”. Вершы, праўда, у Пятра Глебкі, якому яны трапілі, асаблівага захаплення не выклікалі, а апавяданні ўхваліў Кузьма Чорны і настойліва параіў ні ў якім разе не кідаць гэтага занятку.

Ды жыццёвыя абставіны не надта спрыялі творчай працы М. Лобана. Смерць жонкі і двух дзяцей прымусіла яго пакінуць Беларусь. Паступіў у Кіеўскі дзяржаўны ўніверсітэт. Праўда, правучыўся нядоўга, вярнуўся на радзіму. Вайна заспела ў Мінску. Ваяваў пад Ленінградам, на Волхаўскім фронце. Таксама нядоўга: 27 верасня сорак першага ў час атакі быў цяжка паранены. Другі раз параніла, калі ў вагон, у якім яго эвакуіравалі, прамым ударам трапіла варожая авіябомба. Больш як паўгода лячыўся ў шпіталях, быў камісаваны інвалідам трэцяй групы.

Выкладаў рускую мову і літаратуру ў адной са школ у Казахстане, а калі ў 1943 годзе на станцыі Сходня пад Масквой аднавіў работу Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, зноў стаў студэнтам. Адначасова працаваў у Слоўнікавай камісіі Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. Дарэчы, і ўсё далейшае жыццё звязаў з мовазнаўствам. Быў малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства АН БССР, узначальваў рэдакцыю мовы і літаратуры Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, а з 1968-га дзесяць гадоў кіраваў сектарам лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства. Абараніў кандыдацкую дысертацыю.

Працаваў у гэтым кірунку, як і ў літаратуры, паводле свайго прызнання, бо да самазабыцця быў улюбёны ў беларускую мову, пра што, у прыватнасці, прызнаваўся ў эсэ “Словы, словы, словы...”: “Роднае слова, ты — найвялікшае з вялікіх тварэнняў, ты — сам народ, яго гісторыя, працоўная і духоўная біяграфія, ты спляценне яго душ, імкненняў і спадзяванняў”. М. Лобан — адзін з аўтараў “Арфаграфічнага слоўніка”, “Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”. Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам быў падрыхтаваны і выйшаў пяцітомны (у шасці кнігах) “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы”, першы том якога сам і адрэдагаваў. У перыёдыцы рэгулярна змяшчаліся ягоныя артыкулы, нарысы, эсэ па пытаннях культуры мовы, лепшыя з якіх склалі кнігу “Пяць раніц тыдня”. Выхаду яе Мікола Паўлавіч, на жаль, не дачакаўся: 28 снежня 1984 года яго не стала. У 1985 годзе М. Лобану за гэтую кнігу была пасмяротна прысуджана Літаратурная прэмія імя Івана Мележа.

Калі першая ягоная аповесць “Іркуцянка” (1953) — гэта, па сутнасці, толькі проба мастакоўскага пяра, хоць сваё першае апавяданне надрукаваў яшчэ ў 1930 годзе, то трылогія “Шэметы” — адно з найбольш значных дасягненняў беларускай літаратуры XX стагоддзя. Пісаў яе М. Лобан не спяшаючыся. Раман “На парозе будучыні” выйшаў у 1964 годзе, наступны — “Гарадок Устронь” — з'явіўся праз шэсць гадоў. Завяршальная частка пазначана 1981 годам. Трылогія — панарамнае мастацкае палатно, у якім прасочваецца жыццё беларускага народа на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Робіцца гэта на прыкладзе трох прадстаўнікоў роду Шэметаў, якія воляй абставін апынуліся спачатку ў цэнтры рэвалюцыйных падзей, а потым — пабудовы новага жыцця. Зразумела, пісаў М. Лобан з вышыні тагачаснай ацэнкі ўсяго таго, што адбывалася, і з пункту гледжання ўласнай дасведчанасці. “Шэметы”, безумоўна, цікавыя і тым, што са старонак паўстаюць “усе глыбіні душы чалавечай”, а гэта само па сабе ўжо сведчыць пра высокае майстэрства аўтара.

Упэўнены, што пісьменніку “дадзена права аблюбаваць слова за агароджай літаратурнай мовы”, з тым, “каб гэта слова было неабходным у “мендзялееўскай табліцы” нашай мовы”, М. Лобан гэтым кіраваўся і ў сваёй літаратурнай творчасці, што напоўнена багаццем вобразна-выяўленчых сродкаў, трапных слоў і параўнанняў, у якой прысутнічае, без перабольшання, сам дух беларускі, створаны па-сапраўднаму народныя характары.

***Фота прадастаўлена Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва.***

# «Думка» па-новаму

**Таццяна ШАБЛЫКА**




Адзначыць на старонках часопіса “Беларуская думка” юбілейную дату (у кастрычніку выданню споўнілася 20 гадоў) рэдакцыя вырашыла даволі сціпла. Фактычна самому “юбіляру” ў нумары прысвечаны два артыкулы: развагі Віктара Лоўгача над публікацыямі часопіса, якія аўтар назваў “Думкі пра “Думку”, і “Жыццё быццам поўная рака” — успаміны колішніх кіраўнікоў і супрацоўнікаў рэдакцыі пра час стварэння новага часопіса на базе “Камуніста Беларусі”. Надзвычай актуальнай сталася размова за круглым сталом галоўных рэдактараў часопісаў “Беларуская думка”, “Беларусь”, “Беларускі гістарычны часопіс”, “Нёман”, “Белая Вежа” і “Маладосць”. Кіраўнікі абмеркавалі не толькі творчыя праблемы, але і шляхі выжывання выданняў ва ўмовах павышэння кошту паперы і паліграфічных паслуг.

Юбілей часопіса адзначаны з'яўленнем новых рубрык і тэм. Так, у тэматычным раздзеле “Час і асоба” адбываецца знаёмства з неардынарнымі прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі краіны, можна нават сказаць, айчыннай эліты — вучоным Адамам Мальдзісам і мастаком Мікалаем Кузьмічом. Іх разважанні і меркаванні па розных аспектах жыцця краіны, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў, пытаннях існавання творцы ў грамадстве, безумоўна, прыцягнуць увагу.

Яшчэ больш прывабным для няўрымслівага прыхільніка “Беларускай думкі” будзе знаёмства з публікацый раздзела “Загадкавая Беларусь”. Рэдакцыя мяркуе размяшчаць у ім журналісцкія даследаванні незвычайных фактаў і з'яў з гісторыі і сучаснага жыцця нашай краіны. Распачынае нізку публікацый артыкул Сяргея Галоўкі “Сенсацыйная знаходка ці арыгінальная падробка”, прысвечаны “расонскаму ідалу”. Спроба аўтара даведацца пра паходжанне нядаўняй знаходкі з дна ракі Дрыса суправаджаецца шматлікімі сустрэчамі з вучонымі і дайверамі, глыбокім вывучэннем літаратурных і гістарычных крыніц.

Яшчэ адной надзвычай цікавай публікацыяй часопіс абавязаны кандыдату гістарычных навук Алегу Яноўскаму. Ён прадставіў некалькі малавядомых артыкулаў слыннага беларускага гісторыка Уладзіміра Пічэты, які быў заснавальнікам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Дарэчы, публікацыя прымеркавана якраз да 90-годдзя ВНУ.

Да разраду актуальных інтэрв'ю можна аднесці размову Валерыя Сідорчыка са старшынёй Гомельскага аблвыканкама Уладзімірам Дворнікам. Сама назва публікацыі — “Нельга чакаць ласкі ад надвор'я” — раскрывае асноўны сэнс інтэрв'ю. Распавядаючы пра штодзённую карпатлівую працу аграрыяў рэгіёна, губернатар акцэнтуе ўвагу на змяненні кліматычных умоў і на тых новых задачах, якія паўсталі перад вучонымі і практыкамі на гэтым фоне.

У раздзеле “Саюзны вектар” надрукаваны цікавыя матэрыялы, сабраныя журналісткай Сняжанай Міхалоўскай пра выкананне беларуска-расійскіх навуковых праграм “БелРосТрансген-1” і “БелРосТрансген-2”. Апроч таго, чарговы нумар часопіса прапануе чытачам і артыкулы вядомых беларускіх і замежных вучоных у традыцыйных раздзелах: эканоміка, палітыка, філасофія і сучаснасць.

# Белая жырафа, дамавічкі і лекаванне дрэвам

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**




**У кастрычніцкай “Бярозцы” чытачоў чакаюць імёны-“разынкі”: Мельхіёр Ваньковіч і Уладзімір Кандрусевіч. А таксама адказы на пытанні: “Дзе пабачыць белую жырафу?”, “Што рабіць з няшчасным каханнем?” і “Як не суадносіць абыякавасць са сваім жыццём?”**

Кастрычніцкая “Бярозка” зноў прапануе чытачам сустрэчу з авечкай Адэляй: у працягу казачных прыгод Наталля Бучынская імкнецца разабрацца з чалавечай разбэшчанасцю і эгаізмам. А Наталля Пахомчык у гісторыі “Апёк” разважае пра тое, як моцна пячэ ў дзяцінстве несправядлівасць.

“Шчанячыя гады” — аповесць Мельхіёра Ваньковіча, перакладзеная з польскай мовы Арцёмам Кавалеўскім. Аўтабіяграфічны твор пра дзяцінства польскага пісьменніка ў Беларусі, калі краіна была ў складзе Расійскай імперыі.

Мікола Шабовіч прэзентуе свае “Вершы студэнцкіх гадоў”, у якіх — уся крохкасць і нетрываласць чалавечага кахання. Творчасць Вольгі Гапеевай, прадстаўленую падборкай вершаў “Белая жырафа”, таленавіта “расшыфроўвае” ў сваёй прадмове паэт Арцём Кавалеўскі: “Адмысловы свет прыемных парадоксаў”.

Драматургія прадстаўлена п'есай Ягора Конева “Дамавічкі”. Ёсць у кастрычніцкім нумары і сцэнарый свята — “У гасцях у Лесуна” Таццяны Кухты.

У рубрыцы “Пункт погляду” закранаецца праблема няшчаснага кахання з пазіцыі ўсходняй філасофіі. Маўляў, любоў у цябе ўнутры, не шукай яе крыніцу ў знешнім свеце — расчаруешся. Кацярына Бядуліна ў матэрыяле “Тэст на абыякавасць” закранае праблему чалавечай няўважлівасці да няшчасных. У традыцыйнай рубрыцы “Беларуская міфалогія” Ірына Клімковіч распавядае пра багіню-прародзічку ўсяго жывога (або адвечную маці).

Як заўжды, завяршае “Бярозку” рубрыка “Вернісаж”: нас уражваюць цацы, створаныя беларускімі школьнікамі з дрэва. А для самых юных разьбяроў кантакт з дрэвам — душы лекаванне.

# Сакрэт бондарскага даўгалецця

Аліна САНЮК,
фота Святланы Муцянскай

**У мінулыя часы наша зямля славілася вырабамі народных умельцаў. Ткацтва, лозапляценне, вышыўка, бондарства, разьба па дрэве, ганчарства з'яўляліся часткай побыту беларусаў. Майстры жылі ў кожным мястэчку. Калі ж у кагосьці рукі не былі здатныя зрабіць тую ці іншую рэч, то ўсё неабходнае для гаспадаркі набывалі на кірмашы. З асабліва шырокім размахам і вялікім гоманам праходзілі яны ў святы. Майстры і пакупнікі з'язджаліся на рынычныя плошчы з усяго наваколля. І кожны вяртаўся дамоў задаволены.**

Нарасхват ішлі бандарныя вырабы. Гэта і зразумела, бо па значнасці бандарнае рамяство можна параўнаць хіба што з вынаходніцтвам кола. Нашы продкі ў драўляным посудзе захоўвалі прадукты і ваду, рашчынялі цеста на хлеб, за сталом карысталіся драўлянымі лыжкамі. У такіх жа начоўках мылі бялізну, хадзілі ў лазню з драўлянай ражкай.

— Гэта цяпер усё штучнае, пластмасавае, — з жалем зазначае бондар з Ашмяншчыны Ксаверый Шукяловіч. — А раней мы з бацькам не паспявалі рабіць маслабойкі, даёнкі, розныя цабэркі і бочкі. Саленні ў такім посудзе атрымліваюцца адмысловыя: як грыбы, так і агуркі ці капуста.

Вырабы з дрэва карысталіся попытам, нягледзячы на тое, што і майстроў было шмат. У ашмянскай вёсцы Гарлінцшына, адкуль родам Ксаверый Антонавіч, майстры жылі амаль у кожнай хаце. Свае сакрэты перадавалі родным і блізкім. Вось і наш майстар навучыўся бондарскай справе ад бацькі. Ад яго перайшлі сыну і спецыяльныя інструменты, без якіх ні адна пасудзіна не атрымаецца.

— Зрабіць бочку — справа тэхнікі, аднак якасць не будзе залежаць перш-наперш ад падрыхтаванай драўніны, — кажа майстар. — Бондар не выкарыстоўвае для клёпак гатовыя дошкі. Аказваецца, калі рэзаць іх, то парушаецца тэкстура драўніны. З-за гэтага дрэва псуецца і бочка доўга не праслужыць. Таму майстар карыстаецца сякерай, стругам і цэлым арсеналам іншых інструментаў. Каб выраб праслужыў доўга, драўніну неабходна сушыць на паветры каля трох (!) гадоў. Пад уздзеяннем сонца і дажджу яна набывае моц і адпаведную якасць.

Цэлую лекцыю прачытаў Ксаверый Антонавіч пра тое, якое дрэва лепш прыдатнае для вырабу таго ці іншага посуду. А яшчэ раскрыў сакрэт бондарскага даўгалецця. Аказваецца, калі выкарыстаць пры вырабе посуду меркі заказчыка (сажань, аршын, плячо, далонь), тады прадукт, што знаходзіцца ў посудзе, пачне рэзаніраваць у арганізме гэтага чалавека і прынясе яму здароўе і радасць. Ксаверыю Антонавічу 82 гады, аднак выглядае ён значна маладзей. Відаць, ёсць праўда ў гэтым павер'і, бо карыстаецца мужчына посудам толькі ўласнай вытворчасці.

Ксаверый Шукяловіч, калі быў маладзейшым, чапляў на веласіпед дзежкі, даёнкі і вёз іх на продаж у Смаргонь ці Ашмяны. Любімай справай, бывала, займаўся ўсю ноч, бо днём іншай работы хапала. Працаваў у мясцовым калгасе, даглядаў уласную гаспадарку.

Добра жылі між сабой Шукяловічы, у ладзе і згодзе. Шасцёра дзетак нарадзілася ў іх сям'і. Усіх трэба было адзець-абуць, накарміць. Залатыя рукі Ксаверыя Антонавіча не ведалі спакою. Ён адзін, без чужой дапамогі, збудаваў для сваёй сям'і прасторную хату. Пасля таго, як не стала жонкі і аднаго з сыноў, Ксаверый Антонавіч перабраўся да старэйшага сына Франака.

Нявестка Марыя з гонарам паказвае дзежкі, у якіх добра растуць яе фікусы. Вокны, дзверы ў іх хаце таксама зроблены залатымі рукамі бацькі. Шмат хто з акругі запрашаў Ксаверыя Антонавіча на падмогу пры ўзвядзенні жылля. Яго рукі і сёння не ведаюць спакою, імкнуцца да дрэва. А яшчэ яму вельмі хочацца перадаць свае веды і бондарскія сакрэты калі не сынам, дык унукам. Каб рамяство працягвала жыць, а разам з ім і беларуская вёска з яе самабытнай культурай, багатымі традыцыямі і абрадамі.



***На здымку: Ксаверый Шукяловіч сярод сваіх вырабаў.***

Ірына КАРЭЛІНА

# Займальны майстар-клас

**Апошнім часам беларускую выцінанку захліснула новая хваля цікаўнасці. Выразанка, знаёмая нам з дзяцінства, усё часцей становіцца галоўнай гераіняй часопісных і газетных артыкулаў. Нядзіўна, што хочацца больш даведацца пра гэты від рукадзелля, а лепей — навучыцца самім выраблаць з паперы ажурныя шэдэўры.**

Ёсць у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце гуртох з незвычайнай назвай "Шаршатка", які з 2007 года працуе пры кафедры беларускай мовы і літаратуры. Студэнты займаюцца вывучэннем этнаграфіі і фальклору. "Мы стараемся штотыдзень наладжваць цікавыя сустрэчы, — распавядае арганізатар суполкі Хрысціна Варановіч. — Чарговае пасяджэнне вырашылі прысвяціць беларускай выцінанцы".

Каб вечар атрымаўся прадуктыўным, "Шаршатка" запрасіла да сябе Юлію Літвінаву — сябра Мінскага студэнцкага этнаграфічнага таварыства. Напачатку госця зрабіла невялічкі экскурс у гісторыю выцінанкі, потым расказала пра яе прымяненне ў сучаснасці. Як высвятлілася, цяпер модна аздабляць вокны, рамкі для фотаздымкаў, паліцы, люстэркі "папяровымі карункамі". А калі навучыцца выразаць фігуркі жывёл, то яны могуць служыць абярэгамі дамоў і кватэр (прынамсі, так лічылі нашыя продкі).

Перад тым, як папрактыкавацца з нажніцамі, трэба засвоіць некаторыя правілы. Першы прынцып беларускай выстрыганкі — прынцып шматразовага складання, другі — сіметрычнасць. "Перад тым, як выразаць узор, пажадана намаляваць яго на паперы", — папярэдзіла Юлія. Юнакі і дзяўчаты выразалі з захапленнем і разышліся засцемна: вельмі ўжо займальным атрымаўся майстар-клас.

Адны панеслі дамоў настальгічныя "сняжынкі", другія — больш сур'ёзныя кампазіцыі.

"А яшчэ з дапамогай выразанкі можна ўпрыгожваць гатовыя паштоўкі або рабіць іх самастойна", — выказаў думку нехта з шаршаткаўцаў. Дарэчы, гэтак жа мяркуе вядомая майстрыца выцінанкі Вольга Бабурына. У яе блогу, які прысвечаны мастацтву "papercut", можна знайсці шмат цудоўных ідэй. Ну, а тым, хто не на жарт зацікавіўся гэтым відам творчасці, можна прапанаваць кніжку Вольгі "Мая выцінанка", напісаную ў суаўтарстве з Наталляй Сухой.

**Вядучая праекта — Раіса Марчук.**
**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Афарызм

*Архітэктура – душа чалавечая і таму не можа быць мёртвай.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Пісьменніка паслухаў — кнігу прачытаў

Для настаўніцы беларускай мовы і літаратуры СШ № 3 г. Дзятлава Тамары Ляўшук сустрэчы з пісьменнікамі сталі ўжо неад'емнай часткай школьных урокаў. Толькі за апошнія гады па ініцыятыве вопытнага педагога ў школе пабывалі Навум Гальпяровіч, Анатоль Зэкаў, Зіновій Прыгодзіч і шэраг іншых літаратараў. Школьнікі, у сваю чаргу, таксама гасцявалі ў сталічных пісьменнікаў: наведалі РВУ "Літаратура і Мастацтва", даведаліся пра тое, якія творы змогуць неўзабаве прачытаць на старонках любімых часопісаў "Маладосць", "Полымя" і "Нёман". На ўспамін засталіся падарункі, рэкламная прадукцыя і кнігі з аўтографамі пісьменнікаў, якіх дагэтуль ведалі толькі па творах.

Падобныя сустрэчы дапамагаюць прывіць школьнікам любоў да чытання ў цэлым і да беларускай кнігі ў прыватнасці. Невыпадкова, удзельнічаючы ў прадметных конкурсах і алімпіядах, старшакласнікі ўсё часцей тэмай сваіх даследаванняў выбіраюць творчасць ужо знаёмых пісьменнікаў, кнігі якіх не залежваюцца на бібліятэчных паліцах. Як вынік такой мэтанакіраванай працы — падзячны ліст школе № 3 за актыўны ўдзел у рэспубліканскай акцыі "Чытаем па-беларуску".

Дарэчы, гэтую традыцыю падтрымаў калектыў гімназіі № 1, а Тамара Ляўшук марыць, што да яго далучацца і іншыя школы раёна.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ,**
***г. Дзятлава***

# Падарункі дзецям — ад СПБ

Восеньскі дзень, праведзены ў Івянецкім доме-інтэрнаце для дзяцей з асаблівасцямі фізічнага развіцця, надоўга запомніцца пісьменніцам Раісе Баравіковай і Леанідзе Падвойскай. Прыехалі яны не проста на літаратурную сустрэчу, а і з асаблівай місіяй: уручыць дзецям падарункі ад Саюза пісьменнікаў Беларусі — тэлевізар і бібліятэчку з сабраных кніг. Пісьменніцы прывезлі і дыпломы СПБ дырэктару Дома-інтэрната Алене Петрашкевіч і ўсяму калектыву, а таксама ліст-падзяку ад старшыні пісьменніцкага Саюза Мікалая Іванавіча Чаргінца, у якім ён выказаў шчырыя словы ўдзячнасці ўсім людзям, хто штодня нястомна аддае цяпло сваіх сэрцаў гэтым дзецям.

Леаніда Падвойская расказала пра ўласныя творы, у якіх распавядаецца і пра людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі, а Раіса Баравікова прачытала дзецям вершы, якія напісала спецыяльна для гэтай сустрэчы.

А пасля на сцэну выйшлі маленькія артысты. Лаўрэаты міжнароднага конкурсу "Крылы дзяцінства" Мікалай Зань, Ілья Падвойскі, Аляксей Ягела, Каця Захаваева ўвачавідкі прадэманстравалі, што іх галасы могуць упрыгожыць самую вялікую сцэну. Тое ж можна сказаць пра Кацярыну Макараву і лаўрэата міжнароднага конкурсу "Кракаўскія сустрэчы" Машу Грынкевіч.

І апошняе, пра што казалі на гэтай сустрэчы пісьменніцы: кожны чалавек павінен імкнуцца да таго, каб дарыць некаму хай сабе і маленькую, але радасць жыцця.

**Раіса ШЫМАНСКАЯ,**
***Валожынскі раён***

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2824
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 03.11.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5264
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12